Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

№ 2 (29) Люты 1928

ГОД ВЫДАНЬНЯ ЧАЦЬВЕРТЫ



ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1928





# Падрыхтоўка краязнаўцаў.

Стан краязнаўчай справы па БССР, паводле справаздачных матар'ялаў і асабістых нагляданьняў, сьведчыць аб тым, што ў сучасны момант можна лічыць пэрыод організацыйнага будаваньня закончаным. Колькасьць сяброў нашых організацый, сувязь між акруговымі і раённымі таварыствамі, стварэньне спрыяючай грамадзкай атмосфэры для краязнаўчай працы--усе гэтыя этапы, з нязначнымі выключэньнямі, можна лічыць ужо пройдзенымі.

З гэтае прычыны вельмі гострым пытаньнем для нас зьяўляецца неабходнасьць замацаваць нашыя організацыйныя посьпехі, перайсьці ад формы да зьместу, паглыбіць нашу працу. Не адмаўляючыся ні на хвіліну ад далейшага пашырэньня нашай організацыйнай базы, ад ахапленьня яшчэ больш шырокіх пластоў працоўнага насяленьня энтузыязмам краязнаўчага будаўніцтва, мы цяпер павінны высунуць шэраг пытаньняў, якія датычацца найбольш адпаведнай часткі нашай справы—зьместу краязнаўчай працы. На мясцох часта наглядаецца такі малюнак: разумеючы важнасьць краязнаўчай працы, ня маючы больш патрэбы ў агітацыі, нашы мясцовыя краязнаўчыя організацыі ня могуць выканаць пэўную навукова-дасьледчую ці мэтодычную задачу; няма адчуваньня сувязі між краязнаўчай працай і штодзённымі задачамі нашага будаўніцтва ў галінах гаспадарчай і культурнай. Над гэтым трэба задумацца—кожнаму вядома, што страта пэрспэктывы можа пагражаць зрывам нашай працы і ўсё, пабудаванае з такімі вялікімі высілкамі, можа зрабіцца будынкам на пяску...

Трэба сказаць праўду: на мясцох інстынктыўна адчуваюць неабходнасьць больш паглыблёнай працы і выяўляюць вялікую зацікаўленасьць да яе—аб гэтым сьведчаць працы па апісаньні мястэчак і раёнаў, інструкцыйна-мэтодычныя даклады на конфэрэнцыях, паступова замяняючыя даклады організацыйнага характару і г. д. Але гэтая праца, запраўды краязнаўчая, робіцца вельмі малым лікам організацый; зьяўляючыся аматарскай, гэта праца не заўсёды дае адпавядаючы эфэкт і не заўсёды захапляе краязнаўчую масу, якая невыстарчаюча падрыхтавана.

Усе паказаныя моманты, якія даводзіць больш падрабязна няма патрэбы, высоўваюць першачарговую задачу—падрыхтоўку краязнаўцаў.

Падрыхтаваны краязнаўца—гэта, папершае, організатар і інструктар працы на месцы; падругое, здольны рабіць самастойна краязнаўчыя нагляданьні і досьледы; патрэцяе, здольны зьвязваць сваю штодзённую працу з краязнаўчай, ня трацячы з віду пэрспэктывы будаўніцтва

краю ў тэй галіне, якая штодзённа яго займае—гаспадарчай, культурнай і г. д. Усе гэтыя бакі па сваёй істоце нагэтулькі зьвязаны між сабой, што даволі цяжка разьбіць іх на паасобныя часткі: толькі разам узятыя яны змогуць даць падрыхтаванага краязнаўцу.

Ці ёсьць у нас у сучасны момант такія працаўнікі?

На гэта мы павінны адказаць: няма!

Наша краязнаўчая маса ў сваёй большасьці складаецца з настаўніцтва. Яно натуральна цягнецца да краязнаўчай працы: Як палітычныя мэты і програмна-мэтадычныя задачы школы, так і выпаўненьне грамадзкай працы—усё гэта штурхае настаўніка да краязнаўства. А між тым, што зроблена нашым масавым настаўнікам на месцы ў сэнсе пабудаваньня програмы школы на мясцовым матар'яле, на матар'яле акаляючага працоўнага асяродзьдзя? Вельмі і вельмі мала! Мы маем шырокую сетку ўсялякіх агрономічных устаноў і паасобных агрономаў для абслугоўваньня вясковага насяленьня—праца па сутнасьці будаўнічага і разам з тым глыбака краязнаўчага характару! Ці выкарыстоўваецца гэты вельмі каштоўны матар'ял, які набіраецца на працягу шмат гадоў, для паглыбленьня нашых ведаў аб раёне? За выключэньнем рэдкіх выпадкаў прыходзіцца сказаць: не!

Вельмі слаба ўцягнуты ў краязнаўчую справу працаўнікі гаспадарчых органаў, тыя кадры, якія павінны ў кожным кутку нашага краю праводзіць лінію аздараўленьня нашай экономікі. Тое самае прыходзіцца сказаць аб дактарох і другіх мясцовых працаўнікох у розных галінах.

Чым гэта выклікаецца? Калі гістарычныя і політычныя ўмовы разьвіцьця нашага краю, усім досыць вядомыя, могуць даць тлумачэньне, а разам з тым апраўданьне нашай краязнаўчай няпісьменнасьці ў мінулым, дык у сучасны момант умовы настолькі моцна зьмяніліся, што мы павінны падумаць ня так аб гістарычных карэньнях гэтага пытаньня, як аб мэтодах зьнішчэньня заўважаных недахопаў. У першую чаргу трэба зьвярнуць увагу на той факт, што ўстановы, якія падрыхтоўваюць нашых краёвых будаўнікоў у розных галінах—пэдагогічныя факультэты і тэхнікумы, сельска-гаспадарчыя акадэміі і тэхнікумы, коопэрацыйныя, чыгуначныя, будаўнічыя і інш.—усе яны мала прывіваюць сваім вучням лёкальны мэтод, неабходнасьць і здольнасьць яго практычнага і навукова-дасьледчага прыстасаваньня. Што гэты мэтод усё больш і больш заваёўвае правы грамадзянства, што вынікі яго надзвычайна прыкметны ў прыродазнаўчых і гуманітарных навуках—аб гэтым ня прыходзіцца тут падрабязна гаварыць*). Тут можна спаслацца на посьпехі ў гэтых адносінах Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэтам, што можна бачыць з артыкулу проф. У. І. Пічэты „Краязнаўства ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце“ („Наш Край“ № 10 за 1927). Што датычыцца настаўніцкай масы, якая ў большасьці за апошнія гады выйшла з пэдтэхнікумаў, дык яна амаль ніякай краязнаўчай падрыхтоўкі не атрымала; толькі ў апошнім акадэмічным годзе пачалі ўводзіць у навучальныя пляны пэдтэхнікумаў, ды і не паўсюды, „краязнаўства“. У другіх навучальных установах вышэйпаказаных тыпаў гэтай дысцыпліны няма.

*) Гл. надзвычайна цікавы арт. С. Архангельскага „Локальный метод в исторической науке“ („Краеведение“ № 2 за 1927).

Усё вышэйсказанае даводзіць, што першай працай па лініі падрыхтоўкі краязнаўцаў ёсьць уключэньне краязнаўства ў навучальны плян нашых устаноў, у першую чаргу тых, якія падрыхтоўваюць асноўныя краязнаўчыя кадры—настаўнікаў—пэдвузы і пэдтэхнікумы. Толькі шляхам уключэньня краязнаўства, як самастойнай дысцыпліны, для будучага краязнаўцы будзе ясна роля краязнаўства з аднаго боку, як мэтодычнага прынцыпу, які зьвязвае між сабой розныя нувуковыя і школьныя дысцыпліны, а з другога боку, як формы практычнай працы і грамадзкага руху *).

Для агрономічных і іншых навучальных устаноў, якія падрыхтоўваюць кваліфікаваных спэцыялістых для патрэб народнай гаспадаркі, курс краязнаўства павінен быць адпаведна зьмененым і дастасаваным да іх спэцыфічных запатрабаваньняў.

Надаючы вялікае значэньне ўключэньню курсу краязнаўства ў навучальных установах рознага тыпу, мы разам з гэтым павінны падкрэсьліць неабходнасьць уключэньня яго ў скарочаным выглядзе ў тых установах, якія існуюць для павялічэньня кваліфікацыі. На розных кароткатэрміновых настаўніцкіх курсах, курсах-конфэрэнцыях і да т. п. у апошні час невялікая колькасьць гадзін аддавалася прадмету, які завецца „краязнаўствам". Але ў гэтым курсе ня было ніякага адзінства. Адны тлумачылі яго, як мэтод экскурсій, і ілюстравалі гэта адпаведным чынам; другія разумелі яго, як ілюстрацыйны момант пры правядзеньні паасобных комплексаў; трэція—як мэтод выкладаньня навучальнага матар'ялу для 3 году навучаньня. Пры такім становішчы рэчаў вынікі былі нязначнымі—нічога з гэтага курсу ня было вынесена новага ў сэнсе мэтодычным; аб організацыйных выніках і гаварыць ня прыходзіцца—яны зусім адсутнічалі. А таму неабходна апрацаваць адзіную програму курсу краязнаўства для кароткатэрміновых настаўніцкіх курсаў, якія організоўваюцца ва ўсіх нашых акругах; у програме павінны быць дадзены практычныя, кіраўнічыя і мэтодычныя заўвагі настаўніку-краязнаўцу.

Асаблівую ўвагу і ініцыятыву ў справе падрыхтоўкі краязнаўцаў павінна праявіць ЦБК. У сучасны момант на мясцох ужо вылучыліся паасобныя працаўнікі, для якіх краязнаўчая справа зрабілася неабходнай сталай працай. Гэтым працаўнікам часам не хапае краязнаўчай асьветы; часта яны зьбіраюць каштоўны матар'ял, ня маючы магчымасьці яго сыстэматызаваць і апрацаваць; часта яны зьбіраюць усялякія матар'ялы, ня ўмеючы адрозьніць каштоўныя ад некаштоўных. Мы думаем, што для працаўнікоў, якія ўжо выявілі актыўную зацікаўленасьць да краязнаўчай працы, павінны быць організаваны спэцыяльныя краязнаўчыя курсы, на якіх яны змогуць атрымаць інструктарскую краязнаўчую падрыхтоўку. Тут яны мелі-б магчымасьць азнаёміцца з пастаноўкай краязнаўчай працы ў розных краінах, з прыстасаваньнем краязнаўчага прынцыпу ў розных дысцыплінах—тэорэтычна і практычна, з краязнаўствам у справе аховы культуры, з музэйнай справай і г. д. Першы выпуск гэтых курсаў даў-бы нам адразу кадр інструк-

*) Паводле нашых вестак, ЦБК у сучасны момант распрацавала і разаслала на разгляд адпаведных інстанцый проект курсу краязнаўства ў пэдогогічных і інш. навучальных установах; аб гэтым проекце мы будзем гаварыць у наступным № „Нашага Краю".

тароў-кіраўнікоў мясцовай працы, якая дзякуючы ім значна ажывілася-б. Практыка ЦБК у сваю чаргу дала-б прыклад у справе арганізацыі кароткатэрміновых курсаў-конфэрэнцый (карыстаемся выпадкам падкрэсьліць тут ініцыятыву Студэнцкага Краязнаўчага Т-ва пры БДУ ў справе арганізацыі краязнаўчае студыі).

Арганізуючы і наладжваючы краязнаўчыя інтарэсы дарослых, мы гэтым самым арганізоўваем інтарэсы вучняў. Існуючыя школьныя краязнаўчыя гурткі ў большасьці працуюць у нас без належнай сыстэмы дзякуючы адсутнасьці падрыхтаваных кіраўнікоў. Між тым якраз краязнаўчая праца можа і павінна быць аднэй з пануючых форм грамадзка-карыснай працы школы, аб якой так багата кажуць, але да якой яшчэ не знайшлі ключа. Плянавасьць і організаванасьць з пэўнай краязнаўчай мэтавай устаноўкай павінна быць унесена ў справу нашых школьных вучнёўскіх экскурсій, што зноў такі магчыма толькі пры існаваньні практычных кіраўнікоў.

Адначасна з падрыхтоўкай краязнаўцаў у шырокім разуменьні гатага слова трэба зьвярнуць увагу і на задачу больш вузкую і разам з тым надзвычайна сур'ёзную, падрыхтоўку працаўнікоў для ўстаноў. якія захоўваюць нашы культурныя каштоўнасьці—для музэяў і архіваў. Апошні час шмат кажуць аб новых задачах музэяў пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі, аб тым, што яны павінны ня толькі ахоўваць, але і прыцягваць шырокія масы да культурнай справы, але ў нас яшчэ вельмі мала музэйных працаўнікоў новага тыпу. На мясцох стыхійна ўзьнікаюць краязнаўчыя музэі, якія часта гінуць ня толькі ад адсутнасьці памяшканьня, але дзякуючы і адсутнасьці добрага кіраўніка. Неабходна, каб пры організацыі рознага роду спэцыяльных курсаў для архіўных і музэйных працаўнікоў быў прыняты пад увагу іх краязнаўчы характар, які пачынае з кожным днём адыгрываць у іх справе ўсё большую і большую ролю.

Вось асноўныя лініі ў справе падрыхтоўкі краязнаўцаў. Мы ня вычарпалі ўсіх задач, якія высоўваюцца гэтай сур'ёзнай проблемай. Мы вызначылі тыя задачы, вырашэньне якіх у нашых умовах зьяўляецца неабходным мінімумам для забясьпечаньня нашай працы, для запаўненьня яе жывым зьместам. Самае важнае: неабходна пакласьці пачатак гэтай працы, і чым хутчэй, тым лепш.

*Г. Аляксандраў.*

---

**З. І. Даўгяла.**

# Стары Менск.

*(Менск у XVI ст.).*

Менск атрымаў прывілей на майдэборскае права ў той час, калі пачалі наладжвацца зносіны з Масквой пасьля шлюбу вял. князя Аляксандра Казіміравіча з дачкой вял. кн. Маскоўскага Івана III (15 лютага 1495 г.).

Прымаючы пад увагу, што праз Менск пралягаў вялікі гандлёвы шлях: а) праз Лагойск, Барысаў, Воршу, Смаленск у Масковію, або

в) праз Барысаў, Лагойск, Магілеў, Быхаў, Чачэрск, Старадуб—у Масковію і на Украіну, і што апрача гэтага ад Менску (праз Слуцак і Берасьце) ішоў шлях на Валынь і на захад у Польшчу—рэгуляваньне гандлёвае гаспадаркі Менску ў 1499 г. мела надзвычайна вялікае значэньне ў яго далейшым экономічным становішчы.

Неспакойны і для купцоў небясьпечны час першых двух дзесяцігодзьдзяў XVI ст., калі ішла, амаль што няспынна, вайна з Масквой,—наогул надзвычайна дрэнна адбіўся на разьвіцьці і росквіту экономічнага становішча Менску.



Фот. І. А. Сербава.

Рэшткі Менскага Замчышча з боку р. Сьвіслачы.
(Гл. плян Менску „Наш Край" 1928, № 1, стар. 50).

Ад 1523 году маем цікавы ліст вялікага князя Жыгімонта І да сойму. „Усе купцы, як з Вял. Княства Літоўскага, так з Кароны Польскай, Смаленскі шлях зусім пакінулі і ўсякія тавары вязуць да Рыгі. Адсюль дзяржаве вялікая шкода. Чаму сойм павінен зрабіць забарону". Усе гандляры, пад пагрозай пазбаўленьня тавараў, абавязваліся езьдзіць ня к Рызе, прычым абмінаўся гандлярамі Менск і яго мытніца, а „той дарогаю старою к Маскве *на Менск* і Смаленск". Відаць, што гэта зьмена гандлёвага шляху была выклікана вызначанымі політычнымі прычынамі, небясьпекай на ўсходняй мяжы, але ўрад клапаціўся, каб Менск не абмінаўся.

Каб зразумець гэты факт, трэба заўважыць, што ў 1505 годзе места Менскае, паводле хронікі Стрыйкоўскага, спалілі татары, якія

зьявіліся сюды пад кіраўніцтвам хана Менглі-Гірэя. Пацярпела вельмі насельніцтва, хаця татары ня здолелі ўзяць замку Менскага. Відаць, усю злосьць выявілі на мірных жыхарох: места спалілі і захапілі вялікі палон. Пасьля-ж уходу татар Менск зараз пацярпеў ад маравой пошасьці.

Гэтага мала. У працягу першых 20 год XVI сталецьця, калі ішла барацьба з Масквой, Менск быў асяродкам, дзе зьбіраліся і адкуль накіроўваліся Польска-Літоўска-Беларускія войскі. Пэўна, далей, вядома, што ў 1508, 1514 і 1519 гадох над Менскам былі і маскоўскія войскі. Усё гэта было перашкодай для гандлю, які і абмінаў Менск.

Эканомічна занепадаўшае места Менскае паклапацілася ў 1517 годзе, каб аднавіць зацьверджаньне ўрадам усіх сваіх праў і вольнасьцяй. Гэтым Менскія мяшчане яскрава выявілі сваю грамадзкую солідарнасьць. У месьце насьпела ўнутраная барацьба паміж насельніцтвам, бо ўжо з пачатку XVI ст. адзначыліся досыць буйна некаторыя супярэчнасьці ў грамадзкім жыцьці г. Менску. Пад мітрапалітам, папамі і манастырамі ў Менску была значная колькасьць мяшчан. Яны займаліся рамяством і на рынку вялі гандаль паводле старых прывілеяў, аднак, усе гэтыя мяшчане не плацілі сярэбшчыны і іншых паплаткаў разам з менскімі мяшчанамі, якія знаходзіліся пад прысудам майдэборскага права, і не давалі падвод. 11 кастрычніка 1522 году вял. князь забараніў магістрату браць з вызначанае катэгорыі мяшчан сярэбшчыну і іншыя падаткі, а таксама і падводы. Магістрат усё-ж такі імкнуўся, каб падаткі на ратушу гэтыя мяшчане плацілі, бо яны займаліся гандлем таварамі як сваёй продукцыі, таксама скупкай соладу і збожжа па вёсках і прывозілі ў Менск на продаж. 20 мая 1537 г. вял. князь выдаў другі ліст, якім гэта абкладаньне зноў было забаронена.

Прымаючы пад увагу вызначаны падзел па юрысдыкі з аднаго боку, і таксама і тое, што ў Менску мела сваю значную маемасьць магнатэрыя (як напрыклад князі—Крошынскія, Одынцовічы, Друцкія-Горскія, Доўманты, Талачынскія, Слушкі, Саламерыцкія і іншыя паны), мы павінны констатаваць, што ў Менскіх мяшчан з-пад юрысдыкі права майдэборскага было ня мала конкурэнтаў, якія рамяством і гандлем падтрымоўвалі сваё існаваньне і тым адрывалі ў першых значную частку гандлёвага заробку і, напэўна, нішчылі мяшчан. Але, на агульным дабрабыце места гэта не адбівалася цяжка.

Калі ў 1-й палове XVI стал. Менск цярпеў ад вайсковых падзей, то ў другой палове гэтага сталецьця ён пацярпеў ад пажараў, у сувязі з якімі гісторык мае некалькі вельмі каштоўных эканомічных праяў.

У сувязі з пажарам, зьнішчыўшым у 1551 г. магістрацкія докумэнты, паміж менскімі мяшчанамі, якія мелі ў сваім уладаньні землі на тры мілі наўкола места, пачаліся непаразуменьні і сутычкі з сумежнымі ўладарамі зямель—князямі, панамі, духоўнікамі і інш. Менскага павету. Апошнія пачалі псаваць старажытныя межы і захопліваць гарадзкія грунты. Мяшчане занесьлі скаргу гаспадару. Высланы рэвізор Венцлаў Мікалаевіч, дзяржаўца Скерстамонскі і Росіенскі, абыйшоў і пацьвердзіў старыя межы зямельных уладаньняў места і зрабіў поўную рэвізію грунтаў, зямель, сенажацяй і лясоў гаспадарскіх, якія Менскія мяшчане мелі ў сваім карыстаньні.

Мэтай гэтае рэвізіі, апрача таго, было, каб даць Менску уставу, вызначыць узамен падвод—„падводные пенезі" і ўстанавіць межы наогул для гаспадарскіх грунтаў.

Бязумоўна, гэта справа ў свой час была вялікім інтарэсам, навіной дня, бо ўскалыхнула ўсе часткі грамадзянства, якое цікавілася зямлёй і гаспадарчымі ўгодзьдзямі. Мяшчане вышлі з старастай і войтам Менскім Васілём Тышкевічам і лянтвойтам Паўлам Тытай. Ад зямян прымалі ўдзел: князь Іван Доўмант, баяры, падданыя мітрапалітанскіх, замковыя, манастырскія, княскія, баярскія, якія жылі ў Менску. Да іх далучыліся людзі з ваколіц. Сумежнымі з Менскімі мяшчанскімі грунтамі ўладарамі паказаны: на р. Цне князь Крошынскі, Мікольскі манастыр (пры дарозе Лагойскай і Прылепскай), мітрапалітаў двор (бор Прылепы), манастыр Узьнясенскі і вёскі: Калодзішчы, Чурылава, Маляўкі, Шэйпічы, маёнтак Гатоўскае Служкаў, Селішча-Трэцьцякова, двор Лошыца князя Талочынскага, двор Менскага войта (сталовы), Лог Срэбрны, Сухая Лошыца князя Адынцова (чаму называлася Лошыца Адынцова), двор Сухароўскі пана Куровіча, Брылеўшчына, Пятроўскае, Зарэчаны, гарадзішча Барыслаў. Агулам вызначаецца, што Менскія мяшчане, якія карысталіся майдэборскім правам, у XVI ст. мелі вялізарныя грунты і сенажаці.

Далей, паводле гэтага-ж докумэнту, мы бачым, што ад Менску разыходзіліся у той час наступныя шляхі: 1) Віленскі праз Цну, 2) да Дубаўлян і Козына, 3) Лагойскі, 4) Прылепскі, 5) Барысаўскі, 6) Гарадзецкі, 7) Друцкі, 8) на Чэрняў брод, 9) Магілеўскі, 10) Пярэжырскі (праз Лошыцу), 11) Слуцкі, 12) Койданаўскі, 13) Тарасаўскі, 14) Ракаўскі.

Паколькі гэтыя ўсе шляхі захаваліся і па сягонешні час, можна бачыць, на якім добрым шляховым стыку знаходзіўся Менск у XVI ст. Адсюль-жа відаць, што быў шэраг экономічных умоў, спрыяўшых разьвіцьцю гандлёвых зваротаў Менскіх мяшчан і злажыўшыхся з даўніх часоў.

У 1552 г. мяшчане атрымалі вял.-княскае зацьверджаньне ўсіх старых прывілеяў (ад 28 сьнежня 1552 г.) і права на ярмаркі ў Менску.

У 1569 г. Менск зноў згарэў, прычым зноў пагарэлі ўсе прывілеі. Таму на Люблінскім сойме, 16 ліпня 1569 г., было надана Менску новае пацьвярджэньне папярэдніх прывілеяў.

Праз 5 год, у 1574 годзе, Менск таксама пацярпеў надзвычайна ад пажару. Згарэла 600 двароў, 10 правасл. цэркваў і 2 р.-каталіцкіх касьцёлы.

У 1579 годзе Менск зноў гвалтоўна пагарэў.

У канцы XVI ст. (каля 1590 г.) пацярпеў ад пажару замак і зноў пагарэлі прывілеі, якія мела места, чаму ад 20 студзеня 1591 г. мяшчане клапаціліся аб узнаўленьні сваіх прывілеяў.

Гэты павярхоўны пералік сьлязьлівых падзей, якія з такой сталасьцю паўтараюцца, гэты шэраг навальніц, якія выцярпела места Менскае ў XVI стагодзьдзі, яскрава сьведчыць, чаму ў канцы гэтага веку (з 1592 г.) мяшчане і купцы скардзяцца на беднасьць і чаму яны не маглі здолець, каб нават пабудаваць на р. Сьвіслачы млын, на што мелі даўны прывілей. У гэтым 1592 г. Менскія мяшчане, паводле іх хадайніцтва, атрымалі ад Жыгімонта III дазвол, каб пабудаваць на

рэчцы Пярэсьпе, якая ідзе з Камарова балота ў р. Сьвіслач, адзін млын мучны, а другі паперны і, апрача гэтага, другі млын мучны на р. Крупцы, без якіх-небудзь паплаткаў у вял.-княскі скарб.

У гэты-ж час пацьверджана права Менскіх мяшчан на пабудову капніцы або васкабойні ў Менску, што сьведчыць аб існаваньні гандлю воскам яшчэ ў гэты час.

Ня гледзячы на заняпалае экономічнае становішча к канцу XVI ст., грамадзянская сьвядомасьць Менскіх мяшчан зрабіла значную эволюцыю.

Аб гэтым сьведчыць тая мяшчанская ўхвала (або „вількер“), які мы маем ад 1590 году.

Пасьля ўводу майдэборскага права кіраваньне мяшчанскімі справамі ў Менску, у працягу XVI ст., знаходзілася ў руках бурмістраў. Іх абіралі мяшчане ў працягу кожнага году некалькі разоў. Але мінула стагодзьдзе і 8 лютага 1590 г. рада бурмістраўская зрабіла ўхвалу аб новым парадку абіраньня магістрату, на што згадзілася і паспольства. Сутнасьць ухвалы ў наступным: абіраньне на кожны год асабовага рочнага складу магістрату (2 бурмістры, 2 райцы і 2 лаўнікі) зьменена ўперад ад вясеньняга Міколы (9 мая) на больш доўгі тэрмін — тры гады; выбары рабіліся зразу на гэты трохгадовы тэрмін; таксама павінны абірацца 2 бірчых для атрыманьня падаткаў і 2 шафары. Папярэдняя практыка дазнана шкадлівай, бо вынікала нязгода, недагляд у гарадзкой гаспадарцы і нядобрая забясьпека ратушнае маесьці і гарадзкіх пажыткаў. Грамадзянства Менску цярпела шкоду і цяжар, і паміж сябрамі гарадзкой рады адбываліся нязгоды і спрэчкі. Відаць, былі і іншыя падставы. Нядарма цяпер ухвалена:

1) каб багатым і бедным, суседзям і наезным купцом, чынілася аднолькава справядлівасьць;

2) каб бунтаўнікі з Менскай рады выганяліся з места, а паспаліты чалавек караўся;

3) каб па прыкладу іншых мест вызначалася магістратавым урадоўцам пэнсія: бурмістрам двум па 200 злот. польскіх, бурмістрам, якія будуць засядаць на судох, па 16 кап. грошаў, двум райцам па 3 капы грошаў, а двум лаўнікам па 1 кап. грошаў літоўскіх з Менскіх прыбыткаў у год;

4) на канцы, для пасяджэньняў Менскае рады вызначаны адзін дзень у тыдзень—чацьвер.

Гэты „вількер“ унёс новыя падставы самакіраваньня ў гарадзкое жыцьцё і спрыяў замірэньню ў адносінах паміж меншым і старшым мяшчанствам. Мажліва, што дзеля гэтага да нас і не дайшло зьвестак аб тэй зацятай барацьбе паміж мяшчанствам, якая ішла ў іншых гарадох (напрыкл., у Магілеве) у гэты час.

У наступным 1591 годзе (12 студзеня) Менску быў наданы гэрб: на блакітным фоне намалявана „благародзіца“ ў зьзяньні, абкружаная шасьцёма анёламі.

Социяльна-экономічная гісторыя Менску за час ад паловы XVI стагодзьдзя да 1606 году досыць добра замалёвана ў прывілеі Жыгімонта III (ад 26 мая 1606 г.). Чаму неабходна спыніцца на гэтым цікавым докумэнце.

У часы Лівонскай вайны (1559—1561 г.г.), а затым вайны Маскоўскай (1563—1582) самы Менск і насельніцтва яго вельмі пацярпела і дайшло да вялікага зьнішчэньня ад пераходаў і кватэр („леж“) жаўнераў і конфэдэратаў. Між тым места было блізка „ку межам чужаземным“, і ў ім звычайна адбываліся вялікія справы дзяржаўнага значэньня, соймы і, асабліва, суды трыбунальныя. Мяшчане прасілі паратунку і палёгкі. Папераду ўсяго Менскія гандляры імкнуліся, каб дабіцца абмежаваньня ўсякіх наезных гандляроў. Дагэтуль, як чужаземныя купцы, таксама купцы з мест і мястэчак Літоўска-Беларускай дзяржавы і Польшчы, мелі вольны гандаль оптавы і ў раздроб. Вырабы шаўковыя, суконныя, турэцкі або венэцкі мухаер (шоўкавыя матэрыі), паркалёвыя палотны і інш. прадаваліся гэтымі купцамі ў раздробіцу, або аддаваліся на шынк. У выпадках протэстаў, яны лёгка знаходзілі для сябе абаронцаў і ахоўцаў і гандлявалі, як жадалі. Для Менскіх гандляроў гэта было конкурэнцыяй, якую яны не маглі дагэтуль зьнішчыць.

У 1606 годзе Менскія мяшчане пачалі хадайніцтва прад дзяржаўным урадам і атрымалі прывілей, якім гандаль у раздроб быў прызначаны ў Менску выключна мескім купцом. Усе наезныя гандляры маглі прадаваць свае тавары толькі оптам, пад пагрозай конфіскацыі тавараў.

Мала гэтага. Спаміж Менскіх жыхароў татары і мяшчане іншых юрысдыкцый, а не майдэборскага права і яўрэі жывіліся таксама гандлем у месьце. Цяпер усім гэтым катэгорыям насельніцтва гандаль быў забаронены. У гэтым прывілеі першы раз асабліва падкрэсьлена, што за Менскам захованы стары звычай, каб яўрэі тут не вялі гандляў, і ня мелі крам. Нават прыежджыя гандляры былі пазбаўлены права гандлю паміж сабой, апрача толькі ў час кірмашоў, але павінны былі прадаваць свае тавары ў Менску толькі мяшчанам Менскім.

Адсюль мы бачым, што ўжо ў 1606 г. у Менску адбываліся ярмаркі, аб якіх маем успамін у прывілеі 1552 г. і што ў пачатку XVII стал. Менскія мяшчане-гандляры майдэборскага права дабіліся поўнае монополіі на гандаль. Конкурэнтам было забаронена ня толькі гандляваць, але і „мець краму“...

Агульны экономічны дабрабыт Менску ў XVI ст. толькі прыблізна высьвятляецца на падставе земскіх падаткаў і, часткай, адначасовых пазык на дзяржаўныя патрэбы, а таксама на аснове лічбы коняй, якія выстаўляў Менск у гэтым сталецьці. Гэтыя даныя зьведзены ў наступнай табліцы, у працы М. В. Доўнар-Запольскага „Государственное хозяйство Литовской Руси при Ягеллонах“ (Кіеў 1901 г. дадатак CV). Па суме ўсіх вызначаных падаткаў Менск займае 5-е месца (пасьля Вільні, Коўны, Горадні і Берасьця) і вельмі мала чым адрозьніваецца ад Наваградку, як відаць з наступнае табліцы.

| Назва падаткаў | Падатак земскі | | | Пазычкі | | | | Лік коняй | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гады / Гарады: | 1529 | 1534 | 1551 | 1561 | 1563 | 1565 | 1567 | 1513 | 1552 |
| | копы грошаў | | | | | | | | |
| 1. Вільня .. | 1500 | 500 | 500 | — | — | — | 8000 | 500 | 500 |
| 2. Коўна .. | 300 | 250 | 100 | — | — | 300 | 1000 | 50 | 50 |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3. Гарадня. | 180 | 100 | 51 | 1000 | 800 | 400 | 120 | 20 | 50 |
| 4. Берасьце | 150 | 200 | 100 | 300 | 600 | 300 | 200 | 150 | 150 |
| 5. Менск .. | 50 | — | 50 | 500 | 500 | 100 | 150 | 10 | — |
| 6. Наваградак ..... | 50 | 60 | 60 | 500 | 400 | 200 | 100 | 20 | 20 |

Каб высьветліць экономічны дабрабыт Менскіх жыхароў XVI ст., зьвернемся да тэстамэнту (19 мая 1599 г.) Менскай мяшчанкі, пад правам майдэборскім, Варушы Яцукоўны, па мужу Антаневіч. Тут вызначана, папершае, нярухомая маемасьць яе: а) дом у Старым рынку з грунтам, гародам і надворнымі будынкамі; б) дом другі, новапабудованы, таксама з грунтам, з будаваньнем і гародам пры возеры, якое было пад замкам; в) дварэц непадалёку ад м. Менскага над р. Слепней, які быў пабудованы яе мужам на зямлі, набытай ад розных мяшчан майдэборскае юрысдыкі. Гэтыя абодвы дамы і дварэц мяшчанка Варуша Яцукоўна адказала на брацкія шпіталі пры царкве саборнай і царкве ўскрасенскай.

Далей пры вызначаным дварцы за местам мелася быдла, засевак збожжа (жыта 10 салянак).

Была і хатняя маемасьць: піўны кацёл; гарцаў цыновых два; паўгарцоўка адна, паўквартка; цыновых талерак сем; паўміскаў чатыры; трыног; ражон; чарка срэбная (знаходзілася ў закладзе за 3¹/₂ капы грошаў); кубак срэбны, жупан брунатны фалендышовы казацкі з 27 срэбнымі гузікамі; саян брунатны фалендышовы і куртка зялёнага атласу (была ў закладзе ў 5 копах грошаў); дылея фалендышовая брунатная (у закл. у 2 капы грошаў). Апрача гэтага меўся ў яе вайсковы ўбор: зброя, шышакі два, прылбіца адна, зарукаўе адно.

Мелася аўсу 4 бочкі.

Грошай у гатоўцы знаходзілася ўсяго 7 коп і 54 грошы.

Але ўсё срэбра і вопратка паказана ў закладзе ў розных мяшчан.

Гэты документ зьяўляецца ўзорным у тым сэнсе, што малюе нам досыць выразна жыцьцё Менскага мяшчанства XVI ст. Мяшчане маюць па некалькі дамоў, дварцы за местам з палеткамі і быдлам, але гатоўкі грашовае няма настолькі, што не хапала на выдаткі бягучага жыцьця якіх-та 15 коп. грошаў (=900 грошаў =каля 200 пудоў жыта). Тым больш ня было грошай на такія выдаткі, як пахаваньне памершага члена сям'і: 36 коп. грошаў (2160 грошаў=каля 400 пуд. жыта) трэба было запазычыць.

Прад намі таксама высьвятляецца сьветапогляд гэтае мяшчанскае групы. Яна не знаходзіць анічога лепшага, як аддаць гэтую ўсю маемасьць на грамадзянскую справу—утрыманьне брацтвам шпіталяў для ўбогіх людзей.

Трэба адзначыць, што ў рэлігійным жыцьці Менску гэта быў час разгараўшайся барацьбы. Да паловы XVI стал. Менск ня ведаў якіх-небудзь рэлігійных спрэчак. Чамусьці парахвіяльны р.-катал. касьцёл быў нават пабудаваны на прадмесьці за р. Сьвіслаччу, а ня ў горадзе. У другой палове XVI ст. тут зьяўляюцца кальвіністыя з Слуцку. Па-

чаўся нейкі рух. Але хваляваньне ня было вялікім. У 1580-х гадох у Менску зьвілі сваё гняздо езуіты. Непераможная ў хітрыках і ўменьні лавіць у сваю гнілую павуціну, гэта „армія Езусава“ значна падняла хвалю рэлігійнага руху ў датуль спакойным Менску.

Грамадзянства Менскае ў 1590 г. з‘арганізавалася ў Менску ў так званае „брацтва“ пры замкавай саборнай царкве і атрымала, 11 верасьня 1592 году зацьвярджэньне і дазвол на адчыненьне школы грэцкага і беларускага пісьменства.

Як відаць з тэстамэнту грамадзянкі Антоневічавай, усё праваслаўнае мяшчанства праз некалькі гадоў (у 1599 г.) уваходзіла ўжо ў склад гэтага брацтва, якое для выкананьня сваіх заданьняў мела патрэбу ў тэй матар‘яльнай ахвяры, якую атрымала ад Антаневічавай.

Гэты факт заснаваньня брацтва меў надзвычайна вялікае значэньне ў грамадзянскім жыцьці г. Менску XVII ст. Тут адзначым, што самым багатым у Менску быў старэйшы па часу заснаваньня манастыр Узьнясенскі за р. Сьвіслаччу. Пры ім было шмат зямлі, на якой сядзелі падуладныя манастыру мяшчане. Яны плацілі чынш у манастырскі скарб. Апрача гэтага манастыр меў млын у Менску на р. Сьвіслачы каля Хлусава мосту і значную маемасьць зямельную за горадам, пад назвай Трасьцянец. У 1570 годзе гэты багаты манастыр захапіў стараста Менскі Васіль Тышкевіч. У гэтым манастыры ў 1570 годзе, з дазволу караля, пасяліўся шляхціц Бака, які расьцягнуў рухомую маемасьць манастыра і самы манастыр даведзены быў ім да зьнішчэньня. У 1576 г. тут ужо быў новы шляхціц-уладар Сьцяпан Дастаеўскі. Ад 27 лістапада 1579 г. захаваўся ліст на ўвод гэтага шляхціца ў валаданьне царквой і манастыром, з якога відаць поўная руіна гэтага багатага манастыра. У Узьнясенскім манастыры абсталяваліся першыя уніяцкія духоўнікі ў Менску (1596 г.) і павялі побач з езуітамі барацьбу супроць праваслаўных.

---

**М. Касьпяровіч.**

# З гісторыі краязнаўства.

## I. На шляхох да беларускага краязнаўства.

Ва ўсе часы і ва ўсіх народаў моладзь давала найбольшыя кадры краязнаўцаў. Тамака, дзе даўно існавалі свае вышэйшыя школы, гэтыя маладыя краязнаўцы былі найбольш падрыхтаваны. Зусім зразумела таму, што краязнаўчы рух у старонках з старымі вышэйшымі школамі найбольш моцны і гэтыя староны найбольш вывучаны і дасьледваны.

У нас на Беларусі моладзь таксама мае вялікія заслугі ў краязнаўчай справе. Але да рэволюцыі наша культурнае разьвіцьцё было пад забаронай вышэйшых школ на Беларусі ад часу зачыненьня Віленскага польскага унівэрсытэту да часу адчыненьня рускага Віцебскага аддзяленьня Маскоўскага архэолёгічнага інстытуту ў восень 1911 году— ня было. Наша моладзь павінна была выяжджаць за навукай за межы або ва унівэрсытэцкія расійскія гарады. Дзякуючы гэтаму і першыя

краязнаўчыя арганізацыі студэнцкай моладзі для вывучэньня Беларусі і яе частак былі заснаваны далёка па-за межамі Беларусі, а ўласна ў б. С.-Пецярбурзе. Такімі арганізацыямі зьяўляліся два гурткі: Студэнцкі гурток для навуковага вывучэньня Горадзенскай губ. пры імпэратарскім С.-Пецярбурскім унівэрсытэце і Беларускі навукова-літаратурны гурток—студэнтаў С.-Пецярбурскага унівэрсытэту.

Студэнцкі гурток для навуковага вывучэньня Горадзенскай губ. заснаваўся ў 1907 годзе і статут яго быў зацьверджаны саветам С.-Пецярбурскага унівэрсытэту 19 лістапада 1907 году. Згодна гэтаму статуту гурток меў мэтаю „даць магчымасьць шляхам сумесных заняткаў вывучыць тыя асаблівасьці Горадзенскай губ., якія да гэтага часу зьяўляюцца найменш дасьледванымі, а прыватна прадметам працы гуртка“ павінны былі служыць:

а) „вывучэньне этнографічных межаў і племяннога складу насяляючых Горадзенскую губ. народнасьцяй у сувязі з іх бытам, моваю і звычаямі;

б) дасьледваньне геолёгічнага складу глебы ў сувязі з палентолёгічнымі адшуканьнямі;

в) вывучэньне гісторыі краю па нявыданых архіўных крыніцах і археолёгічных адшуканьнях;

г) асаблівасьці флёры і фаўны Горадзенскай губ. (Белавеская пушча);

д) экономічныя і статыстычныя досьледы“. Такім чынам, прасьцей кажучы, студэнцкі гурток для навуковага вывучэньня Горадзенскай губ. ставіў сабе заданьнем усебаковае вывучэньне Горадзенскай губ.

Для дасягненьня сваёй мэты гурток меў права:

а) „наладжваць сходы ў будынку унівэрсытэту для сумеснага чытаньня і вывучэньня прац, датычных, адпаведна мэтам гуртка, бакоў жыцьця Горадзенскай губ., для слуханьня прадстаўленых рэфэратаў або для гутаркі аб прапанаваных на абмеркаваньне пытаньняў, датычных ідэй гуртка;

б) наладжваць распарадчыя паседжаньні для абмеркаваньня і вырашэньня пытаньняў кіраваньня гуртка;

в) зьбіраць членскія складкі і афяры;

г) укладаць бібліотэчку з кніг, маючых адносіны да задач гуртка;

д) запрашаць профэсароў, прыват-доцэнтаў, ляборантаў і іншых асоб вучэбнага пэрсоналу унівэрсытэту для чытаньня гуртку паведамленьняў і рэфэратаў;

е) падзяліцца для выгады заняткаў на некалькі груп (сэкцый);

э) організоўваць экскурсіі і наладжваць экспэдыцыі;

ё) друкаваць працы і зборнікі, якія зьяўляюцца вынікам дзейнасьці гуртка;

ж) мець свой штэмпель“.

Амаль усе магчымыя віды працы гуртка краязнаўства наогул пералічаны ў статуце Студэнцкага гуртка для навуковага вывучэньня Горадзенскай губ. Асабовы склад гуртка меў выключна вучняў унівэрсытэту, згодна параграфу трэцяму статуту, які гаварыў:

„Членамі гуртка могуць быць студэнты, вольнаслухачы і вольнаслухачкі Пецярбурскага унівэрсытэту, а таксама асобы, устаноўленым парадкам дапушчаныя да ўдзелу ва унівэрсытэцкіх занятках“.

Для паступленьня ў члены гуртка патрабавалася рэкомэндацыя двох членаў апошняга і абраньне абсолютнай большасьцю прысутных членаў. Аб кіраваньні дзейнасьцю гуртка гавораць аж сем параграфаў яго статуту. Пры гэтым самакіраваньне гуртка значна абмежавана.

„Кіраўніцтва гуртком у пачатку кожнага навучальнага году ўскладаецца фізычна-матэматычным факультэтам па хадайніцтву гуртка на аднаго з выкладчыкаў азначанага факультэту, які выявіў жаданьне прыняць на сябе гэтыя абавязкі“.

Для непасрэднага кіраваньня справамі гуртка згодна статуту ў пачатку кожнага навучальнага году павінна было абірацца бюро з трох членаў студэнтаў, прычым адзін у адсутнасьці кіраўніка старшыняваў на распарадчых паседжаньнях, а двое іншых разьмяркоўвалі паміж сабою абавязкі сакратара і казначэя; апошні зьяўляўся разам і бібліотэкарам. Усе пытаньні, датычныя заняткаў гуртка, абраньня тэм для чытаньня і гутарак і парадку слуханьня прадстаўленых рэфэратаў, павінны былі вырашацца па згодзе між сабою бюро і кіраўніка гуртка. Сходы гуртка павінны былі склікацца кіраўніком з дазволу рэктара унівэрсытэту для заняткаў адпаведна мэтам гуртка, выбараў і абмеркаваньня спраў гуртка. Старшыняваць на сходах мог кіраўнік гуртка або, у выпадку адсутнасьці яго, адзін з выкладчыкаў фізычна-матэматычнага факультэту па вызначэньні кіраўніка. Калі кіраўнік адсутнічаў на распарадчых сходах, старшыняваць мог адзін з абраных для гэтага членаў бюро. На сходы гуртка маглі прыходзіць госьці, але з дазволу рэктара унівэрсытэту. Асобы вучэбнага пэрсоналу унівэрсытэту маглі прымаць удзел у сходах і спрэчках па пытаньнях, якія сходам абгаварваліся. Такім чынам, згодна статуту, гуртком кіраваў вызначаны факультэтам кіраўнік, ды і яго кожны крок патрабаваў дазволу рэктара. Зьмяніць-жа статут было ў той час немагчыма. Папершае, гэтага не дазволіў-бы той самы рэктар, а падругое, каб узьняць пытаньне аб зьменах у статуце патрабавалася прысутнасьць на сходзе ня менш $^{2}/_{3}$ пражываючых у б. Пецярбургу членаў і большасьць $^{3}/_{4}$ галасоў, і гэтыя дзьве ўмовы наўрад ці магчыма было выканаць. Усе іншыя пытаньні вырашаліся простай большасьцю галасоў, прычым пры роўным ліку галасоў за і супроць перавагу даваў голас старшыні.

Сродкі гуртка складаліся з членскіх складак, добравольных афяр, прыбыткаў ад выданьняў і інш. Памер членскіх складак павінен быў вызначацца штогодна сходам гуртка. Пасьля ліквідаваньня гуртка маемасьць яго пераходзіла ва ўласнасьць унівэрсытэту. Штогадовая справаздача аб дзейнасьці гуртка павінна была друкавацца ў гадавой справаздачы унівэрсытэту.

Ужо пададзеныя тутака асаблівасьці статуту Студэнцкага гуртка для навуковага вывучэньня Горадзенскай губ. сьведчаць аб тым, што дзейнасьць яго не магла разгарнуцца асабліва шырака. Яна і ня выявілася ў больш-менш значнай меры. Гурток быццам выдаў адно невялічкае выданьне. Працаваў на рускай мове і асаблівымі сымпатыямі да беларускага культурна-нацыянальнага і соцыяльнага адраджэньня, згодна цяперашняму сьведчаньню некаторых сучасьнікаў яго, не вызначаўся. Гэта быццам быў гурток, для якога зусім усё роўна было што вывучаць—ці Горадзенскую, ці Семіпалацінскую губ. Але паміж

тым у № 52 „Нашай Ніве“ за 1910 год зьмешчана наступнае павіншаваньне:

„Праўленьне „Кружка научнаго изученія Гродненской губ. при С.-Петербургском Университете“ віншуе шаноўную Рэдакцыю беларускай газэты „Наша Ніва“ з чатырохлетняй гадаўшчынай. За прэдседацеля Н. Романскі“.

Факт прысылкі гэтага павіншаваньня, бясспрэчна, ня выкліканы ніякімі прымусамі, сьведчыць аб некаторых уплывах беларускага культурна-нацыянальнага адраджэньня на гурток з аднаго боку і, прынамсі, некаторай лояльнасьці гуртка да беларускага руху—з другога.

Другі гурток, а ўласна Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў С.-Пецярбурскага унівэрсытэту, быў больш радыкальным і выявіў сябе ў значна большай меры. Ён заснаваўся ў 1912 годзе. Першы проект статуту гуртка быў укладзены ў духу тагочаснага разуменьня акадэмічнай аўтономіі студэнцтва і таму ня быў зацьверджаны. Статут ініцыятарамі заснаваньня гуртка быў перапрацаваны і ў новым відзе зацьверджаны саветам профэсароў 30 студзеня 1912 году. Галоўным ініцыятарам справы заснаваньня гуртка быў вядомы Яўгені Хлябцэвіч, а заснаваўцамі наступныя студэнты: той-жа Хлябцэвіч, Пушкарэвіч, Тарашкевіч, Адамовіч, Касьпяровіч, Курылёнак, Сушынскі, Дзядовіч, Лось, Душэўскі, Кавалевіч, Бычкоўскі, Цыбульскі, Давідовіч, Аляксюк і Вярбіцкі. Кіраўнікам гуртка, згодна адпаведнаму параграфу статуту, быў абраны прыват-доцэнт А. А. Розэнфэльд. Пры такім асабовым складзе гурток і распачаў сваю дзейнасьць.

Статут Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў С.-Пецярбурскага унівэрсытэту мала чым розьніўся ад статуту Студэнцкага гуртка для навуковага вывучэньня Горадзенскай губ. пры С.-Пецярбурскім унівэрсытэце. Мэтаю гэтага гуртка зьяўлялася „навуковае азнаямленьне з духоўным (мова, літаратура, народная творчасьць) і грамадзкім (этнографія, статыстыка, народная гаспадарка) жыцьцём беларускага народу“. Гурток меў права абіраць ганаровых членаў з асоб, якія маюць перад гуртком пэўныя заслугі. Сходы гуртка маглі склікацца па згодзе з кіраўнікам пасьля папярэдняга паведамленьня аб гэтым рэктара унівэрсытэту. На сходах прысутнасьць кіраўніка была абавязковай. Старшыняваць мог толькі кіраўнік гуртка. Усе пытаньні разьвязваліся простай большасьцю галасоў. На сходы маглі прыходзіць госьці—з студэнтаў па дазволу бюро, а з іншых асоб па дазволу рэктара. Гадавая справаздача гуртка павінна была прадстаўляцца агульнаму сходу. Маемасьць гуртка пасьля яго ліквідацыі павінна была перайсьці пад часовы загад унівэрсытэту да часу заснаваньня аналёгічнага данаму беларускага гуртка. Рэшта пунктаў статуту гэтага гуртка такая самая, як і ў статуце раней абмеркаванага. Такім чынам, як-бы ў адказ на дамаганьні заснаваўцаў пашырыць самакіраваньне гуртка яно было значна звужана абавязковай прысутнасьцю кіраўніка на сходах гуртка і інш. Але маладая актыўнасьць членаў гуртка перамагала і гэта.

Пісьменьнікі—Купала, Колас і Галубок шчыра віталі заснаваньне гуртка. Эпімах-Шыпіла часта дапамагаў яму ў працы. Шэраг вучоных, што вывучалі Беларусь з таго ці іншага боку, як Карскі, Шахматаў і інш., таксама віталі заснаваньне гуртка. Пры гэтым яны выказвалі свае

пагляды як на навуковую, так і на практычную галіну дзейнасьці новага гуртка. Гэтыя пагляды цікавы сваім замаўчаньнем некаторых запраўдных задач гуртка і навязваньнем сваіх. Раманаў заклікаў да практычнай працы на Беларусі.

Гурток заслухаў шмат дакладаў сваіх членаў і навуковых спэцыялістых, а таксама выдаў дзьве гадавых справаздачы.

З вышэйпаказаных фактаў прывітаньняў відаць, што ўплыў на гурток стараліся рабіць і нашаніўцы, прыхільнікі беларускага нацыянальна-культурнага адраджэньня, і правыя расійскія колы, ворагі гэтага адраджэньня. Не зафіксаваны моцны ўплыў на гурток тагочасных левых расійскіх колаў, пераважна соцыялістых-рэволюцыянэраў, таксама ворагаў беларускага нацыянальна-культурнага адраджэньня. Гэтыя ўплывы ў значнай меры адбіліся як на асабовым складзе гуртка, так і на выпрацаванай ім програме працы і на самай дзейнасьці яго. Па мове гурток быў рускім, хоць пры жаданьні мог выявіць сваю дзейнасьць на беларускай мове. Частка членаў гуртка, жадаючы змагацца за соцыяльнае вызваленьне беларускага народу, была супроць нацыянальнага вызваленьня яго, але баялася страціць левымі фразамі здабытае месца ў рэволюцыйна-нацыянальным руху і маўчала. Другая частка членаў гуртка змагалася за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне беларускага народу і паралiжавала праванацыянальныя русыфікацыйныя імкненьні першай. Адбывалася змаганьне беларусаў за месца ў краязнаўчай організацыі, каб вывучаць саміх сябе. Але ва ўмовах царызму дабіцца гэтага было немагчыма і гурток застаўся рускай організацыяй пераходнага тыпу да беларускай.

Такога самага пераходнага тыпу організацыяй была і трэцяя, узьнікшая ўжо на тэрыторыі самой Беларусі. Рана ці позна пры рускай вышэйшай школе на Беларусі—Віцебскім аддзяляньні Маскоўскага Археолёгічнага Інстытуту—павінна была вырасьці студэнцкая краязнаўчая організацыя. Яна заснавалася 9 студзеня 1921 году. Гэта быў студэнцкі этнографічны гурток. Хутка організацыйныя формы гуртка перасталі задаваляць яго членаў і ён праз год, 9 лютага 1922 году, быў рэорганізаваны ў этнографічную камісію пры этнографічным габінэце Віцебскага аддзяленьня Маскоўскага Археолёгічнага Інстытуту. Камісія мела мэтай: а) вывучэньне этнографіі, пераважна беларускай; б) зьбіраньне колекцый матар'яльнай і духоўнай культуры; в) разьвіцьцё этнографічнай працы ў краі шляхам засnанавьня новых аналёгічных організацый. 14 лютага 1922 году Радаю аддзяленьня інстытуту было зацьверджана палажэньне аб камісіі. Члены камісіі зрабілі шмат дакладаў на сходах яе і сабралі шмат этнографічных экспонатаў. Быў выданы часопіс „Белорусский этнограф“ на рускай мове, на якой вялася і іншая праца; Камісія зачынілася ў 1922 годзе.

### II. Першыя беларускія краязнаўчыя організацыі.

Аб заснаваньні і працы першых беларускіх організацый захавалася вельмі мала вестак. Неорганізаваная краязнаўчая праца концэнтравалася ў свой час навокал „Нашай Нівы“. У ёй часамі зьмяшчаліся анкеты для дасьледваньня пэўнай зьявы, а часьцей друкаваліся краязнаўчыя працы, калі-ні-калі працаўнікі, якія гуртаваліся каля рэдакцыі, запрашалі да сябе „на сьвята ў госьці“ працаўнікоў з розных месц

Беларусі і такім чынам адбываліся своеасаблівыя нелегальныя зьезды. Але ўсё гэта мела на мэце ў першую чаргу працу па культурна-нацыянальным адраджэньні. Да таго ўсё гэта не магло быць афармлена арганізацыйна.

Першыя, вядомыя нам, беларускія краязнаўчыя арганізацыі заснаваліся ня ў Вільні і Менску, а на провінцыі і пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Імі былі: Смалярскі гурток краязнаўства б. Ігуменскага павету (1918) і Слуцкая павятовая камісія беларусазнаўства (1922). За імі ішлі гурток вывучэньня Гомельшчыны (1923) і Віцебскае таварыства краязнаўства (1923). У 1924 годзе ўжо адбывалася масавае заснаваньне беларускіх краязнаўчых арганізацый.

Смалярскі гурток краязнаўства арганізацыйна аформіўся ў 1918 годзе і зачыніўся ў 1921 годзе. Ён меў мэтаю распрацоўку пытаньняў радзімазнаўства, вывучэньне б. Ігуменскага павету і пропаганду ідэй радзімазнаўства сярод насельнасьці павету. Складаўся ён пераважна з моладзі ад 17 да 22 год, якая змушана была адначасна здабываць неабходныя мэтодолёгічныя веды і ўмецтвы і выконваць дасьледчую працу. Сродкаў гурток, зразумела, ня меў ніякіх. Была невялічкая бібліотэчка па пытаньнях радзімазнаўства. Праца гуртка была даволі рознастайная, была ўкладзена праца „радзімазнаўства і яго задачы", а таксама „Ігуменшчына"—усебаковае апісаньне павету. Членамі гуртка быў запісаны багаты фольклёрны матар'ял і зроблена шмат фотографій. Адбылося шмат далёкіх экскурсій пехатою. Популярызавалася пытаньне на розных зьездах. Уся гэтая праца ў нязначнай меры адбілася ў беларускім кругабегавым друку. Усю сваю працу гурток вёў на беларускай мове. Шмат хто з членаў гуртка добра выявіў сябе пазьней на культурнай і савецкай адміністрацыйнай працы.

Слуцкая павятовая камісія беларусазнаўства заснавалася ў восень 1922 году і рэорганізавалася ў Слуцкае павятовае таварыства радзімазнаўства ў восень 1923 году, а апошняе ў сваю чаргу ў 1925 годзе ператварылася ў Слуцкае акруговае таварыства краязнаўства, якое ў 1927 годзе стала Слуцкім раённым таварыствам краязнаўства. Слуцкая павятовая камісія беларусазнаўства мела мэтаю апанаваньне тымі ведамі пра Беларусь, якія былі назапашаны да часу заснаваньня камісіі; распрацоўку мэтодычных пытаньняў выкладаньня комплексу ведаў аб Беларусі, г. зн. беларусазнаўства, у школах і вывучэньне і дасьледваньне Беларусі, асабліва б. Слуцкага павету. Яна складалася пераважна з асьветнікаў. За час свайго існаваньня камісія прарабіла вялізарную для таго часу працу, якая выклікала водгук на старонках „Полымя", „Савецкай Беларусі" і інш.

Зьмест шмат якіх дакладаў на сходах камісіі друкаваўся ў „Савецкай Беларусі". Гэтаму спрыяла тое, што праца камісіі мела сваім прадметам пераважна сучаснасьць і заданьні сучаснасьці. Камісар народнай асьветы Ус. Мак. Ігнатоўскі ў часе свайго побыту ў Слуцку ўхваліў працу камісіі і даручыў павятоваму аддзелу народнае асьветы, пры якім яна існавала, дапамагаць далейшаму пашырэньню працы камісіі. Калі асноўныя заданьні камісіяй былі дасягнуты і першачарговай задачай стала ўсебаковае вывучэньне павету, яна і рэорганізавалася ў павятовае таварыства радзімазнаўства.

Гурток вывучэньня Гомельшчыны заснаваўся ў Менску ў 1923 годзе і зачыніўся ў 1925 годзе. Ён складаўся з студэнтаў і меў мэтай усебаковае вывучэньне Гомельшчыны. Зімой члены гуртка працавалі пераважна над мэтодычнай падрыхтоўкай саміх сябе, а летам вялі непасрэднае вывучэньне свайго краю ў Гомельшчыне. Дзейнасьць гуртка адбывалася ў вельмі цяжкіх умовах, але ўсё-ж ён дасягнуў пэўных вынікаў у зьбіральніцкай працы і меў вялікае выхаваўчае значэньне.

Організаваньне Віцебскага губэрскага, а пасьля акруговага таварыства краязнаўства пачалося ў канцы 1923 году, але самы разгар працы адбываўся ў першай палове 1924 году. Таварыства будавалася па мяшаным прынцыпе заснаваньня бюро і таварыства, быў выпрацаваны статут і падрабязныя пляны працы па сэкцыях. Але таварыства ня было зарэгістравана ні губэрскім ні павятова-гарадзкім прэзыдыумам Выканаўчага камітэту. Толькі ў восень 1924 году адчынілася ў Віцебску акруговае таварыства краязнаўства, якое з посьпехам працуе і зараз.

Усе гэтыя організацыі вялі сваю працу на беларускай мове (а заснаваўцы Віцебскага таварыства краязнаўства імкнуліся да гэтага) і працавалі на карысьць шырокіх мас працоўных Беларусі, дапамагаючы ўтварэньню беларускай культуры пролетарскай па зьместу і нацыянальнай па форме. Таму яны з поўным правам могуць быць названы першымі беларускімі краязнаўчымі організацыямі.

---



Г. Эркін.

# Цэльская лясная дача і яе балоты.

Ёсьць месцы ў нашым краі, дзе чалавек, узброены ведамі і тэхнікай, вядзе барацьбу з магутнай прыродай і перамагае яе. Адным з такіх куткоў, дзе вынікі гэтае барацьбы найбольш рэльефна можна бачыць, зьяўляецца Цэльская лясная дача Бабруйскае акругі.

Цэльская дача знаходзіцца каля паўночнага выхаду тэй вялізнай катліны, вельмі багатай рэкамі, балотамі і пяскамі, якая ўжо даўно мае назву „Палесьсе“. Ужо пасьля таго, як эпоха ледавіковага зьледзяненьня скончылася, і ледавік, адышоўшы, пакінуў нам свае наносы і адклады, багатыя ледавіковым каменьнем і галачнікам,—пасьляледавіковыя сілы вазёр і рэк пачалі выкідваць і адкладваць вялікія масы продукту сваёй чыннасьці—чыстага кварцавага пяску. Такім чынам морэнавы ляндшафт ледавіковых адкладаў быў пакрыты масамі пяску розных відаў—ад буйнога да дробна-зернавога.

Яшчэ перад тым, як на ім пачало зьяўляцца жыцьцё і яго плошча была пакрыта расьліннасьцю, масы пяску ветрам перакідваліся з аднаго месца ў другое і ствараліся пяшчаныя пустэльні пасьляледавіковага пэрыоду. У выніку гэтай дзейнасьці ветру ў розных мясцох стварыліся яміны ці, як іх назваў акадэмік Туткоўскі, „котловины выдувания“. Часта гэтыя катліны, таксама як і ўзвышшы, рабіліся бугры-

стымі, стварыўшы знаёмы нам прыморскі ляндшафт выдмаў. Паступова, год за годам расьліннасьць замацоўвала пяскі і дала магчымасьць расьці лесу на вялікіх абшарах. Дзейнасьць сіл прыроды была паслаблена, і чалавек пачаў гаспадарыць пасвойму. Цэльская лясная дача ёсьць адзін з такіх куткоў, дзе сілы прыроды працавалі ў гэтым напрамку.

У непасрэднай залежнасьці ад глеб знаходзіцца Цэльскі лес. Дрэвастаны Цэльскай дачы прадстаўлены амаль што аднэй сасной. На бедных спажыўнымі элемэнтамі пяшчаных глебах мала што расьце, апрача нягрэблівай сасны. Папершае, на высокіх пяшчаных мясцох суха, грунтавыя воды знаходзяцца глыбака ў зямлі; толькі сасна можа разьвіць доўгі ў форме рэдзькі карэнь і пры яго дапамозе здабываць на вялікай глыбіні ваду. Падругое, у пяску, як сказана, мала спажыўных матар'ялаў, і толькі сасна, скромная па сваіх запатрабаваньнях і кармленьні, можа вытрымаць рэжым пяшчаных глеб. Такім чынам, амаль што адна сасна расьце па вялікіх абшарах, і толькі там, дзе глеба пасьпела абагаціцца некаторай колькасьцю перагною— там сасновы лес перамешваецца елкамі, дубам, бярозай і іншымі пародамі. Але аднастайнасьць сасновага лесу—толькі ілюзія для ненапрактыкаванага вока. Трэба толькі прыглядзецца, і мы заўважым, што і малавымагаючая сасна парознаму выглядае. Тут адыгрывае ролю рэльеф мясцовасьці і, разам з ім, вільготнасьць субстрату. Пяшчаныя ўзвышшы, якія зьяўляюцца найбольш сухімі, заняты сасной вельмі нізкага росту. Глеба пакрыта лішаямі з роду Cladonia. Гэта тып так званага лішайнікавага бору (Pinetum cladinosum). Травяны насьціл тутака адсутнічае альбо зусім бедны. На роўных ці троху бугрыстых плято травяны насьціл больш багаты, зьяўляюцца ў вялікай колькасьці зялёныя імхі, вільготнасьць глебы павялічваецца і сасна дасягае значнай вышыні. Такія сасновыя дрэвастаны маюць вялікія запасы драўніны. Там, дзе ў насьціле перавагу маюць зялёныя імхі: hypnum schreberi, hylocoium proliferum, ptilium crista castrensis і інш.—гэта будзе бор зялёнаімшанік (Pinetum hypno-hytocomiosum). Там, дзе ў насьціле перавагу маюць ягаднікі: брусьніцы, чарніцы—гэта будзе бор ягаднік (Pinetum vacciniosum). Сасна ў іх у большасьці, чыстая і вялікай вышыні: так у Цэльскай дачы ў бары зялёнаімшаніку 100-120 гадовая зрубленая модэль мела вышыню 31,4 mt. Такім чынам, сасна тут, як кажуць лесаводы, высокага бонітэту. Адначасна з паніжэньнем мясцовасьці і павялічэньнем вільготнасьці глебы, зялёныя імхі пачынаюць сваё месца перадаваць другім, спачатку зязюлькінаму ільну, затым— белым сфагнавым імхом і рост сасны робіцца горшым. Гэта апошняя стадыя—сфагнавага бору (Pinetum sphagnosum)—пры далейшым забалачваньні пераходзіць у запраўднае імшанае балота з каравай нізкай сасной (sphagnetum pinosum), вельмі распаўсюджанае ў вялізных катлінах, занятых балотамі, аб якіх мы будзем далей гаварыць.

Да тыпаў, якія апісаны, трэба аднесьці так званы часовы тып сасновых насаджэньняў, гэта—бор верасьнік (Pinetum callunosum). У ім верас (calluna vulgaris), пакрываючы глебу густым насьцілам, дапамагае натуральнаму аднаўленьню сасны.

Вось агульныя прыродна-гістарычныя рысы Цэльскай лясной дачы.

II.

Мы ўжо гаварылі, што ветры ў пэрыод пасьляледавіковых пяшчаных пустэльняў стварылі вялізныя „катліны выдмуханьня“. Такія зьніжаныя месцы ў Цэльскай лясной дачы займаюць вялікія плошчы. Найбольш глыбокія катліны былі запоўнены вадой і зьяўляліся глыбокімі вазёрамі; самыя нязначныя нізіны паступова самі забалачваліся і рабіліся балотамі. Вазёры яшчэ доўгі час існавалі, покуль паверхня іх не зацягнулася расьліннасьцю. Спачатку дзейнасьць вады ў возеры адкладвала на дно вазёрны адборачны пясок, затым жыцьцё, якое зарадзілася ў возеры ў форме драбнейшых організмаў і расьлін (плянктон), пачало адміраць і адкладвацца на гэтым пяску. Так цягнулася шмат гадоў, покуль рэшткі мікроорганізмаў і мікрорасьліннасьці ня ўступілі месца травяной, пераважна, асочнай і мохавай (зялёныя імхі) расьліннасьці. Разам з ростам балота ўверх гэтая расьліннасьць зьнікае і на яе месцы ўзьнікае другая—белыя імхі sphagnum'ы з падарожнікамі: падвеем, журавінамі, расіцай, маташнікам і інш. У дрэўным ярусе пануе сасна, нізкая, каравая. З нарастаньнем сфагнуму ўверх яна гіне, задыхаючыся ад недахопу тлёну і празьмернай вільгаці. Паводле досьледаў проф. Дубаха, махавы насьціл на Беларусі нарастае штогодна на 1,3—2 см. З цягам часу гэты мох пад уплывам уласнага цяжару прасуецца, і зьмяншаецца ў аб'ёме. Па вылічэньнях проф. Дубаха на некаторых балотах Беларусі адзін mt. торфу нарастае на працягу 300 год, а ў адным выпадку на працягу 700 год. Два mt. торфу нарастаюць на працягу 1000 і больш гадоў.

Такім чынам, патрабавалася шмат тысяч год, каб адно возера ў урочышчы „Заслаўе“ Цэльскай дачы ператварылася ў тарфянік. Глыбіня яго, паводле маіх вымераў, звыш 6 mt. Калі спусьціць тарфяны сьвідар і на розных глыбінях гэтага тарфяніку ўзяць пробы торфу, дык мы будзем мець перад сабой адклады, раней памянёныя. Тут, між іншым, таўшчыня плянктонавых адкладаў у адным выпадку была роўна 1,5 mt.

Але ня ўсе балоты Цэльскай дачы прайшлі такое самае разьвіцьцё: структура адных прасьцей, другіх складаней. Аднак, усе яны ў сваім разьвіцьці прыходзяць да аднаго тыпу балота—мохавага сфагнавага з каравай і нізкай сасной. Гэты тып балота, згодна прынятай клясыфікацыі, мае назву „верхавога балота“ з тае прычыны, што ў гэтай стадыі разьвіцьця балота папаўняецца верхавымі дажджавымі ападкамі. У больш раньняй стадыі свайго разьвіцьця, калі балота, будучы няглыбокім, папаўняецца грунтавой вадой, якая мае больш спажыўных матар'ялаў—расьліннасьць балота іншая, з перавагай асакі і гіпнавых зялёных імхоў, а ў дрэўным ярусе—вербаў і бяроз; у гэтым выпадку тып балота мае назву *нізіннага*. Між гэтых асноўных тыпаў ёсьць тып *пераходнага* балота, якое мае адзнакі абодвых асноўных тыпаў. Якія балоты знаходзяцца ў Цэльскай дачы і колькі іх? У 80-ых гадох мінулага стагодзьдзя ў Цэльскай дачы налічвалася 3050 дз. няпрыгоднай балотнай плошчы. На падставе захаваных плянаў таго часу вылучаны памянёныя вышэй сфагнавыя балоты з каравай сасной і пераходныя з нізіннымі. Цяпер мы можам лічбы балот даць у такім выглядзе:

| | | |
|---|---|---|
| верхавых . . . . . . . | 2367,5 дз.— | 77,6% |
| нізінных з пераходнымі . | 682,5 дз.— | 22,4% |
| Усяго . . . . . | 3050 дз.— | 100 % |

Такая вялікая колькасьць балот у Цэльскай дачы, якія прыносілі вялікую шкоду як дзяржаве, так і насяленьню, прымусіла лясное ведамства прыняць меры да зьнішчэньня ў Цэльскай дачы балот шляхам паступовай асушкі іх. Гэтую працу і выканала працаваўшая ў 80-х гадох мінулага стагодзьдзя Заходняя Экспэдыцыя па асушцы балот Палесься. Гэтай экспэдыцыяй у балотах Цэльскай дачы былі прарыты канавы, якія адводзілі воды і гэтым паступова асушалі балоты. З таго часу прайшло роўна 40 год. Паглядзім, якія вынікі патрачаных сродкаў і працы. З гэтай мэтай трэба толькі наведаць тыя месцы, у якіх раней былі непраходныя балоты: ня хочацца верыць, што там, дзе цяпер расьце добры для будовы сасновы лес, красуецца бярозавы гай ці цьвіце розным колерам сенажаць—там раней можна было праваліцца праз дрыгвяны тарфяны грунт.

У выніку праведзенай асушкі рост балот і забалачваньне сухазем'яў спыніліся. Мала таго, рэвізіяй Цэльскай дачы ў 1910 г., г. зн. праз 26 год пасьля асушкі, было высьветлена, што балоты значна скараціліся ў сваіх памерах, а некаторыя зусім зьніклі. Параўнаем лічбамі, што было раней і што стала:

| Было | Стала | Колькі зьнікла |
|---|---|---|
| 3050 дз. | 1645,5 дз. | 1404,5 дз. ці 46% |

З гэтага відаць, што амаль што палова балот зьнікла. Далей было высьветлена, што там, дзе было балота нізіннага і пераходнага характару, там яно амаль цалкам зрабіліся лесам; а там, дзе было верхавое сфагнавае балота—там частка балот засталася. Прычына гэтага ў тым, што мох сфагнум ня так лёгка аддае ваду канавам і, такім чынам, для асушкі сфагнавых балот трэба праводзіць канавы блізка адну ад другой. Паглядзім цяпер, як расьце сасна на асушаных балотах і параўнаем з тым, як яна расла раней. Выходзіць, што чым бліжэй да канавы, тым лепш расьце сасна, чым далей, тым горш. Гэта і зразумела, бо каля канавы глеба сушэй, чым дальш ад яе. Наступная табліца паказвае, як зьмяншаецца сярэдняя вышыня дрэў і запасы драўніны на пляцоўках, якія паступова аддаляюцца ад канавы.

| №№ пляцовак | Аддегласьць ад канавы ў mt. | Сярэдняя вышыня дрэў у mt. | Запас у куб. mt. |
|---|---|---|---|
| 1 | 4— 30 | 20.1 | 272.2 |
| 2 | 30— 70 | 19.2 | 221.7 |
| 3 | 70—120 | 18.8 | 222.5 |
| 4 | 120—170 | 17.6 | 167.10 |
| 5 | 170—220 | 18.1 | 169.3 |
| 6 | 220—270 | 10.88 | 97.7 |
| 7 | 270—320 | 10.12 | 76.1 |
| 8 | 320—365 | 8.48 | 57.5 |

З гэтага мы бачым, што канава дапамагала добраму росту дрэў не на ўсім абшары ад яе, а толькі на адлегласьці 220 mt. у бок ад яе.

Цяпер цікава ведаць, як расла сасна раней да асушкі і як яна пачала расьці пад уплывам правядзеньня канаў. Наступная табліца гэта ілюструе·

| №№ соснаў | Рост да асушкі | | | Пасьля асушкі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | За кольві гадоў | Па дыямэтры ў см. | Па вышыні ў mt. | За кольві гадоў | Па дыямэтры ў см. | Па вышыні ў mt. |
| 1 | 25 | 4.1 | 3.60 | 40 | 12.4 | 14.5 |
| 2 | 39 | 6.2 | 5.46 | 40 | 17.5 | 17.24 |
| 3 | 21 | 4.6 | 4.90 | 40 | 15.4 | 14.50 |
| 4 | 54 | 7.20 | 7.20 | 40 | 13.3 | 13.80 |
| 5 | 23 | 2. 9 | 3.31 | 40 | 15.3 | 13.69 |

Пададзеныя лічбы яскрава паказваюць, наколькі палепшыўся рост сасны пад уплывам асушкі. Да гэтага трэба дадаць, што сасна на балоце ў першыя гады расьце яшчэ здавальняюча, але потым, дасягнуўшы вышыні 7-9 mt., рост яе амаль зусім спыняецца і карона яе закругляецца.

Такім чынам, мы бачым, якія зьмены адбыліся пад уплывам асушкі. Там, дзе было непраходнае балота і расла нізкая каравая сасна—там вырас высокапнёвы будаўнічы лес, і чалавек пачаў карыстацца дарамі прыроды, якія пачала прыносіць яму завяяваная ім зямля.

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

Мікіцінскі, Р. Пяцэвіч і П. Ажэўскі.

## Падарож па Случчыне.

*(Матар'ялы краязнаўчай экскурсіі Слуцкага Краязнаўчага Таварыства, якая адбылася ў 1927 годзе на працягу часу з 6—21 ліпня)* *).

Думка аб экскурсіі на возера Князь у Слуцкім Акруговым Праўленьні Краязнаўчага Таварыства зарадзілася яшчэ ў 1926 годзе, дзеля чаго ім былі зроблены захады як у сэнсе набыцьця належных сродкаў, так і жадаючых прыняць у ёй удзел асоб. Сродкі былі адпушчаны ў нязначным ліку (100 руб. на экскурсію разам і конфэрэнцыю) Слуцкім Акрвыканкомам, а ўдзельнікаў на экскурсію не знайшлося. Такім чынам, экскурсія не адбылася як па недахопу сродкаў, так і дзеля адсутнасьці асоб, жадаючых прыняць у ёй удзел. Але думку аб экскурсіі Праўленьне не пакідала і ўжо спачатку 1927 году прымала належныя крокі аб яе ажыцьцяўленьні. К пачатку ліпня 1927 г. былі адпушчаны 100 руб. Акрвыканкомам і 100 руб. Праўленьнем Т-ва і мелася 6 асоб, жадаючых прыняць удзел у экскурсіі. Усе сродкі на экскурсію Праўленьне разьмеркавала наступным парадкам: на падрыхтоўку да экскурсіі 10 руб., на фотографічныя прылады 30 руб., на харчаваньне 70 руб., на набыцьцё рэчаў для музэю 40 р., на харчаваньне каня і догляд за ім 30 руб., і на непрадбачаныя выдаткі 20 руб.

Экскурсія мела сваёй мэтай кароткае абсьледваньне самага глухога закутку Слуцкае акругі—возера Князь з яго ваколіцамі ў прыродна-географічных, грамадзка-экономічных і культурна-гістарычных адносінах, з беглым вывучэньнем тэрыторыі, па якой адбывалася экскурсія.

За 15 дзён экскурсанты прайшлі пехатой усяго 232 вярсты. У склад экскурсіі ўваходзілі наступныя таварышы: Пяцэвіч Рыгор,—старшыня Праўленьня Т-ва, Мікіцінскі Ўсевалад—загадчык музэю, Ажэўскі Піліп—кіраўнік культурна-гістарычнай сэкцыі, Карп Шатэрнік—сябра Т-ва і фотограф-аматар, Нерапеня Сільвестар—сябра Т-ва. Перад выхадам экскурсія атрымала дазвол ад міліцыі і Слуцкага Аддзелу Дзяржаўнай

*) Разам з рукапісам у рэдакцыю было прыслана 66 фотоздымкаў, але, за выключэньнем некаторых, іх выкарыстоўваць нельга было, бо яны кепска праяўлены.

*Рэдакцыя.*

Політычнай Управы на фотографаваньне краявідаў і праезд па прыгранічнай паласе. Экскурсія вышла з Слуцку ў дарогу 6 ліпня ў 11 г. раніцы ў складзе пяці памянёных таварышоў і аднэй фурманкі пад розныя прылады і маемасьць экскурсантаў. Кожны ўдзельнік экскурсіі павінен быў запісваць свае нагляданьні і ўражаньні ў асабісты сшытак, а больш цікавыя віды мясцовасьці, альбо выдатныя помнікі і іншыя рэчы фотографаваць і замалёўваць.

Першая вёска, праз якую праходзілі—Журава, на рэчцы Лакнеі, сярод невялічкіх узвышшаў, мае досыць прыемны выгляд і адзначаецца добрымі сенажацямі па Лакнеі. Праходзячы каля Цараўцаў, з дарогі заўважылі некалькі курганоў, якія былі абгледжаны пры звароту экскурсіі назад. Далей каля вёскі Квасыніч, сярод жыта заўважылі могілкі, пабудаваныя на вялікіх курганох. У пасёлку „Навабелічы" які пабудованы ў 1922 г. на зямлі б. маёнтку Белічы, спыніліся адпачыць. Пасёлак заселены былымі батракамі маёнтку, якія дасюль яшчэ неабжыліся: ня маюць будоўлі ў поўнай патрэбе, няма садоў, нават гароды не агароджаны і нядобра апрацаваны. Праходзячы праз вёску Млынку, на могілках заўважылі вялікі курган. На млынкоўскіх палёх добрая пшаніца і ячмяні, чаго дасюль не наглядалася. У вярсьце ад Чапялёў праходзілі цераз новы пасёлак, які будуецца пры хутары Багданаўцы, дзе вельмі глыбокія калодзежы, хаця агульны выгляд мясцовасьці здаецца і ня вельмі высокі. Як у Багданаўцы, так і Чапялёх, ня гледзячы на супяшчаную глебу, яравыя пасевы былі добрыя. У Чапялі прышлі а 6-й гадзіне ў вечары і спыніліся на начлег у Чапялёўскім сельска-гаспадарчым агропункце, Красьнянскага сельска-гаспадарчага Т-ва.

### Вёска Чапялі і яе ваколіцы.

Вёска Чапялі знаходзіцца ў 16 вярстах ад Слуцку на Бранчыцкім узвышшы. На захад ад вёскі ў аднэй вярсьце к Радкаву знаходзіцца самае высокае месца гэтага ўзвышша, якое завецца Шынкаўшчына. Вышыня яго над роўнем мора 84,7 саж. у той час як Тамілава гара, каля вёскі Півашоў, на тым-жа ўзвышшы і якая да гэтага часу лічылася самай высокай, мае 82,6 саж., а Бранчыцы 75,3 с. Мясцовыя сяляне кажуць, што калі быў лес на Шынкаўшчыне, то ён быў відаць аж з Копыля, за вёрст 35-40. У паўночным і паўночна-ўсходнім кірунку ад гэтага ўзвышша цягнецца вялікае травяное балота, пад назваю Сутокі, плошча каля 1.000 дзесяцін, дзе знаходзіцца жалезная балотная руда. На ўзвышшы глеба сугліністая. У ваколіцах Чапялёў сустракаюцца карысныя выкапні: чырвоная гліна як у Чапялёх, так і ў Млынцы—вялікімі пластамі. Крэйда сустракаецца ў в. Балотчыцы, плошчаю каля 700 дзесяцін, шэрая гліна ў быўшым фольварку Багданаўцы—каля 15 дзесяцін. У садзе Чапялёўскага агропункту сустракаецца цёмна-бурая гліна з залацістымі крышталёвымі крапінкамі. Сама вёска Чапялі, вялікая старасьвецкая, робіць прыемнае ўражаньне. Вуліца абсаджана дрэвамі, шмат садоў, сустракаецца значная колькасьць новых хат, аздобленых разьбярствам. У вёсцы ёсьць наступныя савецкія і грамадзкія ўстановы: сельсавет, школа, хата-чытальня, коопэратыў, вольная пажарная дружына і Красьнянскае сельска-гаспадарчае т-ва. У сялян захавалася шмат старых звычаяў і абрадаў, сярод якіх цікавы

звычай провадаў масьлянкі. У сані запрагаюць каня, а ззаду прывязваюць ступку, садзяцца на яе і таўкачом паганяюць. Часам замест ступкі, прывязваюць маленькія санкі („сучку“), на якіх едуць з чырвоным сьцягам, а часам да санак прывязваюць „ляльку масьлянкі“.

На хрэзьбінах бабку, кума і куму асабліва паважаюць і садзяць іх на воз, або санкі, прычым усе ўдзельнікі гульні (мужчыны) упрагаюцца самі і возяць іх па вёсцы, а бабы ззаду папіхаюць. За такі гонар яны адплачваюцца гарэлкаю. На Купальле, вечар, які там прышлося правесьці, з двароў выносяць за вёску ўсе старыя рэчы і б‘юць альбо паляць. У старых сялянак ёсьць павер‘е, што раніцаю на Ку-



Вёска Чапялі Старобінскага раёну.

пальле ведзьма абягае з дайніцаю кароў, або стада, каб захапіць усё малако. Напярэдадні Купала некаторыя рвуць „Загадкі“ (асобыя расьліны), затыкаюць іх у сьцены і па іх распусканьню гадаюць, хто памрэ, ці будзе жыць. Вечарам дзяўчаты гадаюць выходзячы на крыжавыя дарогі. Яны стараюцца зубамі вырваць з зямлі расьліну „трыпутнік“ (падарожнік) кажучы:

„Трыпутнік, трыпутнік,
Ты расьцеш пры дарозе
І ведаеш аб усякай прыгодзе.
Дай-жа мне сёньня знаць,
З кім я буду шлюб браць?

Вырваны зубамі трыпутнік дзяўчына трымае ў зубах усю ноч і сьніць таго, хто будзе яе суджаны.

Каб даведацца, хто ў сяле ведзьма, трэба перасыпаць відуком мохам дарогу чарадзе кароў, якія ідуць дадому перад Купальлем. Карова

ведзьмы не пяройдзе яго і будзе стаяць рыкаючы. Ведзьма прыдзе і будзе вясьці яе фартухом.

Пры пахаваньні, калі робяць дамавіну, то бяруць габлюшку з дзірачкаю, дзе быў сучок і глядзяць праз яе ў царкве на ўсяночнай. Ведзьма будзе адметна ад усіх людзей з дайніцай на галаве.

Яшчэ дзяўчаты варожаць на Юр'я—ці вялікія выраступь. Залажыўшы рукі на сьпіну, перагнуўшыся цягнуць жыта зубамі і па выцягнутым сьцябле варожаць. Таксама дзяўчаты варожаць і ў „вялікую суботу" (субота перад „вялікаднем")—лезуць на гару хаты і калі знойдзе голае палена—выйдзе за беднага, а калі кастрыцу, мох—за багатага.

У вёсцы і дагэтуль сустракаюцца жывыя сьведкі старасьветчыны,—старыя людзі, якія маюць па 80-90 год. Яны шмат чаго расказваюць пра мінулыя часы. Адзін з іх, быўшы кантаністы, які ні за што не згадзіўся назваць сябе, баючыся, каб яго не арыштавалі, расказаў наступнае: „бацькі і маткі я не памятаю. У маскалі обралі як бязроднага, дзе служыў 15 год: 5 за дарогу туды, 5 назад і 5 за білет. Адслужыўшы службу, вярнуўся ў Чапялі, дзе жаніўся і атрымаў салдацкі надзел каля 1 дзесяціны. Пра паншчыну памятуе толькі эпізоды з апошніх момантаў перад маніфэстам. Народ тады хваляваўся, распаўсюджваючы розныя чуткі. Але вось прачыталі і маніфэст аб вызваленьні з паншчыны. Маніфэст, відаць, быў зачытаны з спазьненьнем, бо ён кажа, што вярнуўся з палявых работ пачуўшы вольнасьць. Яна, паводле слоў, касавала старыя даўгі і запазычанасьць абодвых старон: „цяпер ніхто нікому нічога не вінаваты, а калі і быў вінаваты, то ўжо прапала". На паншчыну хадзілі ў двор Чапялі, які належаў Карказовічам. Паншчына адбывалася ўсімі дварамі. Цяжасьць яе была неаднолькава. Больш сямейныя давалі па 2 работнікі з хаты, адзінокія, бабы-ўдовы—працавалі меней.

Больш вестак даў аб старых часох другі старык, Лукьян Кравец, 92 год. Гаварыў ён нам у сельсавеце, куды мы зайшлі па справах. Стары любіць успамінаць старасьветчыну, хаця трохі глухаваты і гаварыць з ім трэба моцна. Ён нам вытлумачыў, ад чаго атрымала назву „Тамілава гара": адно з вышэйшых пунктаў па Бранчыцкім нагор'і. Ён гаварыў, што „пранцуз" вельмі ўтаміўся, біўшыся з рускімі каля вёскі Міцявіч і адпачыў на ёй, адгэтуль і пайшла назва яе „Тамілава гара". Паншчыну помніць добра, сам хадзіў на работу. Апавядаў аб даўнейшых ураджаях, калі жыта нажыналі з вучастку (прыблізна 15 дзесяцін) усяго 7-8 коп, а картоплі сеялі зусім мала. Памятуе, як тады елі хлеб з „пухам" і мякінай. Яго бацька і дзядзька таксама жылі доўга, да ста год. Пра рэкруцкі набор апавядаў, што паны ў рэкруты здавалі найбольш буйнейшых людзей, а каб яны не маглі ўцячы, дык за тыдні два да здачы, ногі закоўвалі ў драўляныя пудовыя калодкі. Калі павядзеньня быў вельмі дрэннага, па думцы пана, то здавалі яго за „бессчетнога" на век у салдаты. Памятуе, як будавалі каменны палац чапялёўскіх паноў. Матар'ял для яго (гліну) падвозілі з суседняй вёскі Млынкі. Сьцены палацу былі таўшчынёю да 2-х аршын. Ён прастаяў да 1921 г., калі быў спалены.

У далейшым стары апавядаў, як распраўляліся з сялянамі, якія ня выходзілі на паншчыну. Так лаўнік Даніла Аладка зьбіў кіем селя-

ніна в. Чапялёў Навума Скалабана за тое, што ён не паслухаўся яго прыказу ісьці на паншчыну, а стаў араць сваё поле. Зьбіў да паўсьмерці, так што расказчык, якому было тады 9 год, ажно перапалохаўся. Успамінаў далей, як перад зьнішчэньнем прыгону, паны стараліся скрыць ад сялян інвэнтарныя запісы, або захапіць у свае рукі. Так зьбіты быў староста з в. Балотчыц, што яго ўнясьлі на посьцілках. Быў таксама зьбіт і Чапялёўскі староста. У Чапялёўскім двары быў бровар, гарэлкі было многа і прадавалася яна танна; за тры грошы можна напіцца. Памятуе—рыхтавалі дажынкі ў двары; гарэлкі тады давалі колькі хто хацеў, так што раз адна баба згарэла на дажынках. У канцы ўспамінае, як некаторыя з паноў казалі даўней, што прыдзе час, калі ўсё будзе сялянскае і зямля і сады і палацы, але гэтаму ён ніколі ня верыў і толькі цяпер убачыў, што гэта праўда.

Пры в. Чапялёх у былым маёнтку Карказовіча з'арганізавана Красьненскае, сельска-гаспадарчае т-ва, грамадзкая арганізацыя, якая мае сувязь з сельсаюзам і мае ад сельсаюзу дапамогу ў кіраўнічым напрамку, сродкамі і інш. Т-ва мае 280 сяброў. Паявы ўзнос 5 руб. Абрабляе зямлі—36 дзесяцін, саду—10 дзесяцін (6 пры Чапялёх і 4 ў Багданаўцы). Гароду—3 дзесяціны (2 д. ў Чапялёх і 1 ў Багданаўцы), прычым гарод у Чапялёх вельмі добры. Пахаці—16 дз. і санажаці—7 дз. (4 ў Чапялёх і 3 ў Багданаўцы). Гаспадарка вядзецца васьміпольная: па гнаі сеецца авёс з канюшынай, другі і трэці год расьце канюшына, чацьверты—жыта па супэрфсфату, пяты—картоплі па гнаі, шосты—ячмень або авёс па картаплянішчы з канюшынай, сёмы і восьмы—канюшына. У гародах сеюць пераважна буракі кармовыя, капусту скорасьпелую, якую раней за ўсіх прывозяць у Слуцак на продаж, галоўным чынам у сталоўку ЦРК, затым гуркі і картоплі. Маецца пладовы гадавальнік плошчаю ў 1 дзесяціну, дзе расьце каля 18 тысяч маладых дрэў—ігруш і яблык. Займаюцца і пчалярствам, ёсьць 7 вульлёў сыстэмы Дадана-Блята. Сад мае разнаітыя сарты, з якіх заслогоўвае ўвагі „сьвентаянка“—яблыкі якіх адзначаюцца ляжаласьцю, захоўваюцца да новых, але велічыня яблык ніжэй сярэдніх. Гаспадарыць Т-ва ўжо 2 гады. Невялікі даход атрымліваецца ад гароду і саду. Праўленьне Т-ва, складаецца з трох чалавек. Наёмных ёсьць 2 чал. На палёх Т-ва акрамя звычайных культур, сеюцца наступныя кармовыя травы: магар—аднагадовая, якая ўдаецца на ўсіх глебах, люцэрна—2 і нават 3 ўкосы і сорга, якая не дасьпявае тут і не дае насеньня. У садзе акрамя пладовых дрэў ёсьць рэдкія дэкорацыйныя дрэвы: вэймутава сасна, памясцоваму „кедр“, лісьцьвеньніца, карпацкая сасна, серабрыстая ліпа і морва.

7-га ліпня з 4 да 9 гадзін хадзілі для абсьледваньня саўхозу Бранчыц, які знаходзіцца ў 4 вярстах ад Чапялёў. Па дарозе праходзілі цераз невялікі (5 дзесяцін) малады каля 20 год лес пад назваю „Казак“, які знаходзіцца ў 1 вярсьце ад саўхозу. Лясок прарэзваюць прысады, высаджаныя каштанамі, белай акацыяй, хвояй розных парод, дубамі, грабамі. Лясок праўдзіва можна назваць батанічным садам. Сярод лесу знаходзіцца фамільны склеп паноў Булгакаў, з прыгожай капліцай у готычным стылі. У сучасны момант агароджа вакол капліцы зьнішчана, дзьвярэй і вакон няма. Ёсьць спробы зьняць з капліцы цынкавы дах і папсаваць цэглу. Уваход у склеп завалены. Мясцовае насельніцтва

апавядае аб тым, што ў 1920 г. на склеп быў напад бандытаў, якія адчынілі труну Булгака, узялі каштоўныя рэчы і адрэзалі палец, на якім быў дарагі персьцень, а самы труп выкінулі.

Ад лесу і да саўхозу вядуць прыгожыя прысады з тапалёў і жоўтай акацыі, высаджаныя ў 1908 г.

### Саўхоз Бранчыцы.

Саўхоз вядзе гаспадарку палявую, гародна-садовую і па гадоўлі жывёлы. Мае сыраварню і 2 сажалкі, у якіх разводзяць карасі. Пахаці ёсьць 200 дзесяцін; севазварот девяцipольле. Угнаеньне—гной і лубін. Гародная гаспадарка дае кармовыя буракі, гуркі, капусту Браўншвэйскую зімнюю. Гарод прамыслова-спажывецкага характару. Сад займае $4^1/_2$ дзесяціны. Пладовыя дрэвы: антонаўка, ранэт, ігрушы бэра, сапяжанкі і інш. летнія сарты. Сад здаюць найбольш у арэнду за 1.200-1.500 рублёў. У саўхозе захавалася шмат будынкаў, так што ён падобен на цэлы гарадок, але многія будынкі састарэлі і патрабуюць капітальнага рамонту. Перад галоўным будынкам, былым панскім палацам, ёсьць цікавы парк, які добра захаваўся. У парку, акрамя мясцовых парод дрэў, сустракаюцца вельмі цікавыя і рэдкія дрэвы, як: чорная бяроза, лісьцьвеньніцы, вэймутавы сосны, аўстрыйскія сосны, туі, плакучыя івы, сібірскія піхты, італьлянскія арэхі, канадыйская ель, жоўты вяз, плакучы ясень, ясенявідны клён, югаслаўская ель, кротэгус, пірамідальны дуб, бальзамічная ель, соргум прывіты на рабіне, капрыфоліум, які ўецца каля балькону. Чаранкі і дрэвы выпісаны былі часткаю з Варшавы ад Ульрыха, а часткаю ад Вагнэра з Рыгі.

Парк аддзяляецца ад саду маладымі густымі грабовымі прысадамі, дзе і ў самы гарачы летні дзень захоўваецца цішыня і халадок. Пры садзе ёсьць пладовы выхавальнік у $^1/_3$ дзесяціны, які мае каля 7.000 дрэў годных дла высадкі. Паводле агульнай думкі экскурсіі было-б вельмі карысным і пажаданым, каб ІБК узяў пад сваю ахову як лес, так і парк, якія маюць вялікую каштоўнасьць у батанічных адносінах; іхні ўплыў адчуваецца ў самай вёсцы Бранчыцы, дзе наглядаюцца каля хат розы розных колераў у вялікім ліку, лісьцьвеньніцы і іншыя немясцовыя дрэвы. Заўважваецца нездавальненьне сялян в. Бранчыц прысутнасьцю саўхозу, дзякуючы якому яны да гэтага часу адчуваюць безьзямельле.

8 ліпня з Чапялёў адправіліся ў в. Жабіна. Вёска вялікая ў адну вуліцу, вельмі бедная, перажывае частыя пажары. Апошні быў у 1924 г., ад якога згарэла ўся вёска і да гэтага часу шмат гаспадароў яшчэ не адбудавалася. У новых хатах часта сустракаюцца старыя вокны, пастаўленыя ўпоперак. Мясцовасьць узвышаная, няма паблізу ракі, а калодзежы глыбокія.

У вёсцы ўжо пасьля пажару пабудованы адзін агнятрывалы дом. Глеба сугліністая, сустракаецца чырвоная гліна. Некаторыя сяляне выходзяць на пасёлкі. У $^1/_4$ вярсты ад Жабіна к Чапялям ёсьць старасьвецкая капліца з высокім драўляным пры ёй крыжам, на якім з дрэва памастацку зроблена фігура Хрыста, велічынёю з пяцігадовага хлапца. Каля капліцы палоскі лёну з натыканымі веткамі ліпы: ад вясковых жанчын мы даведаліся, што веткі ў лён затыкаюцца на Купала, дзеля таго, каб ён быў такі валакністы, як валакніста ліпавае лыка.

Дарога з Жабіна да Іздрашава праходзіць сярод засеяных палёў па вельмі ўзвышаным месцы, адкуль адкрываецца вялікі кругавід. Глеба да паловы дарогі ад Жабіна сугліністая, а далей пераходзіць у супясковую і пясчаную ў Іздрашаве.

### Вёска Іздрашава і яе ваколіцы.

Вёска ляжыць на паўднёвым схіле пясчанага ўзгорку. Гэта цікавая вёска, якая ня мае сабе падобных у Беларусі. Яна скарэй падобна да Швайцарскае вёскі. Вуліцы ў ёй няма, а сярод вёскі ёсьць возера ў 2 дзесяціны, глыбінёю да 2-х мэтраў, яно чыстае, бяз усякіх зарасьляй. Магчыма, што на дне яго ёсьць крыніцы, якія не даюць яму перасыхаць у самыя сухія гады.

Вёска распаложана наўкол возера кальцом. Двары і хаты выходзяць к возеру, а ўезд у іх з процілеглага боку ад загуменьняў. За загуменьнямі кругавая дарога, а за ёю поле. К возеру два ўезды з поўдню і ўсходу. Двароў усіх 26. Сяляне тут паходзяць з быўшай праваслаўнай шляхты. Акаляючае насельніцтва заве іх ведзьмарамі, чараўнікамі, бо яны займаюцца знахарствам, самі яны ўпарта ў гэтым не прызнаюцца, асабліва перад незнаёмымі людзьмі.

На ўсход ад вёскі ў сажнях 100 знаходзіцца старая капліца. Могілкі ў 200 саж. на паўднёвы ўсход. Характэрнасьць іх—адсутнасьць драўляных крыжоў, замест якіх усюды маленькія (меней 1/2 мэтра) каменьні нібы зробленыя па адным узоры. Пасярэдзіне кожнага ва ўсю велічыню крыж. Зьлева і справа ў верхняй частцы каля крыжу год сьмерці, зьнізу—зьлева імя, а справа прозьвішча нябожчыка. На каменьнях найбольш сустракаюцца наступныя даты: 1805, 1810, 1825 і 1830 гады.

У нашу бытнасьць адсутнічалі мужчыны ў вёсцы; яны былі на „балоце", куды забраліся на некалькі тыдняў касіць сена. Сялянкі вельмі жаліліся на недахоп пашы і на дрэнны гатунак тэй, якая ў іх ёсьць (пясок). Ад жанчын запісана некалькі №№ фольклёрнага матар'ялу.

З вёскі Іздрашава агульны выгляд мясцовасьці ўжо мяняецца. На пясчанай глебе сустракаюцца парасьлі хвоі і ядлоўцу. Часты тут і невялічкія круглыя балотцы з расьліннымі астраўкамі пасярэдзіне і вольнымі ад расьлін наўкол, ад чаго атрымоўваецца ўражаньне кальцавых азёрцаў. Сярод пясчанай глебы, нібы оазы сярод пустыні, знаходзяцца 2 шляхоцкія ваколіцы: Забродзкія хутары і Кулакі, дзе глеба добрая і ўраджаі вельмі добрыя. Самыя ваколіцы багаты садамі і наогул расьліннасьцю. Назва апошняй ваколіцы адпавядае зьместу. Жыхары яе ўсе заможныя, будынкі добрыя, палі ўраджайныя. Але далей за Кулакі ў напрамку на м. Старобін, а таксама ў напрамку да правага берагу Случцы пачынаюцца сыпучыя пяскі, якія ў іншых мясцох пераходзяць у праўдзівыя выдмы. Уся мясцовасьць так і просіцца, каб засеяць яе лесам, а то жаднай карысьці з яе няма. Вельмі часта вецер заносіць гэты пясок і на суседнія больш ураджайныя глебы і пагражае засыпаць іх. За гэтаю пясчанаю выдмаю, на правым беразе р. Случы, ляжыць шляхоцкі засьценак Стамагілы з 5 двароў. Назву засьценак атрымаў ад вялікага ліку магіл, якія, паводле апавяданьняў сялян, у веснаход былі размыты вадой і зьнесены ў Случ. Засталося

толькі 8 курганоў. Сялянства апавядае, што яшчэ летась вада вымыла 4 чарапы. Яны кажуць, што гэта магілы ад Напалеонаўскіх войнаў. Але заўважаючы тое, што ў магілах знаходзілі бурштынавыя пацеркі, можна дапусьціць, што гэта старасьвецкія курганы. Рака Случ у гэтым месцы мае высокі да 10-12 арш. бераг і дасягае глыбіні 12 арш. Гэты высокі правы бераг цягнецца аж да вёскі Тычына ў 2 вярстах ад Стамагільля. Левы бераг нізкі, сенажаці. Жыхары тут багатыя, няпрыветныя, шляхта падазрона глядзіць на кожнага прыежджага, пытаючы: ці ня прыехалі абразаць зямлю? Адзін з гаспадароў гэтай вёскі мае 2 жонкі, якія жывуць разам у аднэй хаце, прычым маладая раджае дзяцей, а старэйшая, бязьдзетная, іх няньчыць. У 2 вярстах ад Стамагільля ляжыць невялічкая вёска Тычыны. Да яе ад Случы падыходзіць „завадзь", дзе зімою сяляне ловяць рыбу рукамі ў аддушынах. З Тычын дарога пераходзіць на левы „палескі" бераг Случы ў урочышчы „Скакаль", дзе рака разьбіваецца на тры рукавы, праз якія пабудаваны новыя, добрыя масты. Каля аднаго з мастоў знаходзіцца будынак быўшага вялікага вадзянога турбіннага млына, які цяпер не працуе (быў разбураны ў часе грамадзянскай вайны). За мастом пачынаецца Лістападавіцкая лясная дача.

На начлег застанавіліся ў Лістападавіцкай школе, якая зьмяшчаецца разам з лясьніцтвам. Мясцовасьць вакол Лістападавіч лясістая, глеба пясчаная, сустракаецца шмат разьвеяных барханаў. У самым лясьніцтве ёсьць невялічкі парк з паўднёвага боку ад школы. Даўжыня яго 70 саж., шырыня 30. На гэтай плошчы пасаджаны 8 радоў елак, на 1 саж. адна ад другой.

З паўночнага боку парк абсаджаны жоўтай акацыяй і беласьнежкай, з усходу—клёнамі, з захаду—грабамі, а на поўдзень адкрыты на дарогу. Акрамя елак у парку ёсьць 10 югаслаўскіх елак і некалькі хвой. Узрост усіх дрэў гадоў 12, толькі клёны старыя. Прысутнасьць каля школы такога парку вельмі карысна. З Лістападавіч у суботу 9 ліпня частка экскурсантаў павінна была адправіцца ў Старобін дзеля набыцьця харчоў (бо ў Лістападавічах іх купіць няма ніякай магчымасьці) і візаваньня докумэнтаў у загадчыка пагранатраду, бо далей прыходзілася ехаць па пагранпаласе. На гэта прышлося затраціць цэлы дзень тром экскурсантам, другія два ў гэты час займаліся праяўленьнем нэгатываў.

10 ліпня ў нядзелю аб 11 гадзіне выехалі з Лістападавіч у Саковічы. Перад ад'ездам прасілі ў настаўніка Бародзіча Паўла прадаць ліхтар, патрэбны для праяўленьня нэгатываў, якога мы забылі ўзяць з Слуцку і які набыць у Старобіне з прычыны суботы не ўдалося. Ліхтар каштоўнасьцю ў 60 к. новы, Бародзіч, убачыўшы яго неабходнасьць, рашыў нам дапамагчы і запрасіў за яго цэлы рубель, але пасьля некаторага торгу прадаў за 70 к., прычым вельмі шкадаваў, даведаўшыся, што мы плацім ня ўласнымі сродкамі, а сродкамі краязнаўчага т-ва.

Сюды-ж перад нашым выездам зьявіўся загадчык Старобінскай сямігодкі, ён-жа сакратар раённага краязнаўчага т-ва тав. Гурыновіч, які выказаў моцнае пажаданьне прыняць удзел у экскурсіі, але толькі пры ўмовах, калі мы яго будзем карміць, вазіць і дамо фурманку завезьці яго назад. Даведаўшыся, што мы ходзім пехатой, а фурманка наша толькі для рэчаў, ён згадзіўся падысьці з намі да Мілкавіцкіх

хутароў (вёрст—15-16), дзе яму даручана было 4 месяцы таму назад раённым т-вам абсачыць курганы, у якіх былі знойдзены галаўныя грыўны, якія цяпер захоўваюцца ў Старобінскай сямігодцы. На выкананьне гэтае справы ён на працягу 4-х месяцаў ня мог знайсьці часу.

Ад Лістападавіч да Саковіч 6 вёрст. Дарога ідзе палямі, а потым лесам. Мясцовасьць наогул прыгожая. Ураджаі добрыя. Глеба супясчаная. Сярод лесу сустракаюцца хутары. Будынкі ўсе характару Случчыны. Пры вёсцы Саковічы з заходняга боку знаходзіцца Саковіцкае возера. Плошча 15 дзесяцін. Возера рыбнае: шчупакі, плоткі, ліны. Яно пры берагох няглыбокае, але паступова паглыбляецца і ўсярэдзіне даходзіць да 12 сажняў. Зарасьляй у возеры няма, вада чыстая. Вакол возера расьліннасьць адсутнічае і толькі ў заходняй частцы захавалася яшчэ некалькі старых алешын. На ўсход ад вёскі вярстах у трох знаходзяцца (паводле апавяданьняў сялян) курганы, паросшыя лесам. Урочышча гэтае завецца „Сінія Горкі". Курганоў налічваецца штук 25. Сама вёска Саковічы ляжыць на ўсходнім беразе возера. Вёска невялічкая. Насельніцтва падзяляецца на сялян і шляхту. Сяляне жывуць у вёсцы, а шляхта ў вакольных хутарох. Асаблівасьцю гутаркі насельніцтва зьяўляецца адменнае саканьне, ад чаго магчыма і вёска называецца „Саковічы". Насельніцтва вёскі наогул беднае і толькі шляхта ў вакольных хутарох заможная. У вёсцы пры капаньні калодзежа ў селяніна Пятра Пішчэўскага гадоў 20 таму назад знойдзены каменны тапорык селянінам Кудзялевічам. Малаток надзвычайна добрай шліфоўкі і добра захаваўся. Селянін ім таўчэ соль і перац і абух трошкі папсаваў гэтаю работаю. Набыць нам яго не ўдалося за адсутнасьцю гаспадара. Жонка без яго прадаць не згадзілася.

Дзякуючы сьвяточнаму дню сяляне ў вёсцы былі ў вялікім ліку, што і дало магчымасьць сабраць значную колькасьць фольклёрнага матар'ялу, сярод якога цікавы абрад даўнейшага сватаньня, які цяпер ужо мала ўжываецца. Хлопец, які хацеў жаніцца, загадзя павінен быў сам наплясьці гэтулькі пар лапцёў, колькі душ сям'і было ў маладое. З гэтымі лапцямі ён з маткаю ішоў да маладой і прышоўшы да дзьвярэй хаты казаў моцна: „шурум-бурум, лапці ў хату!". Калі ў хаце згодны былі выдаць дачку замуж за яго, то гаспадар адказваў: „шурай-бурай, лапці ў хату кідай!" А калі ня былі згодны, то адказваў наступнае: „Ня шурай, ня бурай, лапцей у хату ня кідай!". У апошнім выпадку маладыя з маткаю, не адчыняючы хаты, зварочваліся да дому са сваімі лапцямі. Калі-ж была згода, маладыя ўходзіў у хату, надзяляў усіх лапцямі, а лапці маладое ставіў каля лаўкі, на якую маладая ўскаквала, як толькі ён уваходзіў у хату. Маці маладога просіць маладую наступнымі словамі: „скэк, мая дачушка ў лапці!". Калі маладая ўскоквала ў лапці, пачыналася частаваньне.

Акрамя гэтага абраду частаваньня, у Саковічах запісаны са слоў Пелагіі Лопан каля 35 народных песень. Прыходзіцца адзначыць, што для зьбіраньня песень патрабуецца шмат часу, каб разгаварыцца з жанчынамі і зацікавіць іх абяцанкай даць грошай, а яшчэ лепей выпіць з імі бутэльку гарэлкі.

У 2 вярстах ад Саковіч ляжыць сярод лесу возера „Сьвятое". Невялічкае возерца плошчаю ў 5 дзесяцін, мае прыемны выгляд. Берагі яго травяністыя, абрасьлі кустарнікамі, дрыгвяныя, зразу з бе-

рагу пачынаецца глыбіня. Найбольшая глыбіня возера (паводле апавяданьняў) 28 арш. На дне яго вельмі многа карчоў; дно яго ілістае. Возера рыбнае: водзяцца шчупакі, акуні, ліны. Нядаўна паймалі шчупака ў 33 фунты. У мясцовага насельніцтва пра гэтае возера перадаецца такая легенда: Даўней, калісь-та на гэтым месцы была царква, якая правалілася скрозь зямлю і на месца царквы зьявілася возера. На вадзе возера, як кажа легенда, паказваліся „царскія вароты". Гавораць, што чуваць званы і царкоўныя сьпевы на дне гэтага возера, асабліва на „вялікдзень". Легенда гэтая агульная і аб усіх азёрах. Другое паданьне аб возеры апавядаў аб'ежчык Сташэўскі, які казаў, што, паводле расказаў старых людзей, на месцы возера калісьці быў невялічкі лужок, які праваліўся з невядомых прычын і ўтварылася гэтае возера. Возера наогул овальнае, вада стаіць роўна з берагамі, як-бы налітая. Кажуць, што асабліва прыемны від возера мае ў ночы пры сьвеце месяца.

Аб'ежчык Страшэўскі пазваў нас у хату, пачаставаў кіслым і салодкім малаком, ня ўзяўшы пры гэтым ніякай платы, чым вызваў наша зьдзіўленьне, бо ад нас звычайна патрабавалі двайную, а то і трайную плату.

Ад „Сьвятога" возера і да Мілкавіцкіх хутароў дарога ідзе ўвес час праз лес, у якім пападаюцца будаўнічыя дрэвы. Пры дарозе сустракаюцца хутары, якія маюць назву ад сваіх гаспадароў. Каля хут. Корбута пры дарозе ў лесе знаходзяцца 3 курганы звычайнай велічыні, паросшыя хвойным лесам. Пад'яжджаючы да Мілкавіцкіх хутароў агульны выгляд мясцовасьці рэзка мяняецца. Граньню краявіду служыць пясчаны вал (бархан), які цягнецца з усходу на захад на працягу многіх вёрст, амаль да Гадзінскіх хутароў. Пры гэтым валу і распаложаны Мілкавіцкія хутары, а на самым валу ёсьць шмат курганоў. Сярэдні разьмер кожнага з іх прыблізна 45—50 крокоў у акружнасьці, вышыня—3 аршыны. Вал зьяўляецца рэзкім падзелам мясцовасьці: з аднаго боку нізкая, балотная, паросшая мяшаным лесам, а з другога боку—сухая, пясчаная, узвышаная, паросшая хваёвым лесам. На валу распаложаны ланцугом курганы. Частка з іх разрыта, прычым мясцовыя жыхары апавядаюць, што апошнія раскопкі былі зроблены бяз усякага пляну і парадку. Прыходзіцца толькі пашкадаваць, што яны так пабандыцку разрыты. Апошнія раскопкі былі зроблены вясною 1927 г. настаўнікамі Мілкавіцкай школы Смольскім і Сянюком. У курганох знойдзены былі старасьвецкія срэбныя вітыя галаўныя грыўны, гаршкі і сабельны клінок. Знойдзены гэтыя рэчы селянінам Парфёнам Герасіменяй, які аддаў іх Старобінскаму краязнаўчаму гуртку.

Дарога ад Мілкавіцкіх хутароў далей ідзе ўвесь час праз хваёвы лес. Сярод лесу часта сустракаюцца палянкі, пакрытыя густым збожжам. Па ўраджайнасьці—тут у 1927 г. быў ураджай лепшы, чымся ў Полі каля Слуцку; так што гутарка аб тым, што Палесьсе старонка наогул бедная, галодная—няправільная. Варта толькі паглядзець хаця-б на Гадзінскія хутары, каб пераканацца ў гэтым. Будоўля ў іх добрая, новая, на гарадзкі манер. Жывуць усе гадзінцы заможна. Ёсьць коопэратыў. Гадзінцы пазаводзілі маладыя сады, чаго наогул у Палесьсі не сустракаецца.

Ад Гадзінскіх хутароў накіраваліся ў вёску Махнавічы, якая рассьселена на хутары. Прыехалі позна аб 11 гадзіне, начавалі ў школе, настаўнік якой Палікарп Малочка паехаў дадому ў Крывічы. Пусьціў нас туды сябра сельсавету. Школа новая, прасторная, але ня мае сенцаў. На сьценах шмат плякатаў і лёзунгаў. Сусед школы Паўлюк Рудзеня зрабіў для нас усё магчымае: узяў на свой двор нашу фурманку, прадаў харчоў і жонка яго зварыла нам сялянскі абед.

11 ліпня, а 12 гадзіне выехалі з Махнавіч у напрамку на Дамановічы. Дарога ўвесь час ішла лесам, сярод якога часта пападаліся хутары, як Махнавіцкія, Іёдкавіцкія, прычым яны зьяўляюцца астатнімі, якія маюць тып будынін Случчыны. За імі ўжо цераз 3-4 вярсты ідуць хутары, з тыповымі палескімі хатамі.

Каля хутароў, а то і проста сярод лесу, сустракаліся невялікія палянкі, засеяныя збожжам: жытам, аўсом, грэчкаю, бульбай, просам. Усе палянкі агароджаны жардзямі, мабыць ня толькі ад хатняй жывёлы, але і ад дзікіх зьвяроў (ласёў і коз). На палянках ураджаі надзвычайна добрыя, асабліва жыта і гарох. Жыта дасягае да сажня вышыні, а калосьсе каля дэцымэтру. Наогул такога ўраджаю каля Слуцку мы не сустракалі. На тоўстых дрэвах у лесе сустракаюцца борці, якія найчасьцей робяцца папарна на асобых памостах, паміж двух дрэў, вышынёю ад зямлі на 10-12 аршын.

Увесь час па дарозе ад Махнавіч пільна прыглядваліся, каб знайсьці бархан, аб якім упамінае проф. Туткоўскі, але такога бархана мы ня сустрэлі. У тым месцы, дзе пасёлак выходзіць на тракт Апанчыцы-Дамановічы, стаіць хутар Васіля Хаміцэвіча, які зразу зьвяртае ўвагу сваім палескім выглядам. Асаблівасьці яго: хата бяз сенцаў і шчытоў, пакрытая дошкамі, якія цьвікамі ня прыбіваюцца, а ставяцца „на закрыніну“, якая ў сваю чаргу прымацоўваецца „какошкамі“. У выпадку пажару трэба толькі „какошку“ выкінуць і ўся страха звальваецца ўніз. Пад страхою два коміны стаяць крыва, паверх страхі яны ня выходзяць. Адзін комін ад печы, а другі ад лучніка, які часта робіцца на манер грамафоннай трубы, пастаўленай шырокім канцом уніз. Яны сплятаюцца з лазовых пруцьцяў і абмазваюцца вакол глінай. Труба прымацоўваецца мэтра паўтара ад зямлі. Зьнізу да трубы на дроціках прымацоўваецца драцяная сетка, на якую кладуцца смалякі (карэньні). Такога роду асьвятленьне сяляне лічаць лепшым, чым газавае, бо яно дае сьвятло і выцягвае дрэннае паветра з хаты, а вэнтыляцыі там іншае няма ніякае.

У 1½-2 вярстах ад гэтага хутара знаходзіцца Дамановіцкае возера, каля якога, паводле слоў настаўніка Дамановіцкае школы Рамановіча, ёсьць месца, якое завецца Татарскай далінай. Чаму яно так завецца, выявіць нам так і не ўдалося, але судзячы па тым, што ў ваколіцах Дамановіч і ў самай вёсцы сустракаюцца тыпы смуглыя з касымі вачыма, можна дапусьціць, што тут калісьці былі татары. У самым возеры акрамя рыбы водзяцца чарапахі, якія часам заходзяць у канавы і нават вылязаюць на дарогу. Не даяжджаючы Дамановіч у прыдарожнай канаве ўбачылі гадзюку, якую Нерапеня зараз захваціў расчэпленым кіем і жывую засадзіў у бутэльку. Гадзюка са злосьці пачала кусаць сама сябе і такім спосабам учыніла над сабою самагубства.

## Вёска Дамановічы.

Вёска Дамановічы бедная, тыпова палеская. Насельніцтва ў ёй 1323 чалавекі, двароў 194. Зямлі пахатнай 582 дзесяціны, сенакосу 623 дзесяціны. Вёска ўвесь час была на акраіне Мазыршчыны, далёка ад цэнтру і ў культурных адносінах вельмі адсталая.

З далучэньнем да Случчыны яна таксама засталася на акраіне. Трапіўшы ў гэтую вёску, зразу адчуваеш на сабе старасьветчыну гадоў 200-300 таму назад. Вуліцы крывыя, з рознымі закавулкамі, самі хаты маленькія, нізенькія. Некаторыя двары і сялібы вызначаюцца вялікім лікам раскіданых па двары ўадзіночку невялічкіх будынін-клетак лікам да 12—15 штук. Тыповай будоўляй у гэткім стылі трэба лічыць двор селяніна Сьцяпяна Лук'янава Хаміцэвіча, па клічцы „Кардыбая". Сядзіба яго складаецца з наступных будынін: 1) хата 8×7 арш. 2) другая хата 8×8 арш. стаіць зусім асобна. 3) Варыўня 5×5 арш. 4) Хлеў 6×6 арш. 5) Другі хлеў 5×6 арш. 6) Яшчэ хлеў 12×16 арш. 7) Сьвіны хлеў 3×6 ар. 8) Адрына 16×8 ар. 9) Павець 5×6 ар. 10) Клець 6×7 ар. 11) Яшчэ клець 5×5 ар. і 12) Пасяродку двара калодзеж 2×2 ар. Сяляне вёскі адрозьніваюцца сваім выглядам ад сялян іншых палескіх вёсак. Мужчыны сярэдняга росту, а жанчыны нават малога. Мужчыны ёсьць блёндыны і брунэты. Блёндыны болей з прадаўгаватым тварам, а брунэты з скуластым смуглым тварам і трохі косымі вачыма. Жанчыны наогул маюць нейкі цыганскі тып. Усё насельніцтва ў лазовых лапцёх, вопратка найчасьцей даматканая. Крамніна сустракаецца рэдка. Жанчыны ў грубых саматканых сарочках з вышытымі чырвонымі ніткамі рукавамі. Спадніцы хатнія, з перавагаю чырвонага колеру, з зборамі каля пояса. Зьверху сарочкі надзяюць гарсэт да таліі з фальбонамі і складкамі. Старыя мужчыны заўсёды пры поясе носяць на раменчыку нож-„сьцізорык". У гаспадарцы наогул стараюцца абыйсьціся сваімі ўласнымі вырабамі, найбольш драўлянымі і лубянымі (карыты, вёдры, ступы, калыскі, кошыкі, каробкі і інш.). Амаль кожны двор мае жорны, дзе мелецца ўсё патрэбнае на дзень як для сябе, так і для жывёлы. Жанчыны маюць намёткі, але цяпер іх ня носяць, а носяць на галаве „каптуркі". Намёткамі робяць падарункі на вясельлі, на хрэзьбінах і на іншых сямейных урачыстасьцях. Говар насельніцтва цягучы, з націскам на „о"- з вялікім лікам скарачэньняў (кажуць балото, мамо̀, тацяно́ і інш.), скарачэньні такія: ма (замест мама) бра (замест брат) ба (замест бацька). Сустракаецца ўжываньне „і" заместа „е" ліс—лес,—як на Украіне.

Жанчыны замораныя, забітыя цяжкою працаю. Займаюцца выключна хатняй і палявой працай. Галоўныя заняткі насельніцтва земляробства і гадоўля жывёлы, якое разводзяць шмат, асабліва кароў, але малака ад іх сялянства атрымлівае мала. Дастаць малака ў вёсцы вельмі трудна. Каровы немалочныя, дробныя і цяляты іх ссуць пакуль карова ўжо іх не прагоніць. Акрамя кароў разводзяць шмат валоў, на якіх аруць зямлю. Асаблівасьць гаспадаркі—гумён вялікіх няма, ёсьць толькі пуні, дзе малоцяць хлеб. Збожжа складаецца ў стажкі на падмостках, пастаўленых на сваях у $1^1/_2$ ар. у вышыню. Зложанае такім чынам збожжа добра захоўваецца ад мышэй. Для сушкі збожжа робяць азяроды, якіх у кожнага гаспадара ёсьць па некалькі штук. Сярод ся-

лян адсутнічае саматужніцтва і да іх прыходзяць вандроўныя краўцы, шаўцы і інш. рамесьнікі.

На вёсцы захаваліся вельмі старадаўныя звычаі, сярод якіх заслугоўвае ўвагі першабытны спосаб здабываньня агню. Звычай гэты адбываецца на „прэпалавеньне", якое прыпадае на сераду чацьвертага тыдню па „вялікадні". Здабываюць агонь штогодна. З самага ранку да сонца тушаць ва ўсіх хатах агонь, каб нідзе ня было ні жарыначкі. Паважаныя ў вёсцы дзяды, каля 12 чал., ідуць у лес, дзе зрубаюць ясень, колюць яго на 4 часткі. У аднэй з іх, на вострым баку, робяць пасярэдзіне зарубку і гэтую частку прымацоўваюць паміж



Вёска Дамановічы Старобінскага раёну. Стажок і азяроды.

дрэў, ці шульцамі, на вышыні аднаго мэтра паземна, (горызонтальна). Астрыём другой плашкі цягаюць па зарубіне чалавек 8—12 як пілою датуль, пакуль ня пойдзе дым і ня зьявіцца агонь. Агонь, здабыты такім чынам, прыносіць, паводле павер'я людзей, шчасьце ў хату, і галоўным чынам ахоўвае ад пошасьці жывёлу. Як толькі ад трэньня зьявіцца гарэньне, прыкладаюць туды губку і разьдзьмухваюць агонь. Яго зараз-жа разносяць па хатах, каб бабы маглі паліць у печы. Гэты агонь раскладаюць у варотах кожнага двара і праз яго праганяюць на пашу скаціну. Агонь гэты кабеты стараюцца захаваць на цэлы год у ямцы. Кабета, у якой згас у хаце агонь, лічыцца нядбайнаю і траціць да сябе павагу. Звычай гэты ў 1927 г. адбываўся ўпяршыню ня ў лесе, а ў самай вёсцы. Часам агонь ад трэньня здабываецца хутка, а калі церці прыходзіцца доўга, то кажуць, што нехта ў сяле захаваў стары агонь, дзеля чаго новы ня хоча зьяўляцца.

У Дамановічах бачылі старца-лірніка, які ў павозцы з будаю на пары коняй езьдзіў па сяле і граў на ліры, а жонка яго абыходзіла двары і атрымоўвала падарункі. Лірнікі ўмеюць сьпяваць дужа шмат песень як рэлігійнага, так і бытавога зьместу, але за сваю працу патрабуюць нагароду. Так на просьбу за 20 кап. згадзіўся сьпяяць толькі адну песьню, аб сіротах.

Сярод насельніцтва вельмі пашырана лячэньне рознымі травамі, шэптамі і загаворамі. Гэтым займаюцца найбольш старыя бабы, якіх народ баіцца, але разам з тым і паважае. Узоры некаторых замоў і лекавых расьлін намі тут-жа здабыты.

У Дамановічах ёсьць наступныя савецкія і грамадзкія ўстановы: 1) сельсавет, 2) школа, для якой будуецца новае памяшканьне, паводле пляну Наркамасьветы 45×18 арш. і у якім клясныя вокны выходзяць на поўнач, па недагляду кіраўнікоў, 3) коопэратыў, 4) паравы млын і падрыхтоўваюцца да пабудовы больніцы.

Недалёка ад вёскі ёсьць невялічкая царква будовы 1906 г., у якой захаваўся іконастас старажытнае Князьвазёрскае царквы. У Дамановічах нам трапілася быць на Пятра, дзеля чаго лягчэй было здабыць як фольклёрны матар'ял, таксама і веды аб вёсцы, прычым трэба адзначыць нашу падзяку за шчыры ўдзел Дамановіцкаму настаўніку Рамановічу, які ў гэтай справе нам многа дапамог.

Тут-жа нам апавядалі, што ў 2-х вярстах ад Доўгага ў лясьніка ёсьць урод, які не гаворыць, а толькі раве, ня мае ні рук, ні ног, і, ня гледзячы на гэта, жыве 32 гады.

### Вёска Князь-Вазёрская і ваколіцы.

12 ліпня а гадзіне 5 па паўдні накіраваліся з Дамановіч у вёску Князь-Вазёрскую, якая сярод мясцовага сялянства носіць назву „Намастыр“. Дамановіцкі настаўнік Рамановіч пашоў таксама з намі, каб паказаць нам дарогу. Наогул трэба сказаць, што палескія старыя настаўнікі ў адносінах гасьціннасьці праявілі сябе з добрага боку.

Дарога цераз вёскі Пісаравічы і Восава да Князь-Вазёрскай ідзе выпаласканым лесам, сярод якога сустракаюцца палянкі, засеяныя збожжам. Глеба пяшчаная, але больш ураджайная, чымся ў Дамановічах. Апошнія наогул зьяўляюцца самым бедным пунктам ува ўсёй нашай экскурсійнай падарожы. На палёх было найболей бульбы і проса, прычым ураджаі вышэй сярэдніх. Сярод лесу сустракаліся хутары, пабудаваныя на моцна разьвеяных барханах. Вёска Пісаравічы знаходзіцца сярод лясоў, вуліцы яе гразкія, падворны выгляд яе лепшы, чымся Дамановічаў.

Будоўля таксама лепшая. Сустракаюцца стрэхі, крытыя чаротамі, што подкрэсьлівае блізасьць возера. У вёсцы ёсьць школа і паштовая кальцовая скрынка.

Дарога з Пісаравіч да Восава праходзіць па ўзгорках сярод лясоў і засеяных палёў. Адлегласьць паміж імі ўсяго 3 вярсты. Вёску акаляюць дрэвы. Пры ёй знаходзіцца новая капліца з орыгінальнаю званіцаю-вышкаю. У капліцы адбываецца штомесяц набажэнства ў маладзіковыя нядзелі. Недалёка ад капліцы пры тракце знаходзіцца студня, вада з якой у акаляючага сялянства лічыцца „цудоўнай“.

У нядзелю паміж „Ушэсьцем“ і „Сёмухай“ каля гэтай студні бывае вялікі натоўп народу, які прыходзіць сюды і прыносіць лён, палатно, масла, яйцы, якія ідуць на карысьць тых папоў, што служаць там набажэнства. Дзень гэты там завецца „багатым днём“.

У 2-х вярстах ад Восава распаложаны „Намастыр“ або вёска Князь-Вазёрская. Усюды з правага боку дарогі відны балотныя зарасьлі і адчуваецца балотная вільгаць. Па ўсёй дарозе ад Дамановіч да Князь-Возера сустракаецца шмат борцяй на дрэвах, прычым да Восава яны стаяць на хвоях, а далей ужо на дубох, якія зьяўляюцца мабыць астаткамі дрэў бортных. З гутарак з мясцовымі сялянамі (старымі) выявілася, што даўней такія дрэвы лічыліся як-бы сьвяшчэннымі і іх не чапалі, хоць з кожнай борці і давалі ў „намастыр“ мядовую дань. Потым за дрэвы „намастыр“ акрамя мёду стаў вымагаць яшчэ і грошы. У сучасны момант на іх не зьвяртаюць увагі і часта сьсякаюць і такія дрэвы, дзе ёсьць раі ў борцях.

Вёска Князь-Вазёрская пабудавана на нізкіх узгорках морэнавага ляндшафту. Глеба—буры морэнавы суглінак, прычым на палёх паўночнага боку сустракаецца лугавы маргель, які сяляне завуць „белаглінам“ і які ўжываецца на пабелку хат.

Профэсар Туткоўскі, які рабіў геолёгічныя досьледы, гэтак акрэсьлівае: а) тонкі пласт глебы 0,1 мэтра, б) белы маргель 0,6 м. в) морэнавы суглінак з валунамі 0,5 мэтра. Суглінак мае буравата-цынамонавы колер.

Вёска знаходзіцца ня пры самым возеры, а ў адлегласьці ад апошняга на 3³/₄ вярсты, прычым аддзяляецца ад возера вялікім топкім балотам-сенажацьцю. Ад вёскі на поўдзень каля царквы пачынаецца роўная канава шырынёй 4 арш., глыбінёй каля 2 арш., якая завецца „Ездаўняй“. Па гэтай Ездаўні і можна толькі трапіць на лодцы ў возера, хаця ёсьць магчымасьць у сухія гады дабрацца да яго і сухім шляхам, па ўзьбярэжжы Ездаўні, але бяз упэўненасьці ў тым, што ня раз можна праваліцца па жывот у балота і ахварбаваць сябе ў бурачорны колер. Ад гэтае Ездаўні ў розных напрамках праведзена шмат канаў, якія завуцца „рэчкамі“. Такім чынам уся вялікая плошча паміж вёскай і возерам зьвязана цэлай сеткай канаў-рэчак, якія служаць паляшуком вадзянымі шляхамі. Па іх сяляне езьдзяць касіць сена, у іх ловяць рыбу, прычым Ездаўня лічыцца нібы „вакном у Эўропу“, бо злучае вёску з возерам і акаляючымі вёскамі Ляхавічамі, Пухавічамі, Дзякавічамі. Па Ездаўні можна плыць як на „ліпаўцы“ (душагубкааднадрэўка), так і на досыць буйных лодках „шпілярках“, прычым едучы на апошняй працаваць бакавымі вёсламі немагчыма. Калі вязуць значны цяжар, то ў такім выпадку адна асоба прадстаўляе сабою волскага бурлака, зачэплівае за лодку вяроўку і цягне яе. Калі на дарозе трапляюцца топкія месцы, проста пераскаквае цераз іх, а калі сустракаецца „рэчка“—скача ў лодку і мінаваўшы яе вылазіць з лодкі і зноў яе цягне.

Вёска налічвае 26 вучасткаў, на якіх ёсьць 150 двароў і 850 чал. сялян. Сярод іх 7 яўрэйскіх рамесьніцкіх сямействаў. Насельніцтва займаецца ральніцтвам, жывёлагадоўляй, рыбацтвам і перапрацоўкай рыбы (уюноў, яршоў), якую, нанізаўшы на хваёвыя пруцікі (мёткі), аб-

пякаюць у асобых „пекліцах". Рыбачаць амаль што 95 проц. усяго насельніцтва. Рагатае жывёлы, як і па ўсім Палесьсі, трымаюць многа, але малака мала маюць.

Пабудована вёска на нізкай мясцовасьці і вясною і ў восень па яе вуліцах небясьпечна хадзіць нават у доўгіх ботах. Вуліцы гачаныя, па бакох разбураныя канавы і валяецца шмат розных кольляў і прутоў. Агульны выгляд вёскі няпрыемны. Нізенькія шэранькія хаткі з дранічнымі дахамі, а каля хат нама ніякай расьліннасьці. Колодзежы няглыбокія з гразкаю жоўтаю вадою. Платы зьнізу ў вышыню каля мэтра выбелены. Гэта робіць сама вада ў часе веснавога разьліву, раствараючы белы мэргель і выбельваючы ім усё, што сустракаецца на шляху. Вуліц у вёсцы некалькі ў розных напрамках і толькі адна з іх, што вядзе да царквы, вызначаецца тым, што яна вышэйшая і на ёй сустракаюцца дрэвы і сады, быўшыя царкоўныя. Гэта частка вёскі называецца „папоўшчына". Расьліннасьць на папоўшчыне значна яе прыхарашвае.

У канцы гэтае вуліцы на самым высокім месцы пабудована вялікая царква, якая з другога боку падымаецца на 2 мэтры над балотам. Пабудована яна ў 1805 г., аднак не захавала ніякіх гістарычных вартасьцяй. У царкоўнай шафе, сярод розных кніжок нам (Ажэўскаму і Пяцэвічу) папалася рукапісная кніжка без пачатку і канца. Кніжка невядомай назвы. Судзячы па яе зьместу—гэта або „постная трыодь", або „Тіпікон", або ўстаў. Там-жа ёсьць старыя інвэнтары і опісы, з якіх відаць: 1) ссылка на опісь ад 1611 г., дзе было сказана, што сяляне Бунасавы (ёсьць цяпер пасёлак Бунасы каля Скаўшыны, у 10 в. ад Князь-Вазёрскай) павінны былі нясьці прыгонную павіннасьць у адносінах да Князь-Вазёрскіх папоў. Сялян было 28 мужчын і 30 жанчын (паводле даты ад 1846 г.—65 мужчын і 64 жанчыны). У тыдзень яны давалі па 30 працоўных дзён—апрача таго сяляне в. Кузьмічы ў дзень Пакрава павінны былі даваць па 4 вядры мёду, або па паўтары капы грошай за вядро. У 1807 г. ёсьць паметка аб тым, што гэтай павіннасьці яны даўно ўжо ня выконваюць. Сяляне тых-жа Кузьмічоў павінны былі даваць мехавую дань белкамі, лісіцамі і куніцамі па 12 штук. Ад 1837 году ёсьць паметка, што яе не даюць з невядомых часоў.

З гутарак з папом Хвёдарам Вячоркам выявілася, што ў царкве было шмат каштоўнасьцяй, але частка іх (як абразоў, так і кніг) была разаслана па прыпісных да яе цэрквах Дамановічы, Ляхавічы і інш. Другую частку ў 1922 г. забраў член Дзякавіцкага ВВК Шапіра, які вывез шмат старасьвецкіх кніг, аб лёсе якіх ён цяпер нічога ня ведае.

У вёсцы ёсьць сельсавет, хата-чытальня, школа, коопэратыў, ходзіць кальцавая пошта. Вёска наогул жыве першабытным жыцьцём, новы быт амаль зусім не закрануў гэтую закінутую сярод балот і лясоў палескую вёску. У вёсцы няма ніводнага партыйца, няма піонэратрада. Ёсьць толькі 2 комсамольцы: сакратар сельсавету і ізбач, якія не належаць да мясцовага сялянства.

В. Князь-Вазёрская мае каля двух дзесяткаў сваіх выдатных рыбакоў. Тып сялян Князь-Вазёрскае вёскі нічым не адрозьніваецца ад звычайнага палескага тыпу. Вопратка даматканая. Ткацтва пашырана

сярод жанчын вёскі. Тканіны сустракаюцца высокай якасьці. Кабеты маюць звычай насіць за плячыма дзяцей у калысьцы, ідучы на поле на работу. Калыску пакрываюць тканінай. Жэняцца і выходзяць замуж вельмі рана, ад чаго насельніцтва драбнее. Нярэдка бяруць развод, а часам сустракаюцца ў аднаго мужчыны і па 2 жанкі. У фольклёрных адносінах в. Князь-Вазёрская дала шмат матар'ялу.

13 ліпня а 10 гадзіне мы накіраваліся на возера Князь, згаварыўшыся раней з перавозчыкамі Андрэем Лагуном, які раней пашоў шукаць вялікай лодкі.

Мы ў гэты час павінны былі ісьці па беразе канавы Ездаўні па



Вёска Князь-Возера, Старобінскага раёну. Тыпы жыхароў.

вузкай сьцяжынцы. Нам прышлося ісьці гуськом адзін за адным. У многіх мясцох сьцежку прарэзвалі „рэчкі" і гразкія мясьціны, якія прыходзілася пераскакваць, а ў некаторых мясцох пераходзіць па кладках, часта з аднае жэрдкі. Ісьці было ў такіх выпадках вельмі цяжка і некаторыя з нас увальваліся ў гразь. Мы зайздросьцілі мясцовым сялянам, якія свабодна пераскаквалі „рэчкі" і ішлі па жэрдках, як па мосьце. Ішлі мы каля $1^1/_2$ гадзіны, а прайшлі толькі з паўтары вярсты. Нарэшце, замарыўшыся, убачылі нашага перавозчыка, які ехаў назад з возера ў сваёй ліпаўцы. Ён нам сказаў, што лодкі ў зарасьлях нідзе не знашоў, а яго ліпаўка можа падымаць ня болей 4 чалавек.

Наша становішча было дрэннае: альбо вярнуцца назад і чакаць заўтрашняга дня, альбо ехаць па тры чалавекі ў ліпаўцы праз возера. Апошняе было вельмі рызыкоўнай справай, бо пры малейшым ветры ліпаўка магла быць затоплена вадой. Наша зацікаўленасьць узяла верх.

Мы рашылі ехаць на ліпцы, разьдзяліўшыся на 2 партыі. У першую чаргу села ў ліпку „лёгкая артылерыя“ (Нерапеня, Ажэўскі і Мікіцінскі) а ў другую чаргу—Пяцэвіч, Шатэрнік і Казьлякевіч, настаўнік Князьвазёрскае школы, які быў нашым правадыром. Пакуль ехалі па Ездаўні, страху ніякага ня было. Па бакох відаць былі вялікія прасторы сенажаці, якія потым сталі звужвацца. Пашлі зарасьлі, лазовыя кусты, кусты ніцай бярозы і дзікага бэзу. Хмызьнякі, чароты—гэта ўжо берагі возера. А вось і яно...

Які прыгожы малюнак перад намі адчыняецца! Вялікі абшар вады на небасхіле зьліваецца з воблакамі. Дзякуючы яснаму, ціхаму дню вада ў возеры роўная, гладкая. Яна адбівае ў сабе ўсё акаляючае, як у люстэрцы. Мы набіраемся сьмеласьці і пачынаем нават сьпяваць. Едзем па вадзе заросшай чаротам, вадзянымі лілеямі і іншымі вадзянымі расьлінамі. Тут-жа пападаліся абманчывыя зялёныя астраўкі, якія зараз-жа апускаліся ў ваду, калі датыкаліся да іх вяслом.

Наш лодачнік вучыць нас як трэба сядзець у ліпцы: ня рухацца, апусьціцца на самае дно і трымацца за бакі рукамі, а боты з ног скінуць (на ўсякі выпадак). Мы едзем прытрымліваючыся заходняга берагу, робячы круг у вярсты 3-4. Перавозчык пры гэтым характарызуе дно возера, расказвае нам, дзе гразкія месцы, дзе якая глыбіня і інш.

Пасярэдзіне дарогі пачынаюцца глыбокія месцы—„віры“. Тут ужо вада хвалюецца і залівае нашую лодку. Мы ў сполаху. Нашы рукі заліваюцца вадою. Але перавозчык нас заспакойвае і, дзякуючы яго спрытнасьці, мы маем магчымасьць плысьці далей. Наогул, трэба адзначыць яго ўмеласьць і ўпэўненасьць у сваёй рабоце. Ён так добра ведае кожнае месца возера, як ведае ізвозчык вуліцы ў горадзе. Гэты „вір“ і хваляваньне возера цягнецца амаль што да самага паўднёвага берагу—месца нашай астаноўкі.

Зьлезшы з ліпкі, мы вышлі на бераг і каля 3 гадзін чакалі сваіх таварышоў, за якімі перавозчык паехаў „напрамкі“ возера і вёз іх такім-жа шляхам як і нас. Пры пераезьдзе цераз возера ў заходнім яго кутку мы ўсе наглядалі, як ловяць рыбу вялікім невадам. Невад спускаюць з дзьвюх вялікіх лодак „баранавак“ і цягнуць яго за вяроўкі пры дапамозе калаўротаў.

Сабраўшыся ўсе разам на беразе недалёк ад Ляхавіч, мы выкупаліся, абсушыліся і пайшлі ў вёску, думаючы, што хутка туды пройдзем.

Паводле слоў нашага перавозчыка, вёска Ляхавічы знаходзілася ад нас у аднэй вярсьце. Мы думалі папасьці туды, ідучы каля Ездаўні, ня ведаючы аб тым, што тут перад намі будуць ня меншыя труднасьці, чымся на возеры. Справа ў тым, што каля Ездаўні няма ніякіх кладак і ўвесь час трэба было ісьці па трасінахдрыгве, у якую мы правальваліся па калена, а Мікіцінскі нават упаў па пояс, крычучы: „ратуйце, а то засасвае“. Ісьці было так дрэнна, што мы гэтую вярсту ішлі ня меней 2-х гадзін.

Змучаныя, галодныя, гразкія, дабраліса нарэшце да сухога месца каля в. Ляхавіч. Вёска гэтая настолькі бедная і нетаварыская, што мы не маглі нічога дастаць зьесьці і толькі ў аб'ежчыка дасталі 2 жбаны кіслага малака бяз хлеба.

З Ляхавіч дайшлі на поўдзень у в. Пухавічы, якая знаходзіцца ў

3 вярстах. Па дарозе бачылі зусім зьбітае градам жыта, у якім пасьвіліся коні. Відаць, жаць яго няма сэнсу. Дзякуючы гэтаму ў сялян немагчыма было купіць нідзе хлеба.

Каля вёскі праходзіць канал, які злучае возера з Прыпяцьцю. Канал гэты шырокі і глыбокі. Па ім сплаўляецца лес. Вёска злучаецца трактам з м. Жыткавічамі праз вёску Белева. Выгляд мае больш культурны і чысты, чым Ляхавічы, Князь-Вазёрская і Дзяковічы. Распаложана на больш узьвышаным пяшчаным месцы. Будоўля значна лепшая. Няма розных невялічкіх прыбудовачак. На вокнах сустракаецца разьбярства.



Слуцкія краязнаўцы на возеры Князь-Жыд. (Ляхавіцкая прыстань).

У вёсцы ёсьць сельсавет, школа, коопэратыў. Для сельсавету заканчываецца пабудова новага прыгожага і досыць прасторнага будынку. У ім думаюць зьмясьціць ня толькі сельсавет, але і нардом.

Царква (старасьвецкая) знаходзіцца на скрыжаваньні 2 вуліц. Пры ёй знаходзіцца званіца, з якой адчыняецца добры від на возера. Царква захавала шмат старасьветчыны. На цьвінтары, з боку альтара знаходзіцца надтрунная пліта з чырвонага граніту. На адным баку гэтае пліты захаваўся надпіс кірыліцай наступнага зьместу: „Року 1623 положаны тут телеса рабов божіих наіменова жена, мамаша і сын Егор і внук его Тішка. Помяні душа і со святымі упокой“. На другім баку: „а сей камень поставіла Цішкова жена Гріпіна з сыном своім Петром“.

Іконастаў царквы старасьвецкі, чатырохпаверхавы, з абразамі старажытнага малярства. У царкоўным архіве захавалася шмат стара-

жытных кніжок, сярод якіх зварочвае на сябе ўвагу: 1) Евангельле, выданае Віленскім Брацтвам у 1644 г. 21 сьнежня. Яно знаходзіцца ў аксамітнай вокладцы, з мэталёвымі пасярэбранымі накладкамі, памастацку зробленымі. 2) Трыодзь каляровая Пятра Магілы ад 1631 г. з прадмоваю аўтара, у якой ён ахвяроўвае яе „ясьне вельможному пану Тамашові Замойскаму на Замосьцю". 3) Такая-ж трыодзь посная, але бяз даты, бо загалоўны ліст вырваны. 4) Сярод старых, выключаных з опісяй кніжок, мы знайшлі апостал, напісаны ўставам і набыты коштам Пухавіцкага брацтва для Пухавіцкай царквы. 5) Асабліва цікавым зьяўляецца кіпарысавы крыж, велічынёю ў 5 вяршкоў. Абкладзены срэбнай палоскай, на якой ёсьць надпіс: „сей крест в пуховіцкую церковь святітеля Ніколая". Крыж на срэбнай падстаўцы. На самым крыжы з абодвых бакоў ёсьць 13 малюнкаў з жыцьця Хрыста, кожны малюнак велічынёй ня больш монэты ў 3 кап., малюнкі выразаныя і вельмі мастацкай работы. 6) Тут-жа ёсьць выпісы з казённых інвэнтароў. Цікавы выпіс ад 1851 г., з якога відаць, што сяляне адбывалі павіннасьці ня толькі грашовыя, а і натуральныя. Так з вучастку адбывалі на будаўнічыя грамадзкія работы па 3 „цяглых" дні і 3 „полуцяглых", а для грамадзкай запашкі 2 „цяглых" і 2 „полуцяглых" дні. Працаздольнымі мужчынамі лічыліся ад 17 да 55 г., а жанчыны— ад 15 да 50.

З выпіскі таго-ж інвэнтару відаць, што па цажарнасьці жанчын звальнялі ад працы за 2 месяцы да радоў і на 1½ посьля радоў.

Грамадзкія запашкі рабіліся для папаўненьня магазынаў. На царкоўных землях яны адбывалі ад вучастка па ½ „цяглых" і ½ „полуцяглых" дні, а з паўвучастка па ½ „цяглых" дн. Прабытак за гэты год быў:

| | |
|---|---|
| Ад зямель сялянскіх усадзебных | 30 р. 60 к. |
| Ад пахатных і сенакосных | 426 р. |
| Запасных зямель | 8 р. 88 к. |
| Ад карчмы | 143 р. |
| Ад рыбнай лоўлі | 288 р. 44 к. |
| Усяго | 896 р. 92 к. |
| Расход: пэнсіі двум палясоўшчыкам | 32 р. |
| За гародную зямлю адстаўному салдату. | 60 к. |
| Застаецца прыбытку 864 р. 32 к., у тым ліку падушнага збору па 50 кап. з душы, за 171 душу | 85 р. 50 к. |
| Чыстага прыбытку | 778 р. 82 к. |

Вёска Пухавічы, як даўней, так і да гэтага часу зьяўляецца рыбацкім асяродкам. Раней каля царквы знаходзіўся манастырскі ставок, дзе разводзілі малькоў. У Пухавічах знаходзіцца рыбацкая арцель. Яна арандуе возера за 10.000 руб. у год. Вылаўлівае яно невадамі штодзённа на працягу году ня менш 15 пудоў буйнай рыбы, ня лічачы дробязі.

Арцель зарабляе на працягу году да 40.000 руб. У якой суме выяўляецца чысты прыбытак нельга сказаць. Вяскоўцы ня маюць права лавіць рыбу буйнымі снасьцямі. Арцель складаецца з 8 чал. яўрэяў. У іх працуе на працягу году ў сярэднім каля 24 чал. штодзённа за

1 р. 25 к. у дзень кожнаму. Яны ловяць рыбу на вялікіх лодках „бараноўках“, якія дасягаюць 15-16 ар. даўжыні і 2½ арш. шырыні. На лодках знаходзяцца калаўроты, якімі цягнуць невад. На кожнай бараноўцы ёсьць вялікі якар. Маемасьць арцелі складаецца з 1) 4 невадоў—2 зімовых і 2 летніх. Кожны невад даўжынёю па 75 саж. Захоплівае ў глыбіню па 4 саж., 2) двух „барановак“, 3) 5 лодак „шпілярак“ па 9-10 арш., 4) 2 лядоўняў — зімовай і летняй і шмат іншай дробязі.

Рыбу вывозяць у Слуцак і Гомель. Летам пакуюць рыбу ў асобыя „койкі“—даўжынёю 1 ар. 12 в., шырынёю 1¼ ар. і глыбінёю 1¼ ар. Зьмяшчаецца рыбы ў „койцы“ каля 15 пудоў. У койкі рыбу пакуюць наступным чынам: высьцілаюць яе саломай, на дно кладуць слой дробнага лёду, потым рыбы, зноў лёду і г. д. Наверх салому і забіваюць дошчачкамі. Зімою рыбу пакуюць у бочкі пудоў па 7. Рыбу, якая ідзе ў Слуцак, вязуць на лодках праз возера ў вёску Князь-Вазёрскую, а адтуль сухаземным шляхам у Слуцак. Рыбу, якая ідзе ў Гомель, адвозяць на фурманках на ст. Жыткавічы.

У Пухавічах, як і наогул у ваколіцах Князь Возера, сустракаецца шмат чарапах.

Рыбная арцель на месцы прадае толькі рэштткі ад упакоўкі і то па цане не малой. Прыкладам, фунт толькі што злоўленых карасёў каштуе 20 кап. У сялян рыбу можна дастаць у 2 разы таней. Насельніцтва вёсак Пухавічы і Ляхавічы, паводле апавяданьняў тубыльцаў, зьяўляюцца патомкамі ссыльнага элемэнту з розных месц былой Рэчы Паспалітай. У тыя часы гэтыя ваколіцы зьяўляліся месцам ссылкі для адбываньня кары.

Вёскі гэтыя маюць вельмі дрэнныя шляхі зносін. Бываюць часы (у восені і вясною), калі яны адрэзаны ад усяго сьвету, а акаляючыя іх хутары ня маюць зносін у працягу ўсяго лета. І толькі зімою, як установіцца санная дарога, яны могуць выехаць, каб здабыць сабе солі на цэлы год.

14 ліпня мы накіраваліся ў „шпілярцы“ ў вёску Князь-Вазёрскую праз усё возера.

*(Канец будзе).*

# Програмы, анкеты і інструкцыі.

Г. Аляксандраў.

## Програма вывучэньня мястэчка.

I.

Мястэчка ў сучасны момант прыцягвае да сябе пільную ўвагу Савецкай улады і савецкай грамадзкасьці ў бок яго ўзмацненьня і перабудаваньня. Ужо гэтага факту досыць дзеля таго, каб зьвярнуць увагу нашых краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў на дасьледваньне і вывучэньне матар'ялаў, якія датычацца мястэчка.

Разам з гэтым неабходна адзначыць, што адсутнасьць здавальняючых вестак і матар'ялаў аб мястэчку вельмі кідаецца ў вочы пры азнаямленьні з нашай навуковай—экономічнай, гістарычнай і этнографічнай—літаратурай. Ва ўмовах БССР (а таксама некаторых частак УССР—Валыні, Падоліі і інш.) мястэчка зьяўляецца надзвычайна характэрным социяльна-экономічным тыпам паселішча, якое ахапляе значныя кадры насяленьня і пакінула прыметныя сьляды ў яго экономіцы, побыту, сьветапоглядзе і г. д. Паміж тым, гэтыя асаблівасьці вывучаны вельмі слаба *).

Пры вывучэньні мястэчка неабходна ў першую чаргу адыходзіць ад тых асаблівасьцяй, якія выдзяляюць яго на асобае месца ў параўнаньні з двума асноўнымі социяльна-экономічнымі тыпамі паселішчаў—горадам і вёскай. З экономічнага погляду мястэчка характарызуецца больш павольным тэмпам разьвіцьця ў параўнаньні з горадам, што накладала адбітак некаторай інэртнасьці на яго агульным укладзе: ад вёскі мястэчка адрозьніваецца рознастайнасьцю заняткаў насяленьня—поплеч з земляробствам у ім шырака распаўсюджаны розныя рамёствы, розныя формы гандлю, пасрэдніцтва, крэдытовыя опэрацыі і да т. п. З погляду культурна-гістарычнага мястэчка характарызуецца рознастайнасьцю свайго нацыянальнага складу—галоўным чынам перавагай яўрэйскага насяленьня.

Усе гэтыя асаблівасьці значна відазьмяніліся ў працягу апошніх дзесяцілецьцяў да рэволюцыі і асабліва пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Разьвіцьцё капіталізму і фабрычна-заводзкай прамысловасьці

*) Больш падрабязна аб гэтым глядз. даклад Г. С. Аляксандрава „Вывучэньне мястэчка", які надрукаваны ў „Працах II-га Ўсебеларуск. Краязнаўчага Зьезду",—стар. 73—80.

садзейнічалі з аднаго боку ўтварэньню вядомай колькасьці прамысловых мястэчак, з другога—павялічэньню эміграцыі з мястэчак у буйныя гарадзкія цэнтры. Існаваньне законаў, якія абмяжоўвалі правы яўрэяў („черта оседлости"), служылі прычынай яўрэйскай эміграцыі з мястэчка ў дарэволюцыйныя часы, пераважна ў Амэрыку.

Экономічныя зьмены ў жыцьці мястэчка зрабіліся асабліва рэзкімі ў пэрыод пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Мястэчка, якое здаўна адыгрывала ролю экономічнага пасрэдніка паміж вёскай і горадам, пачало губляць сваё значэньне ў якасьці такога. Пры вайсковым комунізьме і пасьля ўзмацьненьня коопэрацыі значна ўпаў прыватны гандаль. Разам з гэтым заўважваецца пашырэньне і разьвіцьцё саматужнай прамысловасьці, імкненьне яўрэйскага насяленьня да земляробства ў сувязі з мерапрыемствамі Савецкай улады па зямляўпарадкаваньні яўрэяў.

Усе гэтыя факты відавочна даводзяць, што пры вывучэньні мястэчка і яго асаблівасьцяй патрэбны перш усяго *дынамічны* падыход; немагчыма абмежавацца адным апісаньнем—неабходна знайсьці гістарычныя карані характэрных момантаў экономікі і культуры мястэчка; нельга абмежавацца адным мінулым—патрэбна дэталёвае вывучэньне сучаснага стану і пэрспэктыў будучага разьвіцьця кожнага паасобнага мястэчка.

Пераходзячы да паасобных бакоў нашае програмы, лічым патрэбным спыніцца ў першую чаргу на асаблівасьцях мястэчка, як экономічнага цэнтру раёну. Большасьць нашых мястэчак зьяўляецца ня толькі адміністрацыйна, але і экономічна цэнтрамі раёнаў; дзеля гэтага неабходна вывучэньне экономічнага прыцягненьня да апошніх. Патрэбныя для гэтага агульныя весткі аб раёне можна здабыць з гадавых справаздач РВК, якія за апошні час складаюцца досыць падрабязна і дакладна; некаторыя весткі можна атрымаць з „памятных книжек", з матар'ялаў перапісу 1926 г., якія паступова друкуюцца, і да т. п. Можна таксама выкарыстаць і валасныя архівы, калі яны захаваліся.

Віднае месца ў нашай програме займае разьдзел „Гісторыя мястэчка". Большасьць нашых мястэчак гістарычна зусім ня вывучана—тут для краязнаўцы непачаты край працы. Па тыпу свайго гістарычнага разьвіцьця надзвычайна вызначаюцца ўладарніцкія мястэчкі, якія заслугоўваюць асаблівае ўвагі з погляду ўзаемаадносін паміж уладаром мястэчка і насяленьнем. Тут надзвычайна важна вывучэньне рознага роду юрыдычных актаў—граматы, прывілеі і інш.

Неабходнасьць вывучэньня мястэчка, як цэлага, прыводзіць да вывучэньня яго паасобных нацыянальных груп і іх клясавых разьдзяленьняў. Формы ўзаемаадносін паміж паасобнымі соцыяльнымі і нацыянальнымі групамі патрэбна ў першую чаргу выдзеліць і вывучыць.

Крыніцамі для гісторыі мястэчак зьяўляюцца мясцовыя кронікі „пінкосы", у якіх, разам з момантамі рэлігійна-бытавога характару, сустракаюцца матар'ялы і соцыяльна-экономічнага характару. Неабходна зрабіць адпаведныя выпіскі з орыгіналу. Матар'ялы аб мястэчках раскіданы таксама па нашых акруговых і цэнтральных архівах—трэба іх выкарыстаць. З друкаваных выданьняў, у якіх зьмешчаны документавыя матар'ялы, для дасьледчыка мястэчка неабходны: „Регесты и надписи", „Русско-Еврейский Архив" і інш.

У працах нашых гісторыкаў і экономістых, у розных даведачных выданьнях ёсьць матар'ялы па гісторыі мястэчак. Такімі зьяўляюцца працы Сапунова па Віцебскай губ., Дэмбавецкага—па Магілеўскай, Географічныя слоўнікі—Сямёнава, Польскі географічны слоўнік і інш. У „Еврейской Энциклопедии" ёсьць артыкулы і заўвагі аб паасобных мястэчках.

Асобна патрэбна спыніцца на гісторыі рабочага руху. Рабочы рух у Беларусі—рабочы рух пролетар'ыяту, які згрупаваны ў значнай частцы ў невялікіх прадпрыемствах саматужна-рамесьніцкага тыпу, расківданых па гарадох і мястэчках. Прасякненьне соцыялістычных ідэй, утварэньне соцыялістычных партый, барацьба з прадпрыемцамі, 1905 год,—усё гэта неабходна ўважліва вывучыць. Трэба таксама выкарыстаць у шырокай меры ўспаміны непасрэдных удзельнікаў рэволюцыйнага руху.

У гісторыі нашых мястэчак віднае месца займаюць рознага роду рэлігійныя і дабрачынныя таварыствы і брацтвы, матар'ялы якіх неабходна сабраць. Пад формамі рэлігійнай і культурнай барацьбы, якая асабліва павялічылася ў пачатку XIX сталецьця (хасыдызм, асьветны рух) хавалася соцыяльная сутнасьць, якую неабходна выявіць на падставе гістарычных фактаў, матар'ялаў, паданьняў і г. д.

Значны гістарычны матар'ял, а таксама і экономічны (цяпер ужо гістарычны) маецца ў пэрыодычных выданьнях—Губэрскія Ведамасьці, „Восход", а таксама ў выданьнях на яўрэйскай мове — „Фрайнд", „Гайнт", „Момэнт", „Фольксцайтунг" і інш.

Пры вывучэньні насяленьня мястэчка, яго гаспадарчай дзейнасьці, політычнага і культурнага стану неабходна ў першую чаргу непасрэднае абсьледваньне ўстаноў, а таксама выкарыстаць бягучы статыстычны матар'ял розных урадавых устаноў (РВК і яго аддзелы), мясцовых гаспадарчых аб'яднаньняў—коопэрацыі ў яе розных відах—спажывецкай, прамысловай, крэдытнай,—мясцовых профсаюзных організацый, рознага роду таварыстваў і г. д. Было-б вельмі мэтазгодна, каб мясцовае краязнаўчае таварыства (ці краязнаўчыя музэі, дзе такія маюцца) сконцэнтравалі ў сябе ўсякага роду мясцовы матар'ял справаздачнага характару.

Побач з натуральнымі фактарамі выключную ролю ў руху насяленьня адыгрываюць фактары мэханічныя—эміграцыя ў розныя часткі СССР, а таксама за межы яго—у Амэрыку, Паўднёвую Афрыку і г. д. Гэты процэс эміграцыі асабліва важна прасачыць за пэрыод пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі ў сувязі з павялічэньнем эміграцыйнага руху яўрэйскага насяленьня мястэчка ў буйныя політычныя і экономічныя цэнтры СССР. Цікава параўнаць гэты процэс з процэсам эміграцыі вясковага насяленьня раёну ў сувязі з аграрным перанасяленьнем вёскі.

З паасобных экономічных груп местачковага насяленьня мы зварочваем увагу на земляробаў. Тут патрэбна вывучыць асаблівасьці местачковага земляробства, як тыпу, які набліжаецца да прыгараднага. Новым момантам у земляробстве мястэчка за апошнія гады зьяўляецца разьвіцьцё яўрэйскага сялянства ў самым мястэчку і прымыкаючым да яго раёне. Матар'ялы маюцца ў мясцовых аддзяленьнях і ячэйках „таварыства зямляўпарадкаваньня працоўных яўрэяў" („ОЗЕТ").

Рамесьнікі і колькасна і экономічна займаюць віднае месца ў экономіцы мястэчка. За апошнія гады заўважваецца ўзмацненьне стану рамесьніка-саматужніка, зьяўляюцца і разьвіваюцца новыя віды рамёстваў. Разам з гэтым можна адзначыць павялічэньне экономічнай дыфэрэнцыяцыі, паступовае ўзмацненьне социялістычнага—пераважна коопэратыўнага—сэктара ў местачковай экономіцы. Амаль ва ўсіх мястэчках ёсьць пазыкова-ашчадныя таварыствы, якія абслугоўваюць пераважна саматужнікаў (такія т-вы існавалі і да рэволюцыі, але яны абслугоўвалі галоўным чынам дробных гаспадароў), установы сельскагаспадарчага крэдыту, прамысловыя арцелі, працколектывы і г. д. Усе гэтыя процэсы неабходна вельмі ўважліва вывучыць, паколькі ў іх закладзены элемэнты і пэрспэктывы бліжэйшага экономічнага разьвіцьця мястэчка.

Барацьба паміж коопэрацыяй і прыватным гандлем асабліва разыгралася і разьвіваецца на фоне местачковай экономікі. Процэс паступовага выпінаньня прыватнага гандлю павінен быць асабліва вывучаны.

Буйная і дробная прамысловасьць мястэчка павінна быць шчыльна абсьледвана, паколькі з аднаго боку ў нашай бягучай экономічнай політыцы займае віднае месца пытаньне аб мясцовай прамысловасьці, з другога—у сувязі з пытаньнямі індустрыялізацыі. З гэтым зьвязана таксама пытаньне аб пролетарыяту ў мястэчку, павялічэньне яго экономічнага і політычнага ўплыву.

У мястэчку, з прычыны політычнага і экономічнага абмежаваньня яўрэйскага насяленьня да рэволюцыі і социяльных зьмен у ім пасьля Кастрычніка, ёсьць значны контынгент асоб, так званых „нявызначаных" профэсій, утрыманцаў, асоб, якія атрымліваюць дапамогу ад грамадзкіх і дабрачынных організацый і г. д. Цікава параўнаць гэтыя групы да і пасьля рэволюцыі, паколькі яны адбіваюць малюнак экономікі мястэчка.

Маючы імкненьне да суцэльнага і поўнага вывучэньня мястэчка, неабходна спыніцца на політычным і культурным стане апошняга. Тут трэба спыніцца на ролі рэлігійнага моманту ў культуры мястэчка да і пасьля рэволюцыі; цікава супаставіць местачковую грамадзкасьць, якая насіла пераважна дабрачынны характар,—з сучаснасьцю.

Вывучэньне быту і культуры мае шэраг асаблівасьцяй. Рознастайны нацыянальны і культурны склад мястэчка адбіўся на характары living рознага роду звычаяў, мовы і да т. п. Менавіта мястэчка зьяўляецца найбольш удалым пунктам для вывучэньня культурных узаемаадносін беларускай і яўрэйскай моваў, беларускага і яўрэйскага фольклёру і г. д. Неабходна спыніцца на элемэнтах новага быту, які ўсё больш і больш прасякае ў мястэчка—мяшаныя шлюбы, невыкананьне рознага роду рэлігійных абрадаў, зьвязаных з вядомымі момантамі жыцьця—нараджэньнем, шлюбам, сьмерцю і г. д. Тут шырокае поле працы для этнографа.

Аб усіх экономічных і культурна-бытавых зьменах у мястэчку маецца публіцыстычны матар'ял, раскіданы ў пэрыодычным—цэнтральным і мясцовым друку. З паасобных кніг адзначаем кнігу „Еврейское местечко в революции" пад рэдакц. проф. Тан-Богораза (Выд. Гиз. 1926 года).

Заканчваючы наша тлумачэньне да „програмы вывучэньня мястэчка“, лічым патрэбным паказаць, што такая програма зьяўляецца першай у нашай мэтодычнай літаратуры; натуральна, што яна ня можа прэтэндаваць на вычэрпваючую паўнату. Спадзяемся, што ў процэсе практычнай працы па вывучэньні мястэчка (а да гэтага ўжо выяўляецца зацікаўленасьць з боку нашых краязнаўчых таварыстваў *), будзе паглыбляцца і мэтодычны бок пытаньня.

II.

### I. Агульнае палажэньне і выгляд мястэчка.

Географічнае палажэньне, агульная характарыстыка распалажэньня мястэчка, адлегласьць ад раённага цэнтру, акруговага, сталіцы. Колькасьць дамоў—драўляных, каменных, крам і іншых будынкаў. Базар. Колькасьць вуліц, іх назвы, агульны выгляд. Плян мястэчка.

Мястэчка, як цэнтр раёну. Агульныя зьвесткі аб раёне—тэрыторыя, межы, колькасьць сельсаветаў; глебы раёну, колькасьць насяленьня; ступень заможнасьці раёну—разьмеркаваньне зямлі і жывёлы, разьвіцьцё дробнай і буйнай прамысловасьці.

Экономічнае значэньне чыгуначнай станцыі для мястэчка. Пошта, тэлеграф і тэлефон.

### II. Гісторыя мястэчка.

Час і мейсца заснаваньня мястэчка—гістарычныя факты і паданьні, якія зьвязаны з яго ўзьнікненьнем; пахаджэньне назвы мястэчка. Старыя і новыя вуліцы мястэчка; пахаджэньне іх назваў. Уладар мястэчка, яго ўзаемаадносіны з насельніцтвам (чынш і іншыя падаткі, факты і паданьні аб свавольніцтве пана ўладара). Зьяўленьне яўрэйскага насельніцтва ў мястэчку, юрыдычныя падставы іх пасяленьня; яўрэйскае насельніцтва ў прылягаючых да мястэчка вёсках, яго сувязь з мястэчкам. Рост яўрэйскага насельніцтва мястэчка, занятні яго, соцыяльная дыфэрэнцыяцыя. Узаемаадносіны з неяўрэйскім насельніцтвам (факты конкурэнцыі, хадайніцтвы мяшчан аб высяленьні яўрэяў і г. д.). Яўрэйская грамада мястэчка і яе самакіраўніцтва (кагал). Кагал і агульныя органы самакіраваньня, кагал і паны-гаспадары мястэчка і вакольныя паны; барацьба за арэнды; кагал, розныя пласты яўрэйскага насельніцтва (уплыў адкупшчыкоў, гандляроў, рабінаў; факты, якія сьведчаць аб уплыве гэтых груп; рамесьнікі—факты іх барацьбы з кагалам). Соцыяльна-рэлігійная барацьба ў асяродзьдзі яўрэйскага насельніцтва мястэчка (барацьба за рабінаў, стварэньне паасобных рамесьніцкіх сынагог, брацтваў); прасьледваньні „вольнадумцаў“. Рэлігійна-навучальныя ўстановы (хэдэры, ешыботы).

Неяўрэйскае насельніцтва мястэчка (вёскі, якія непасрэдна прылягаюць да мястэчка; вуліцы, якія заселены сялянамі), яго экономічная структура, узаемаадносіны з рознымі групамі яўрэйскага насельніцтва.

Мястэчка ў першай палове XIX ст. Высяленьне яўрэйскага насельніцтва з вёсак,—іх наплыў у мястэчка, барацьба з імі з боку кораннога насельніцтва. Палажэньне кагалу; павялічэньне соцыяльнай і рэлігійна-культурнай барацьбы (барацьба з хасыдамі, з асьветаўцамі).

---

*) Карыстаемся выпадкам адзначыць ініцыятыву, праяўленую ў гэтай справе, з боку яўрэйскай сэкцыі пры Мазырскім акруговым т-ве краязнаўства.

Вайна 1812 г. у мястэчку. Як адбіліся рэформы Мікалая I ў мястэчку, факты і паданьні, якія зьвязаны з рэкрутчынай, увядзеньнем нямецкай вопраткі, казённых школ. Эміграцыя на Украіну (Валынь, яўрэйскія земляробскія колёніі). Каробкавы і сьвечны збор.

Мястэчка ў другой палове XIX ст. (пасьля вызваленьня сялян). Цягненьне да буйных цэнтраў, зьмены ў экономічнай структуры мястэчка, буйны характар гандлю, фабрыкі і гуты, агульнае ўзмацненьне сувязі з акаляючым сьветам дзякуючы пабудаваньню чыгунак. Эміграцыя ў Амэрыку, пачынаючы з апошніх дзесяцігодзьдзяў XIX ст.

Політычна-грамадзкія плыні—асьветаўцы, палістынафільства, першыя соцыялісты, уплыў народавольніцкіх гурткоў на яўрэйскую моладзь, разьвіцьцё рабочага руху—соцыял-дэмократычныя організацыі („Искра"); удзел яўрэйскіх рабочых; удзел местачковых рабочых у бальшавіцкай організацыі. Бунд; сыёністы-соцыялісты, поалей-цыён. Буржуазныя партыі—сыёністы, рэлігійна-політычныя аб'яднаньніе. 1905 год у мястэчку—павялічаньне экономічнае барацьбы, забастоўкі, удзел паасобных партый і асоб. Сувязь рэволюцыйнага руху мястэчка з вёскай—аграрны рух і ўдзел у ім прадстаўнікоў местачковых організацый. Рэакцыя і яе праявы ў мястэчку—пагромы, прасьледваньні рабочых і сялян.

Палажэньне мястэчка ў часы імпэрыялістычнае вайны. Экономічныя вынікі вайны ў мястэчку (уцекачы, зьбядненьне працоўнага насельніцтва). Лютаўская рэволюцыя ў мястэчку. Адносіны розных груп насельніцтва і партый да лютаўскае рэволюцыі. Саветы ў мястэчку; барацьба за Кастрычнік. Кастрычнік у мястэчку. Першыя крокі організацыі Савецкае ўлады. Грамадзянская вайна і яе ўплыў на мястэчка (зьмены ўлад, пагромы, партызаншчына). Вайсковы комунізм і яго ўплыў на экономіку мястэчка (выцясьненьне гандляроў і іншых прадстаўнікоў пасрэдніцкіх профэсій, эміграцыя ў буйныя цэнтры Беларусі, РСФСР, УССР). Нэп у мястэчку. Факты апошніх гадоў.

### III. Насельніцтва мястэчка.

Разьмеркаваньне насельніцтва па роду, узросту, нацыянальнасьці, профэсіі; колькасьць сямействаў, натуральны рост насяленьня розных нацыянальнасьцяй (нараджальнасьць, сьмяротнасьць, шлюбнасьць). Механічныя фактары руху насяленьня розных нацыянальнасьцяй (эміграцыя ў буйныя цэнтры Беларусі, Украіны, РСФСР, за межы СССР). Соцыяльны склад насельніцтва паводле нацыянальных груп да і пасьля рэволюцыі.

### IV. Экономіка мястэчка.

*А) Земляробства.* Колькасьць земляробскага насяленьня розных нацыянальнасьцяй у мястэчку, колькасьць зямлі, разьмеркаваньне яе паводле нацыянальных і соцыяльных груп. Характар местачковага земляробства, як блізкага да прыгарадовага. Розныя віды земляробства: палявая гаспадарка, гародніцтва, садоўніцтва, ступень іх пашыранасьці. Іншыя віды сельска-гаспадарчай прамысловасьці. Таварнасьць гаспадаркі. Бюджэт местачковага земляроба; неземляробскія прыбыткі і іх роля ў бюджэце местачковага земляроба.

Яўрэі на зямлі перад і пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Гісторыя ўзьнікненьня яўрэйскіх земляробскіх колёній і колектываў, якія непасрэдна прылягаюць да мястэчка. Савецкія і колектыўныя гаспадаркі, якія прылягаюць да мястэчка, іх разьвіцьцё і стан.

*Б) Рамесьніцтва.* Разьмеркаваньне рамесьнікаў па нацыянальнасьці і занятках; соцыяльная дыфэрэнцыяцыя. Перавага пэўнага віду рамяства; прычына яго ўзьнікненьня і разьвіцьця. Экономічнае палажэньне рамесьнікаў перад і пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Спосабы здабываньня сырцу, збыт вырабаў. Сувязь з вёскай. Агульная сума вытворчасьці. Падросткі і іх удзел у рамястве.

*В) Дробная і буйная прамысловасьць.* Колькасьць прадпрыемстваў розных тыпаў, іх характар, процэс вытворчасьці, тэхнічнае абсталяваньне, колькасьць рабочых, сума вытворчасьці. Гісторыя фабрыкі—яе заснаваньне, разьвіцьцё, узаемаадносіны між гаспадарамі і рабочымі.

*Г) Служачыя і рабочыя.* Разьмеркаваньне іх па нацыянальнасьці і катэгорыях. Разьмеркаваньне іх па ўстановах. Мінімальныя, сярэднія і максымальныя заработкі розных катэгорый, рост за розныя пэрыоды. Беспрацоўныя паводле нацыянальнасьці, роду, узросту і профэсіі.

*Д) Гандаль.* Агульны характар мясцовага гандлю—перад і пасьля рэволюцыі (калі мела месца пашырэньне спэцыяльнага віду гандлю—паказаць прычыны яго разьвіцьця). Разьмеркаваньне гандляроў па нацыянальнасьці і катэгорыях; сума зваротаў прыватных гандляроў. Буйныя і дробныя гандляры; дробныя гандляры па вёсках; кірмашовы гандаль, яго пашыранасьць і звароты. Дзяржаўны гандаль у мястэчку.

*Е) Нявызначаныя профэсіі.* Ступень пашыранасьці гэтай катэгорыі ў мястэчку. Экономічнае палажэньне гэтай групы; чым жывуць, характар яе перад і пасьля рэволюцыі. Утрыманцы, на чый кошт яны жывуць; характар дапамогі, якая даецца ім.

*Ж) Коопэрацыя і яе формы:* 1) Спажывецкая коопэрацыя, гісторыя яе ўзьнікненьня і разьвіцьця, палажэньне ў сучасны момант. Барацьба з прыватным гандлем. 2) Крэдытная коопэрацыя—пазычковаашчэдныя т-вы. Іх палажэньне перад і пасьля рэволюцыі. Колькасьць сяброў, пазык, характар опэрацый (параўнаць за розныя пэрыоды). Дапамога ў справе атрыманьня сырцу і збыту вырабаў. Сувязь з цэнтральнымі коопэратыўнымі аб'яднаньнямі. Сельскагаспадарчы крэдыт і яго роля ў крэдытаваньні паасобных груп местачковага насяленьня. 3) Прамысловая коопэрацыя. Арцелі і працколектывы, іх узьнікненьне, разьвіцьцё, стан у сучасны момант (параўнаць за розныя пэрыоды). Сувязь з коопэрацыйнымі аб'яднаньнямі. Выкарыстаньне крэдытаў. Атрымоўваньне сырцу, збыт вырабаў.

*З) Дапамога збоку.* (Амэрыка, іншыя дзяржавы). Колькасьць сямей, якія меюць дапамогу збоку, ад родных. Характар дапамогі, сума

### V. Мястэчка, як адміністрацыйны цэнтр.

Адміністрацыйны ўклад мястэчка да рэволюцыі. Мясцовае начальства—станавыя прыставы, урадрікі, іх адносіны да насяленьня. Валаснае праўленьне, яго сувязь з мястэчкам. Мяшчанская ўправа, мяшчанскія старасты, казённыя рабіны. Спрошчанае кіраваньне.

Савецкі лад у мястэчку. Местачковыя і нацыянальныя саветы, іх склад, дзйнасьць іх аддзелаў. Політычная актыўнасьць насельніцтва—колькасьць прымаючых удзел у выбарах за розныя гады, колькасьць пазбаўленых права абіраць. Бюджэт Саветаў за розныя гады. Як адбілася дзейнасьць Саветаў у мястэчку (у адносінах паляпшэньня эканомічнага палажэньня, падаткаў, дабрабыту, зямлябудаўніцтва і г. д.).

## VI. Асьвета ў мястэчку.

Характар асьветы да рэволюцыі. Колькасьць хэдэраў, талмудтораў, ешыботаў, вучняў і настаўнікаў. Урадавыя школы—пачатковыя, сярэднія, колькасьць вучняў па нацыянальным і соцыяльным складзе. Вучні мястэчка, якія знаходзіліся ў іншых гарадох (дзякуючы процантавай норме). Іншыя асьветныя ўстановы.

Кастрычнік і асьвета ў мястэчку. Пісьменнасьць насельніцтва па роду, нацыянальнасьці, узросьце. Агульныя і нацыянальныя школы, колькасьць вучняў па нацыянальным і соцыяльным складзе, склад настаўнікаў. Агульныя весткі аб стане школ—памяшканьне, інвэнтар, навучальныя дапаможнікі і г. д. Сувязь школы з насельніцтвам. Гісторыя школьнай справы ў мястэчку. Пазашкольныя ўстановы—бібліотэка, хата-чытальня, народны дом, клюбы, іх дзейнасьць. Моладзь мястэчка, якая вучыцца ў іншых гарадох—тэхнікумах, вузах і г. д.

## VII. Дабрабыт і санітарнае становішча мястэчка.

Агульны стан вуліц, дамоў, будынкаў. Збудова памяшканьняў. Вадазабясьпечаньне. Асьвятленьне. Лазьня. Лекавая дапамога — дактары, фэльчары, амбуляторыі, аптэкі, больніцы да і пасьля рэволюцыі; агульныя весткі аб пастаноўцы справы.

## VIII. Політычныя і грамадзкія організацыі ў мястэчку.

Профсаюзы—колькасьць сяброў у паасобных саюзах, іх дзейнасьць (умацаваньне экономічнага палажэньня, палепшаньне кваліфікацыі, ахова працы, культпраца і г. д.). Страхкаса і яе праца. Т-ва саматужнікаў і яго дзейнасьць. Комітэты ўзаемадапамогі і іх дзейнасьць. Характар філянтропіі ў мястэчку да рэволюцыі (весткі аб філянтропічных таварыствах); рэшткі яе ў сучасны момант.

Т-ва зямлябудаўніцтва працоўных яўрэяў (ОЗЭТ) — дзейнасьць мясцовай ячэйкі. Ячэйкі Мопр, Осоавіяхім. Мясцовае краязнаўчае Т-ва. Іншыя Т-вы. Уплыў клерыкалізму ў мястэчку; клерыкальна-філянтропічныя организацыі.

## IX. Быт і культура.

Агульны культурны ўзровень насельніцтва. Рэлігійнасьць, ступень яе ўплыву ў сучасны момант, наведваньне сынагогі, царквы. Уплыў прадстаўнікоў рэлігійнага культу. Моманты новага быту ў сям'і (зьмешаныя шлюбы, няхрышчоныя, неабрэзаныя).

Народныя забабоны сярод розных нацыянальнасьцяй мястэчка. Народная мэдыцына — знахарства. Мясцовая мова (у прыватнасьці — мясцовыя выразы і пагаворкі, якія зьвязаны з мясцовымі падзеямі, мясцовыя прозьвішчы, беларускія словы ў яўрэйскай мове і наадварот і г. д).

Помнікі матар'яльнай культуры ў мястэчку (апісаньне сынагог, цэркваў з боку архітэктуры. Фотоздымкі цікавых з боку стылю мястэчковых будынкаў, старасьвецкіх рэчаў рэлігійнага культу і інш.).

**X. Біографіі мясцовых дзеячоў і ўраджэнцаў.**

Грамадзкія і політычныя дзеячы, літаратары, поэты, мастакі і інш.*).

---

# Аб організацыі гідролёгічных наглячаньняў.

Гідролёгічныя нагляданьні маюць вялікае навуковае і практычнае значэньне. Да гэтага часу яны вяліся рознымі наглядальнікамі ў некалькіх пунктах БССР. Вынікі нагляданьняў адсылаліся ў Дзяржаўны Гідролёгічны Інстытут (Ленінград, Васілеўскі востраў, 2 лінія, № 23), які ахвотна высылаў блянкі для нагляданьняў. Праца наглядальнікаў ня ўлічвалася нават нашымі мясцовымі краязнаўчымі організаціямі. Паміж тым яна вельмі лёгкая і надзвычайна карысная. Раённыя таварыствы краязнаўства павінны ўлічыць існуючую сэкту гідролёгічных наглядальнікаў, клапаціцца аб яе пашырэньні і паказаваць працу яе ў сваіх справаздачах. Паколькі ў БССР няма яшчэ гідролёгічнага цэнтру, які-б зьбіраў і апрацоўваў гідролёгічныя нагляданьні,—апошнія трэба пасылаць вышэйпамянёнаму Дзяржаўнаму Гідролёгічнаму Інстытуту. Сталых наглядальнікаў ён залічае сваімі членамі-дапішчыкамі. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства запрасіла ад інстытуту сьпіс іх і мае апавясьціць у „Нашым Краі".

*) Матар'ялы да бібліографіі па вывучэньні яўрэйскага насельніцтва мястэчак Беларусі, гл. стар. 61.

# ХРОНІКА.

## Дзейнасьць ЦБК.

**Пасяджэньне 22/XII-27 г.**

Прадстаўніком у Раду музэю ад ЦБК вылучаны т. Аляксандраў. Заслуханы протоколы пасяджэньняў Краязнаўчага Т-ва пры БДЗУнівэрсытэце. Зацьверджаны тэзісы дакладу т. Аляксандрава аб падрыхтоўцы краязнаўцаў. Даручана т. Аляксандраву ўкласьці праграму краязнаўства для тэхнікумаў і вузаў, скласьці праграму працы краязнаўчых студый і напісаць артыкул для „Нашага Краю“ аб падрыхтоўцы краязнаўцаў. Ухвалена пастанова аб абмене часопісам „Наш Край“ з рэдакцыямі мясцовых беларускіх газэт.

**Пасяджэньне 31/XII-27 г.**

Заслуханы даклады прадстаўнікоў краязнаўчых гурткоў: пры пэдтэхнікуме (т. Пашчэнкі), пры гідротэхнікуме (т. Кліменкі), польпэдтэхнікуме (т. Манкевіча) і пры яўпэдтэхнікуме (т. Аляксандрава). У рэзолюцыі па дакладах прызнана, што слабы ўдзел у працы гурткоў прымаюць студэнты апошніх курсаў тэхнікумаў і зусім ня прымае ўдзелу пэдпэрсонал. Заслуханы інформацыйныя даклады аб III усерасійскай краязнаўчай конфэрэнцыі тт. Казака, Касьпяровіча і Аляксандрава. Заслухалі даклад т. Жураўскага аб выніках яго камандыроўкі ў Віцебскую акругу. Заслухалі ліст інструктара-мэтодыста беларускай працы НКА РСФСР т. Каляды аб укладаньні сіламі ЦБК лістоўкі „Краязнаўства і школа“ для беларускіх школ у РСФСР. Даручана т. Аляксандраву скласьці плян такой лістоўкі. Заслуханы і зацьверджаны протокол Віцебскага Акруговага Т-ва Краязнаўства № 16. Разгледжана шмат тэхнічных пытаньняў у справе выданьня „Нашага Краю“ ў 1928 г. Вынесена пастанова аб продажы для краязнаўчых організацый і краязнаўцаў старых №№ „Нашага Краю“ са скідкай у 50%.

**Пасяджэньне 7/I-28 г.**

Зацьверджаны проект праграмы курсу краязнаўства ў вузах і тэхнікумах (даклад т. Аляксандрава). Заслухана інформацыя т. Мялешкі аб працы Полацкага Акруговага Т-ва краязнаўства. У рэзолюцыі па дакладзе падкрэсьлена ажыўленьне ў працы Т-ва і адзначаны дасягненьні ў справе організацыі Полацкага Краёвага музэю. Разгледжана пытаньне аб абмене часопісам „Наш Край“ з замежнымі краязнаўчымі часопісамі. Заслухалі протокол Праўленьня Магілеўскага Акруговага т-ва ад 24-XII-27 г. На акруговую краязнаўчую конфэрэнцыю ў Магілеве, якая мае адбыцца 10-I-28 г., прадстаўніком ад ЦБК вылучаны т. Шашалевіч. Заслухалі протокол пасяджэньня Праўленьня Віцебскага Акруговага Т-ва ад 22-XII-27 г. Па дакладзе вынесена пастанова выпісаць для ўсіх Акруговых т-ваў і Горацкага т-ва „Віцебскі Краёвы Слоўнік“. Заслухалі протокол Горацкай раённай Краязнаўчай Конфэрэнцыі 11-XII-27 г. Пастаноўлена паслаць на разгляд у Горацкае Навуковае т-ва проект праграмы курсу краязнаўства ў вузах. Зацьвердзілі каляндарны плян пасяджэньняў Прэзыдыуму ЦБК у студзені і лютым месяцах 1928 г. Разгледжана просьба т. Мялешкі аб бясплатнай дасылцы Акруговым т-вам усіх выданьняў Інбелкульту. Ухвалена прасіць Сакратарыят ІБК высылаць Акруговым т-вам па 1 экз. усіх выданьняў ІБК і Горацкага Навуковага т-ва.

**Пасяджэньне 14/I-28 г.**

Заслухана інформацыя заг. аддзелу Прыроды і Гаспадаркі ІБК т. Смоліча аб дзейнасьці аддзелу і сувязі працы яго з працаю ЦБК. Вынесена пастанова прасіць Аддзел узяць на сябе апрацоўку фэнолёгічных назіраньняў, што дасылаюцца ў ЦБК, праверыць інструкцыю для ўкладаньня раённых географічных слоўнікаў (складзеную М. Азбукіным і М. Касьпяровічам). Прадстаўніком ад ЦБК у камісію для выпраўленьня назваў паселішч для карты ВСНГ вылучаны т. Жураўскі. Заслухалі даклад т. Касьпяровіча аб краязнаўчай працы ў вайсковых часьцях, яе організацыі і мэтодах. Вынесена рэзолюцыя прасіць Ваенна-Навуковае Т-ва абгаварыць гэта пытаньне з удзелам прадстаўнікоў ЦБК т. Казака і

т. Касьпяровіча і напісаць у наступны № „Н. К.“ артыкул „Войска і краязнаўства“. Зацьверджаны протоколы пасяджэньня Выставачнага Камітэту па організацыі выстаўкі краязнаўчых арысовак. Вырашана шмат дробных пытаньняў: аб краязнаўчай тэрмінолёгіі, аб заказах плякатаў і абвестках аб выстаўцы і г. д.

### Пасяджэньне 21/I-28 г.

Заслухана інформацыя т. Некрашэвіча аб дзейнасьці аддзелу Гуманітарных Навук ІБК. і сувязі яго з ЦБК. Вынесена пастанова: прасіць аддзел выдаць інструкцыю па вывучэньні этнографіі і павялічыць друкаваньне прац мясцовых краязнаўцаў. Прадстаўніком ад ЦБК на Полацкую і Віцебскую акруговыя краязнаўчыя конфэрэнцыі вылучаны тав. Касьпяровіч. Заслуханы протокол Менскага Акруговага Т-ва краязнаўства ад 6/I—28. Прадстаўніком ад ЦБК у рэдколегію зборніка „Меншчына“ вылучаны т. Касьпяровіч. Зацьверджаны плян кніжкі М. Касьпяровіча „Краязнаўства. Нарысы“, якую мае намер выдаць Дзяржаўнае Беларускае Выдавецтва. Прынята пастанова аб набыцьці за кошт ЦБК 110 экз. гэтай кніжкі.

### Пасяджэньне 27/I-28 г.

Разгледжаны проект інструкцыі для ўкладаньня раённага географічнага слоўніка. Даручана абранай камісіі ў складзе т. т. Касьпяровіча, Жураўскага і Аляксандрава перапрацаваць інструкцыю, увязаўшы яе з прыкладамі працы ў гэтым напрамку на Мазыршчыне. Заслухана інформацыя т. Ляўданскага аб працы Археолёгічнай камісіі і ўвязцы яе з дзейнасьцю краязнаўчых організацый. Пастаноўлена прасіць камісію 1) надрукаваць у „Нашым Краі“ агляд прысланых з месц матар'ялаў у 1927 г.; 2) у часе экспэдыцый ад ІБК зьвязвацца з мясцовымі краязнаўчымі організацыямі; 3) апрацаваць інструкцыю для археолёгічнай працы краязнаўцаў; 4) у сваіх выданьнях зьмяшчаць і працы мясцовых краязнаўцаў. Заслухана інформацыя т. Ластоўскага аб працы Этнографічнай камісіі і ўвязцы яе з працаю мясцовых краязнаўчых організацый. Вынесена пастанова: прасіць камісію зрабіць агляд у „Нашым Краі“ мясцовых матар'ялаў за 1927 г., напісаць мэтодычны ліст аб зьбіраньні этнографічных матар'ялаў і абмеркаваць пытаньне аб выданьні этнографічных матар'ялаў, сабраных мясцовымі краязнаўцамі.

Заслухана інформацыя інструктара ЦБК т. Шашалевіча аб Магілеўскай Акруговай Краязнаўчай Конфэрэнцыі і краязнаўчай працы ў Бабруйскай акрузе. Прынята пастанова надрукаваць даклад у аддзеле хронікі „Нашага Краю“ і прасіць т. Мацьвяёнка прыслаць зачытаны ім на Магілеўскай конфэрэнцыі даклад аб вывучэньні экономікі для зьмяшчэньня ў „Нашым Краі“.

### Пасяджэньне 3/II-28 г.

Прынята пастанова прасіць Інбелкульт высылаць свае выданьні дзейным т-вам краязнаўства адпаведна сьпісу, які склала ЦБК. Заслуханы протоколы № 1 і 2 Праўленьня Магілеўскага Акруговага Т-ва Краязнаўства. Разгледжана пытаньне аб гідролёгічных нагляданьнях на тэрыторыі БССР. Прынята пастанова: 1) не пярэчыць зьбіраньню гідролёгічных нагляданьняў па БССР сіламі Расійскага Гідр. Інстытуту; 2) прасіць апошні прыслаць сьпіс наглядальнікаў з БССР; 3) даручыць краязнаўчым гуртком у Менску організаваць гідролёгічныя нагляданьні над р. Сьвіслаччу. Заслуханы даклад т. Касьпяровіча аб краязнаўстве на Украіне.

## Што атрымала ЦБК у студзені месяцы.

Ад *Кв. Ванчукевіча* (Старобінскі раён)—адно гістарычнае апавяданьне.

Ад Самахвалавіцкага раённага таварыства краязнаўства — 89 песень, 16 прыпевак, 54 прыметы і 56 загадак, а ўсіх 215 фольклёрных запісаў.

Ад Астрашыцка-Гарадзецкага раённага таварыства краязнаўства—31 старонку фольклёрных запісаў.

Ад Аршанскага раённага таварыства краязнаўства—2 старонкі таго самага.

Ад *Акулава* (Мерча, Магілеўскай акр.)—20 народных песень.

Ад гуртка краязнаўства пры Вузьдзенскай сямігодцы—16 старонак фольклёрных запісаў.

Ад *Аўхверчыка* (Горкі, Акадэмія)—10 старонак таго самага.

Ад *Гарбавіцкай* (Рудня, Калінкавіцкі р.)—чатыры сшыткі таго самага.

Ад *Казакова* (Дрыбін)—3 старонкі таго самага.

Ад *Ю. Ельніка* (Рагачэў)—вялікі сшытак уласных твораў і фольклёрных запісаў.

Ад *Старога Журналіста* (Магілеў)—„Англічанін Герд і Лянкастэрскія школы на Магілеўшчыне“—рукапіс на 7 старонках.

Ад *Ів. Бжозоўскага* (Слуцак)—„Першая беларуская сярэдняя школа“—рукапіс на 6 старонках.

Ад розных мэтэоролёгічных пунктаў—22 блянкі мэтэоролёгічных нагляданьняў.

Ад школ—два адказы на анкету аб хатніх рамёствах.

Ад *Уладзімірава* (Барысаў)—„Прамысловасьць г. Барысава“—рукапіс.

Ад *Розіна* (Менск)—„Першыя старонкі з гісторыі Менску“—рукапіс на 20 старонках.

## III. Магілеўская Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя.

З 10 па 12 студзеня ў г. Магілеве адбылася III Магілеўская Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя. На ёй прысутнічала 11 дэле-

гатаў ад раённых т-ваў краязнаўства, 18 дэлегатаў ад гарадзкіх організацый, прадстаўнік ад ЦБК і профэсар Горацкай С.-Г. Акадэміі П. Салаўёў—усяго з рашучым голасам 31 дэлегат. Апрача гэтага прысутнічалі госьці. Конфэрэнцыя абгаварыла наступныя пытаньні:

1. Дзейнасьць ЦБК і чарговыя задачы краязнаўчай працы на Беларусі—даклад прадстаўніка ЦБК т. Шашалевіча.
2. Справаздачны даклад Праўленьня Магілеўскага Акруговага Т-ва Краязнаўства—даклад т. І. Мацьвяёнка.
3. Справаздачныя інформацыі Хоцімскага, Чэрыкаўскага, Журавіцкага, Чавускага і Магілеўскага раённых т-ваў краязнаўства.
4. Даклад Рэвізійнай Камісіі Магілеўскага Акруговага т-ва Краязнаўства.
5. Фаўна Беларусі—даклад проф. П. Салаўёва.
6. Вывучэньне экономікі Магілеўшчыны—даклад І. Мацьвяёнка.
7. Спосабы выкананьня орыентовачнага пляну працы раённага т-ва Краязнаўства—даклад т. Сушынскага.
8. Музэйная справа і дзейнасьць Магілеўскага Дзяржаўнага музэю—даклад т. Вянюкова.
9. Вывучэньне мястэчка—даклад т. Альтшулера.
10. Выбары праўленьня Акруг. Т-ва і Рэвіз. камісіі.
11. Бягучыя справы.

У сваім дакладзе прадстаўнік ЦБК падвёў вынікі працы ЦБК пасьля II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду і вызначыў конкрэтныя задачы, якія стаяць перад краязнаўчымі організацыямі ў напрамку популярызацыі гэтай справы, мэтодычнай падрыхтоўкі да яе і ў процэсе самай зьбіральніцка-дасьледчай працы.

У сваёй рэзолюцыі па дакладзе аб дзейнасьці ЦБК і чарговых задачах краязнаўчай працы, конфэрэнцыя прызнала, што на працягу мінулага году ЦБК правяло вельмі значную працу па організацыі і аформленьні краязнаўчага руху, шырака дапамагала краязнаўчым организацыям літаратурай, мэтодычнымі парадамі і жывым інструктарскім наведваньнем. Разам з гэтым конфэрэнцыя выказала пажаданьне, каб у мэтах пашырэньня краязнаўчай працы і паляпшэньня якасьці яе, ЦБК зрабіла захады да організацыі курсаў краязнаўства, каб яно дабілася ад адпаведных органаў пастановы аб разгрузцы краязнаўчага актыву ад іншай грамадзкай працы і прызнаньня краязнаўчай працы вельмі важнай грамадзкай працай. Конфэрэнцыя падкрэсьліла слабую сувязь між акруговымі т-вамі і раённымі і прызнала неабходным, каб ЦБК зьвярнула на гэта ўвагу. У далейшым конфэрэнцыя лічыць неабходным для нормальнай працы краязнаўчых організацый каб ЦБК дабівалася хоць мінімальных, але сталых сродкаў на гэтую працу па рэспубліканскім бюджэце, што дасьць магчымасьць рэгуляваць сродкі, наладзіць плянавую працу і мець у раёнах і акрузе хоць аднаго платнага працаўніка.

У спрэчках па дакладу выказалася 11 асоб. Згодна дакладу Старшыні Магілеўскага Акруговага т-ва Краязнаўства т. Мацьвяёнка, на 1 студзеня 1928 г. сяброў т-ва ў горадзе 90 асоб. Т-ва мае сувязь з 16 раённымі т-вамі і 8 гурткамі (4 у горадзе і 4 на раёнах). Падлік зроблены па 7 раёнах, дзе налічваецца 725 асоб. Можна прызнаць, што ўсяго сяброў краязнаўчых організацый па Магілеўскай акрузе каля 2.000, лічачы разам з гэтым і сяброў студэнцкіх краязнаўчых гурткоў г. Магілева. За мінулы год праца Акруговага т-ва вялася ў надзвычайна няспрыяючых умовах, асабліва з пачатку гэтага акадэмічнага году, калі па акруговым каштарысе былі скасаваны сродкі на працу т-ва, і т-ва ня мела магчымасьці абараняць свае фінансавыя інтарэсы. Але, ня гледзячы на ўсё гэта, т-ва за мінулы год зрабіла прыкметную працу, якая выявілася ў выданьні зборніка „Магілеўшчына“, у наладжваньні і абгаварэньні 5-ці навуковых дакладаў („Рэшткі паганскіх вераваньняў на Магілеўшчыне“, „Паўстаньне 1863 г. на Магілеўшчыне“, „Баркалабаўская хроніка“, „Зьмены ў сьветапоглядзе сялян за 10 год“), у правядзеньні музычна-этнографічнай экспэдыцыі ў Быхаўскі раён (запісана каля 80 мэлёдый) і глебавай экспэдыцыі ў той самы раён (вынута да 40 монолітаў), у наладжваньні популярных краязнаўчых вечарын у г. Магілеве і г. д. Уся праца Магілеўскага Акруговага т-ва на працягу году вялася толькі актывам, які складаецца з 14 асоб. Усе іншыя сябры Акруговага таварыства вельмі слаба, альбо зусім ня ўцягнуты ў працу.

З дакладаў 5-ці раённых т-ваў краязнаўства, якія былі заслуханы конфэрэнцыяй, відаць, што за апошні час праца троху занепала. Раней яна вельмі добра і шырака вялася ў Хоцімскім раёне. Там на 1-XII-27 г. было сяброў 136. Т-ва сабрала розныя колекцыі—нумізматычную, архэолёгічную, тканін, зрабіла 35 апісаньняў (у тым ліку апісаньне м. Хоцімску), організавала краёвы музэй. Апошні налічвае 960 экспонатаў і цяпер, на жаль, знаходзіцца ў зьвернутым стане, бо памяшканьне занята пад фізгабінэт. У Чэрыкаве за апошні момант праца заціхла, хоць у сябры т-ва ўцягнуты нават лясьнікі. У Журавічах праведзена перарэгістрацыя сяброў т-ва. Цяпер налічваецца сяброў 56. Адведзена і памяшканьне пад раённы музэй. Чавускае т-ва зьбірала розныя колекцыі, складала карты, рабіла экспонаты для будучага музэю. У Магілеўскім раённым т-ве налічваецца 88 асоб. Цэнтрам краязнаўчай працы зьяўляецца школа сялянскай моладзі.

Краязнаўчая праца тут мае вытворчы ўхіл —вывучэньне сельскае гаспадаркі і карысных выкапняў.

У спрэчках па дакладах Акруговага і раённых т-ваў прамоўцы падкрэсьлілі неабходнасьць больш цеснай сувязі між Акруговым т-вам і раённымі, на неабходнасьць некатарага „прымусу“ ў краязнаўчай працы, на неабходнасьць лепшых адносін да т-ваў з боку профсаюзных і савецкіх органаў, бо яшчэ дагэтуль у большасьці раёнаў краязнаўчая праца адсоўваецца на апошні плян культасьветнай працы.

У рэзолюцыі па дакладах Акруговага і раённых т-ваў конфэрэнцыя зафіксавала дасягненьні і недахопы, якія можна заўважыць у працы т-ваў, а таксама вызначыла напрамак і конкрэтныя заданьні далейшай працы.

Даклад проф. Салаўёва „Фаўна Беларусі“ прыцягнуў увагу культурных працаўнікоў г. Магілева. Невялікая аўдыторыя дому Асьветы была поўна. Проф. Салаўёў у сваім дакладзе даў галоўным чынам бібліографію па гэтым пытаньні і свае заўвагі адносна тых ці іншых крыніц вывучэньня фаўны Беларусі.

Старшыня Магілеўскага Акруговага т-ва краязнаўства т. Мацьвяёнак у дакладзе аб вывучэньні экономікі Магілеўшчыны конкрэтна вызначыў галоўныя экономічныя об'екты, на якіх у першую чаргу неабходна концэнтраваць увагу краязнаўцаў. Дакладчык паказаў таксама шляхі і крыніцы гэтага вывучэньня. Конфэрэнцыя прызнала неабходным надрукаваць зачытаны даклад у „Нашым Краі“.

Даклад т. Сушынскага аб спосабах выкананьня орыентовачнага пляну працы раённага т-ва краязнаўства даў вельмі поўныя камэнтарыі і меркаваньні па поваду пляну працы, якія зьмешчаны ў № 11 „Нашага Краю“ за 1927 г.

Загадчык Магілеўскага музэю т. Вянюкоў у сваім дакладзе намаляваў вельмі цікавую гісторыю разьвіцьця Магілеўскага музэю. За апошнія два-тры гады музэй надзвычайна разросься, і цяпер музэй мае шмат новых аддзелаў, аб якіх і ня думалі пры стварэньні музэю, напр. аддзел старажытнага мастацтва, аддзел рэволюцыйнага руху, прыродазнаўчы аддзел, археолёгічны аддзел, хэмічная лябораторыя, аддзел лекавых расьлін, архіў музэю і інш. Дакладу аб музэйнай справе папярэднічаў агляд музэю дэлегатамі конфэрэнцыі.

Даклад т. Альтшулера аб вывучэньні мястэчка даў абагульненьні ўсяго інструкцыйнага матар'ялу па гэтым пытаньні, які ёсьць у „Нашым Краі“ і дырэктывах ЦБК.

Пасьля справаздачных і інструкцыйных дакладаў на конфэрэнцыі адбыліся выбары новага Праўленьня Акруговага т-ва і рэвізійнай камісіі. Абранае Праўленьне складаецца з 11 асоб і 3 кандыдатаў. Сябрамі праўленьня абраны: т. т. Вянюкоў (кіраўнік прыродазнаўчае сэкцыі), Мацьвяёнак, Сушынскі (кіраўнік этнографічнай сэкцыі), Бычкоў (кіраўнік гістарычнае сэкцыі), Кукелка (кір. польсэкцыі), Кацман (кір. яўсэкцыі), Ляшчынскі (кіраўнік сэкцыі шк. краязнаўства), Сташэўскі, Крыжаноўскі і Трусэвіч. Кандыдатамі абраны: Гапановіч, Данькоў і Сучко. У Рэвізійную камісію абраны т. т. Ламака, Ляшчынскі і Машкоўскі.

У бягучых справах конфэрэнцыя заслухала 1) інформацыю аб працы Магілеўскага Аддзяленьня Цэнтрархіву, 2) інформацыю т. Вянюкова аб працы III Усерасійскай краязнаўчай конфэрэнцыі, 3) справаздачу мандатнай камісіі конфэрэнцыі і разгледзела інш. дробныя пытаньні.

Пасьля конфэрэнцыі адбылося першае організацыйнае пасяджэньне новага Праўленьня Магілеўскага Акр. т-ва. Старшынёю новага Праўленьня абраны т. Вянюкоў, яго намесьнікамі т. Мацьвяёнак і Сушынскі, а навуковым сакратаром т. Сташэўскі.

## Бабруйская акруга.

### Бабруйскае Акруговае Т-ва Краязнаўства.

З восені гэтага году т-ва спыніла сваю працу ў сувязі з тым, што сакратар яго выехаў з Бабруйску, а новага абралі толькі са сьнежня месяца. З гэтага месяца пачынаецца прыкметнае ажыўленьне ў працы праўленьня і т-ва ў цэлым. Са сьнежня месяца адбылося 3 пасяджэньні Праўленьня і сход сяброў этнографічнае сэкцыі. На пасяджэньнях Праўленьня быў зацьверджаны агульны і каляндарны плян працы Праўленьня, разгледжаны і зацьверджаны плян усіх сэкцый (за выключэньнем польсэкцыі, прыродазнаўчае сэкцыі і сэкцыі школьнага краязнаўства), вылучаны кіраўнікі для тых сэкцый, якія ня мелі кіраўнікоў.

Організацыйны плян працы Праўленьня разасланы па раёнах. Таксама разасланы па раёнах абежнікі адносна організацыі па раёнах сеткі школьна-краязнаўчых гурткоў, адносна падпіскі на „Наш Край“ і падрыхтоўкі экспонатаў для Ўсебеларускай выстаўкі краязнаўчых зарысовак і фотографій. Таксама дадзены раённым т-вам указаньні адносна мэтэоролёгічных і фэнолёгічных нагляданьняў. Для пашырэньня падпіскі на „Наш Край“ у горадзе Праўленьне вылучыла для гэтай мэты свайго прадстаўніка, які ўжо сабраў некалькі экзэмпляраў падпіскі.

Асноўныя моманты пляну працы Акруговага Т-ва: 1. Выданьне зборніка „Бабруйшчына“. Падрыхтаваных матар'ялаў да зборніка яшчэ вельмі мала. 2. Абсьледваць па акрузе каля 5 вёсак, высьветліўшы, у якіх раёнах т-вы змогуць лёгка выканаць гэтую працу. 3. Яўрэйскай сэкцыі абсьледваць два мястэчкі

акругі згодна програме, якую ЦБК мае намер апублікаваць. Мястэчкі намечаныя: Клічаў і Шчадрын альбо Сьвіслач. 4. Выращыць у станоўчым сэнсе пытаньне з падпіскай на „Наш Край“ і падтрымаць правядзеньне Усебеларускай выстаўкі краязнаўчых зарысовак і фотографій. 5. Даць дырэктывы аб правядзеньні раённых краязнаўчых конфэрэнцый і падрыхтавацца да правядзеньня Акруговай конфэрэнцыі ў канцы красавіка ці ў траўні. 6. Апрацаваць тэмы лекцый па краязнаўстве, якія неабходна будзе прачытаць на акруговых настаўніцкіх курсах. 7. Выкарыстаць у краязнаўчых мэтах турызм і экскурсіі, папулярызаваць гэтае пытаньне ў друку і вызначыць для экскурсантаў і турыстаў практычныя, краязнаўчыя заданьні.

Працы т-ва ў сучасны момант значна перашкаджае адсутнасьць самых мінімальных сродкаў нават на друкаваньне протоколаў і на перапіску з раёнамі і ЦБК. Ня гледзячы на паведамленьне ЦБК адносна зацьвярджэньня пэўнае сумы за Акруговым т-вам, апошняе паперщае не атрымала гэтага паведамленьня і падругое не дабілася яшчэ ад Акрфіна высьвятленьня гэтага пытаньня.

Краёвы музэй у Бабруйску працуе яшчэ лепш, чым у мінулым годзе і абагаціўся новымі экспонатамі. Організаваўся новы аддзел санпрасьветы, дадзены новыя экспонаты па мясцовай фабрычнай прамысловасьці, па заолёгіі, батаніцы, археолёгіі і г. д. Цікавы экспонат даў рабочы Рабкін, у якім паказана ўся вытворчасьць Бабруйскага аддзяленьня Лесбелу, пачынаючы ад абодзьдзяў і канчаючы паштоўкай з фанеры.

Популярнасьць музэю надзвычайна расьце. Аб гэтым сьведчаць шматлікія штодзённыя экскурсіі ад розных груп насельніцтва і вучнёўскай і комсамольскай моладзі. Экскурсіі лічаць абавязкам пакінуць свае нататкі ў кнізе музэю аб надзвычайных уражаньнях, якія выклікаў у іх музэй сваім усебаковым ахапленьнем жыцьця Бабруйску і Акругі. Популярны музэй і за межамі гораду. З далёкага Клічава нядаўна селянін Міхалка Гавароўскі прывёз у музэй забітую ім у пачатку студзеня каля Клічава палярную саву —экзэмпляр надзвычайна рэдкі і цікавы. Палярная сава з поўначы пераходзіць троху на поўдзень толькі тады, калі на поўначы бываюць надзвычайна моцныя маразы, але вельмі рэдкі выпадкі, каб яна залятала так далёка на поўдзень.

**Рагачэўскае Раённае Т-ва Краязнаўства.**

Т-ва налічвае 82 сябры, мае 12 гурткоў на раёне, краязнаўчы гурток пры пэдтэхнікуме і некалькі гурткоў пры сямігодках. Працы за апошні момант зусім не вялося. Рэгулярная краязнаўчая праца вядзецца толькі пры пэдтэхнікуме і аднэй з гарадзкіх сямігодак. Прычыны адсутнасьці краязнаўчай працы на раёне ў адсутнасьці самага Праўленьня т-ва. Ад Праўленьня застаўся адзін толькі старшыня Праўленьня т. Сапуноў, а сакратар перакінуты ў вёску і рэгулярную працу не вядзе. На раёне, можна думаць, некаторая краязнаўчая праца вядзецца. Так, ёсьць весткі, што ў м. Ціханічах ёсьць надзвычайна цікавыя краязнаўчыя матар'ялы і зборы ў аднаго настаўніка (прозьвішча, на жаль, не ўдалося даведацца). Там ёсьць пісьмовыя помнікі XVI-XVII ст. Аб гэтым гаварыў сябра т-ва Більдзюкевіч, які езьдзіў туды. Вядзецца яшчэ праца ў Гарадцы, дзе раней было раённае т-ва. Т-ва ня спыняе працы і цяпер. Праца гэта мае прыродазнаўчы ўхіл. Сталая краязнаўчая праца прыкметна толькі ў прыродазнаўчай галіне. Пры Рагачэўскім пэдтэхнікуме рэгулярна вядуцца мэтэоролёгічныя і фэнолёгічныя нагляданьні. Пры ім ёсьць пачатак краязнаўчага музэю з прыродазнаўчымі ўхіламі. Музэй знаходзіцца ў зьвернутым стане і частка экспонатаў зьнікла.

Т-ва ня мае ніякіх плянаў працы. Апошні раз пасяджэньне Праўленьня адбылося ў кастрычніку м-цы. Краязнаўчая праца слаба популярызавана. Краязнаўчы актыў вельмі малы—Харэвіч, Вялішчанскі, Більдзюкевіч, Сапуноў. Гурток пры пэдтэхнікуме працуе па пляне. На вакацыі студэнтам дадзены заданьні на краязнаўчыя тэмы. Адна група студэнтаў узяла заданьне—абсьледваць в. Зборова ў санітарна-бытавых адносінах.

15-І адбылася раённая настаўніцкая конфэрэнцыя, на якой быў заслуханы даклад інструктара ЦБК аб краязнаўчай працы на раёне і аб удзеле ў гэтай працы настаўніцтва. Пасьля конфэрэнцыі быў скліканы сход сяброў т-ва і на ім было абрана новае Праўленьне. Ці ўдасца новаму Праўленьню ажывіць працу—пакажа бліжэйшы час.

**Парыцкае раённае Т-ва Краязнаўства.**

Т-ва налічвае 48 сяброў. Праца па раёне не ахоплена, бо ня было да гэтага часу сталага Праўленьня. Зусім нядаўна Райком КПБ заўважыў гэта і прыняў меры для адшуканьня праўленьня. Адшукалі толькі аднаго старшыню т. Гайдучэню, які досыць актыўна ўзяўся за справу. Цэнтр увагі старшыня т-ва зьвярнуў на вучняў сямігодкі. Пры ёй з'організаваўся гурток краязнаўства, які распрацаваў на вакацыі краязнаўчыя заданьні вучнямі. Гэтыя заданьні ўжо выкананы і далі нечаканыя вынікі—матар'ялы сабраны вельмі цікавыя і каштоўныя.

На гэты самы шлях становяцца і дзьве другія важныя школы Парыцкая школа сялянскай моладзі і яўрэйская сямігодка.

У Парычах сталая краязнаўчая праца вядзецца толькі ў галіне мэтэоролёгіі і фэнолёгіі. Існуе мэтэоролёгічная станцыя і вызначаны два пункты для фэнолёгічных нагляданьняў.

18-I быў скліканы сход сяброў раённага т-ва, якія знаходзіліся ў мястэчку, і на сходзе быў заслуханы інструкцыйны даклад прадстаўніка ЦБК і абрана новае Праўленьне. Сход прайшоў ажыўлёна і цягнуўся каля 3-х гадзін. Апрача гэтага інструктар ЦБК зрабіў даклад на сходзе вучнёўскага краязнаўчага гуртка, якому была паказана прыкладная і пасільная для вучняў краязнаўчая праца ў розных галінах навукі.

**Глускае раённае Т-ва Краязнаўства.**

Раней т-ва вяло досыць прыкметную дзейнасьць: было сабрана шмат археолёгічных экспонатаў, старых кніжак, фольклёрных матар'ялаў, ботанічных экспонатаў, былі зарэгістраваны ўсе помнікі старажытнасьці па раёне і г. д. Усё гэта або пераслана ў Бабруйскі Акруговы музэй і ІБК, альбо аддадзена ў музэй, які заснаваўся пры агроцэнтры м. Глуску. Цяпер-жа праца амаль што не вядзецца і з восені зусім ня было пасяджэньня Праўленьня, бо яно ў поўным складае перавялося ў іншыя раёны. Застаўся адзін толькі старшыня Праўленьня т. Храмовіч, але і ён працуе ў 16 в. ад м. Глуску у м. Гарадку. Уся перапіска з вышэйпамянёнымі краязнаўчымі організацыямі і вядзецца старшынёю т-ва з м. Гарадка. Там утвараецца як-бы новы цэнтр краязнаўчай працы на раёне. Сабраны ўжо некаторыя экспонаты па ботаніцы, заснаваны гурток пры сямігодцы. На раёне працуе яшчэ краязнаўчы гурток пры Карпілаўскай сямігодцы. Тва налічвае каля 35 сяброў. Ёсьць невялікія сродкі ад сяброўскіх узносаў. На іх будзе выпісаны „Наш Край". Ёсьць надзея, што каля 4-5 экзэмпляраў „Нашага Краю" будзе выпісана на раён.

Цяпер т-ва вызначыла два фэнолёгічных пункты і пры Гарадоцкай сямігодцы будзе яшчэ заснавана мэтэоролёгічная станцыя.

У лютым м-цы будзе праведзена перарэгістрацыя сяброў т-ва і будзе абрана новае праўленьне, якое вырашыць пытаньне, у якім месцы прызначыць раённы цэнтр краязнаўчае працы.

# Праца школьна-краязнаўчага гуртка.

*(Нова-Барысаў).*

Школьна-краязнаўчы гурток Нова-Барысаўскае школы існуе трэці год. Цяпер у гуртку 54 вучні з 4, 5, 6 і 7 груп. Больш актыўна вядуць працу 5 і 6 групы.

Гурток мае бюро з 5 чалавек. Бюро вызначыла старшыню і сакратара.

Агульны сход гуртка адбываецца два разы ў месяц і два разы зьбіраецца бюро.

Бюро падрыхтоўвае абвестку агульнага сходу гуртка, праглядае з кіраўнікам намечаныя тэмы для самастойнага выконваньня.

На сходах зачытваюцца тэмы, вядзецца гутарка, што і як рабіць пры выконваньні заданьняў, а таксама вывады па выкананьні тэй ці іншай працы, яе дадатныя і адмоўныя бакі. Вядуцца гутаркі на агульныя тэмы аб краязнаўстве. Даручаюцца вучням даклады-падагульненьні аб праробленай працы.

У цяперашні час гурток вядзе наступную працу:

1. Вывучае народную мэдыцыну.
2. Вывучае прамысловасьць фабрычную і саматужніцкую.
3. Вывучае расьліннасьць гораду (дрэвы і хмызьнякі).
4. Вывучае санітарнае становішча гораду.
5. Вывучае сялянскую гаспадарку.
6. Зьбірае фольклёрны матар'ял.
7. Вядзе фэнолёгічныя запісы.
8. Вывучае % усходжасьці нашых збожжавых расьлін.
9. Вывучае мясцовую тэрмінолёгію.
10. Вывучае гістарычныя эпізоды з жыцьця Барысава ў часы окупацый.
11. Вясною намечаны вучастак сенажаці для вывучэньня.

З пералічаных прац ужо выканана:

1. Сабрана часьць лекавых расьлін.
2. Абсьледваны прадпрыемствы Н.-Барысава.
3. Апісана адна вясковая гаспадарка.
4. Зроблена экскурсія па ўсіх садох і парках гораду з запісамі.
5. Запісана многа прымет, варажбы, загавораў, песень.

У мінулы год гурток быў разьбіты на дзьве часткі: культурна-гістарычную і географа-прыродазнаўчую.

Цяпер гурток на часткі не падзелены. Зроблена гэта таму, што вучні ня могуць выбраць сабе сталую галіну працы, а зьбіраюць, што каму пападзецца, абы гэта адпавядала тэме.

Сябры гуртка, якія ня выканалі ніводнай працы або часткі на працягу месяца, мэханічна выбываюць з гуртка.

*У. Уладзіміраў.*

# Беларускае краязнаўства па-за межамі БССР.

Апрача Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, беларусы жывуць у розных іншых частках Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, у Латвіі, Літве і ў Заходняй Беларусі, якая цяперака пад Польшчай. Вывучэньне тэрыторый населеных імі, іхняга атачэньня і жыцьця наогул імі-ж самімі яшчэ амаль не наладжана. Да апошняга часу яны застаюцца об'ектам, які вывучаюць іншыя, але ў вельмі слабой ступені вывучаюць сябе самі.

У суседніх саюзных рэспубліках белару-

скіх краязнаўчых організацый або беларускіх сэкцый агульных краязнаўчых гурткоў і таварыстваў няма. Найбольш актыўныя краязнаўцы-беларусы ўваходзяць у склад рускіх і украінскіх краязнаўчых аб'яднаньняў і працуюць тамака, даючы часамі вельмі каштоўныя вынікі яе. У Маскве, Ленінградзе і Кіеве пры розных беларускіх зямляцтвах існуюць гурткі краязнаўства, якія маюць мэтаю мэтодолёгічную падрыхтоўку сваіх членаў і вывучэньне і дасьледваньне Беларусі ці пэўных частак яе. Дзякуючы матар'яльнай незабясьпечанасьці саміх гурткоў і іх членаў, дзейнасьць гэтых гурткоў выявілася ў вельмі слабой ступені.

У пэўнай меры гэтаму спрыяла і іх слабая сувязь з Цэнтральным Бюро Краязнаўства. Трэба думаць, што з часам гэтыя гурткі ўзмацняцца і стануць вельмі карыснымі колектыўнымі дзеячамі ў справе вывучэньня і дасьледваньня Беларусі.

Беларускае краязнаўства ў Латвіі, дзе налічваецца звыш 75.000 беларусаў, дасягнула пакуль што значных вынікаў ў справе популярызацыі ідэй вывучэньня беларусамі густа заселеных імі тэрыторый, саміх сябе і свайго жыцьця, а таксама ў галіне зьбіраньня краязнаўчых матар'ялаў. Гэтая праца концэнтравалася вакол беларускіх школ, асабліва гімназій і рэдакцыі, цяпэрака зачыненай газэты „Голас беларуса". У апошнія часы праца вядзецца Беларускім Навукова-Краязнаўчым гуртком пры Таварыстве беларусаў-выбаршчыкаў у Сойм і інш. органы ў Латвіі. У паштовай скрынцы „Голаса беларуса", у заметках, зьмешчаных у ім рэдактарам яго, а таксама іншых, даваліся пэўныя заданьні і інструкцыйныя парады адносна фотографаваньня мясцовага краю і прысылкі фотографій, адлюстроўваючых гісторыю яго, зьбіраньне матар'ялаў аб катаваньні сялян памешчыкам Борхавым у 1838—1841 г г. і паўстаньнях сялян, аб запісу народных паданьняў і наогул фольклёры, аб прысылцы апісаньня пляну возера да легенд аб ім і да т. п. Падымалася пытаньне аб організацыі злучанага беларускага хору, які-б праз пэўны час рабіў выступленьні ў розных гарадох Латвіі. Пры беларускай Дзьвінскай гімназіі быў організаваны фотогурток, які меў мэтаю адлюстраваць жыцьцё беларусаў у Латвіі і іх атачэньне, як у сучасным, так і ў помніках мінулага. У газэце „Голас беларуса", а пасьля асобнай брошурай была выдадзена інструкцыя для зьбіраньня слоўнікавых матар'ялаў мясцовай народнай беларускай мовы. У латвійскім беларускім зямляцтве ў Празе рыхтавалася праца „Латвійска-беларускія ўзаемаадносіны ў сьвеце гісторыі". Пры беларускіх настаўніцкіх курсах у Рызе меўся організавацца краязнаўчы гурток.

За апошнія пяць год вучні беларускіх гімназій прадставілі на мясцовыя выстаўкі шмат матар'ялаў, але няведама дзе яны загінулі. Каля 7 орыгінальных малюнкаў, што адлюстроўваюць мясцовы край, зьмешчана ў беларускіх выданьнях. У часопісе Люцынскай, цяперака зачыненай, беларускай гімназіі зьмешчана каля 70 запісаў фольклёру і народных паданьняў; у часопісе Дзьвінскай беларускай гімназіі „Школьная Праца"— каля 7 і ў газэце „Голас беларуса"—каля 10. Бясспрэчна, гэтыя запісы маюць пэўныя хібы, але бяз іх не абыйсьціся ніякаму дасьледчыку беларускага фольклёру. Навукова-краязнаўчым гуртком атрыманы слоўнікавыя матар'ялы, большасьць якіх належыць Баркоўскаму з Краслаўкі. У газэце „Голас беларуса" гуртком апублікавана праца „Рэлігійнае жыцьцё беларускага народу". У сучасны момант друкуецца цікавая праца аднаго з членаў гуртка пад назваю „Беларусы ў Латвіі" памерам каля 15 друкарскіх аркушаў. Гурток распачаў усебаковае апісаньне Латгаліі, дзе беларусы жывуць шчыльнай масай. Зроблена каля 5 экскурсій па Латвіі у якіх прымалі ўдзел настаўнікі і вучні. Галоўнаю перашкодаю разьвіцьця краязнаўчага руху сярод беларускай нацыянальнай меншасьці ў Латвіі зьяўляецца матар'яльная беднасьць яе, уціск беларускіх культурных організацый і ўстаноў уладаю і поўная адсутнасьць сувязі з цэнтрам беларускага краязнаўчага руху і адсюль—адсталасьць ад беларускай навукі наогул.

Ня гледзячы на даволі значнае разьвіцьцё беларускага друку ў Літве, беларускае краязнаўства тамака нават не распачалося. Выданы вялікі том „гісторыі беларускай кнігі", „руска-беларускі слоўнік" і 12 нумароў часопісу „Крывіч", якія маюць агульна-беларускае навуковае значэньне. У часопісе „Крывіч", які ўжо больш ня выходзіць, амаль не спатыкаецца краязнаўчых матар'ялаў, якія-б апісвалі жыцьцё беларусаў у Літве, іх атачэньне і г. д. А ў апошні час нават правага кірунку беларуская навуковая праца ў Літве ўрадам спынена.

У Заходняй Беларусі змагаюцца за сваё існаваньне і ледзь дыхаюць дзьве краязнаўчыя ўстановы, а ўласна—Беларускае навуковае таварыства і музэй імя Луцкевіча.

Беларускае Навуковае Таварыства заснавана ў Вільні ў 1918 г. Мэтаю яго зьяўляецца разьвіцьцё навуковай працы, абуджэньне замілаваньня да навуковых досьледаў і популярызацыя ведаў. Таварыства складаецца з сэкцый: музэйнай, мовазнаўча-тэрмінолёгічнай і краязнаўчай. Таварыства падрыхтоўвае да друку свой першы штогоднік.

Беларускі музэй імя Яна Луцкевіча ў Вільні адчынены Беларускім Навуковым Таварыствам у 1921 годзе. Кіруе музэем Праўленьне Бел. Навуковага Таварыства

на чале з старшынёю Ант. Луцкевічам (зараз у турме). Музэй мае аддзелы: рукапісаў, бібліотэку, графікі і маляўніцтва, нумізматыкі, зброі, старадаўных тканін, народных вырабаў.

Польскі ўрад душыць беларускі народ у Заходняй Беларусі і ня спыніўся нават перад арыштам беларускага вучонага Антона Луцкевіча—старшыні Беларускага Навуковага Таварыства. Пры шматмільённай колькасьці беларускага насельніцтва Заходняй Беларусі польскі ўрад не дазваляе мець ніводная дзейнае беларускае краязнаўчай організацыі.

# Бібліографія.

## Матар'ялы да бібліографіі па вывучэньні яўрэйскага насельніцтва мястэчак Беларусі*).

### Агульная і справачная літаратура.

1. Еврейская Энциклопедия. Свод знаний о еврействе и его культуре в прошлом и настоящем. 16 томов. С.-Петербург.

2. Сборник материалов об экономическом положении евреев в России. т. т. I-II.
Издание Еврейского колонизационного общества. С.-Петербург—1904.

3. Русско-Еврейский архив. Документы и материалы для истории евреев в России. т. т. I-II-III—1882-1903.

4. Регесты и надписи. Свод материалов для истории евреев в России 80 г. — 1800 г. т. т. I-II-III (1899-1910-1913).
Издание Еврейского Историко-Этнографического Общества С.-Петербург.

5. Бершадский, С. А. — Литовские евреи.—Спб. 1883.

6. Областной Пинкос Ваада главных Еврейских общин Литвы. Собрание постановлений и решений Ваада (сейма) от 1623 до 1761 г... Текст с русским переводом д-ра И. И. Тувима, под редакцией... С. Дубнова.—Спб—1909 г.

7. История еврейского народа. Том XI,—История евреев в России. Том I.
Издание т-ва „Міръ" Москва. 1914.

8. Гессен, Ю. И.—История еврейского народа в России. т. т. I-II.

9. Казенные еврейские училища. Том I под редакцией Лозинского, С. Г. со вступительной статьей Гинзбурга, С. М.
Петербург. 1920.

10. Гинзбург, С. М. — Отечественная война 1812 года и русские евреи.
Изд-во „Разум". Спб. 1912.

11. Кооперация среди евреев (по данным 1911 и 1912 г. г.).
Составл. под ред. И. А. Блюма и Л. С. Зака.
Кредитная кооперация. Снабжение и сбыт. Спб. 1913.

12. Бинншток, В. И. и Новосельский, С.
Материалы по естественному движению еврейск. населения в Европ. России за 40 лет (1867-1906 г. г.).
Петроград. 1915.

13. Никитин, В.
Еврейск. земледельч. колонии в Западн. крае.
Восход. 1890—I, II, III, IV, VIII, IX; 1891—X, XI; 1892-VI, X; 1893-II, III, VI, VII, X.-XII.

14. Справочная книга по вопросам образования евреев. Издание о-ва распространения просвещения между евреями. С.-Петербург. 1901.

15. Материалы по вопросам профессионального образования и поощрения ремесленного труда среди евреев в России.
Труды совещания членов комиссии при о-ве распространения просвещения между евреями, с участием местных деятелей (декабрь 1903 - январь 1904 г.).
Издание Еврейского Колонизационного Общества.
С.-Петербург. 1905.

16. Еврейское местечко в революции. Очерки под редакцией проф. В. Г. Тана-Богораза. Ленинград. 1926 г.

### Па гісторыі і экономіцы паасобных губэрань і паселішч.

1. Ан-ский, С. А.
1910.—Из Легенд о Мстиславском деле.
Пережитое. Том II. С.-Петербург. 1901.

*) Лічым патрэбным падкрэсьліць наступнае: а) Сьпіс ахапляе ў межах был. губэрань—Віцебскай, Менскай і Магілеўскай. б) Сьпіс уключае тыя матар'ялы, якія зьяўляюцца неабходнымі пры вывучэньні нашых мястэчак. в) У дадзены сьпіс уключаны толькі выданьні на расійскай мове.

2. Бейлин, С. Х.
1910.—Переписка между Бухарскими и Шкловскими евреями 1802 г.
Пережитое. Том II. С.-Петербург. 1910.
3. [ . . .
1911 —Библиотечное дело в Шклове.
Вестник о-ва распространения просвещения между евреями в России. 1911 г. Книга № 5 (март). Стр. 128-129.
4. Вино-Сухаров.
1876.—В тысяча первый раз (по поводу сочинения „Шкловское убийство", Киев. 1874 г).
Новороссийский телеграф. 1876. № 556.
5. Военский, К.
1906.—Наполеон и Борисовские евреи в 1812 г Эпизод из истории отечественной войны. Спб. 1906.
6-а. Военский, К. А.
1906.—Наполеон и Борисовские евреи в 1812 г.
Военный сборник. 1906. № 9.
6. Гесен, Юлий.
1910.—„Мстиславское буйство" (по архивным материалам).
Пережитое. Том II. С.-Петербург. 1910.
7. Гессен, Ю И.
1902.—К истории средневековых обвинений (Сенненское дело 1799).
Восход. 1902. IV.
8. Гуревич, С. М.
1903.—Письма из Могилевск. губернии. Хрон. Восхода. 1903. №№ 7, 8.
9. Г. Н.
1864.—Евреи арендаторы в Могилевской уб.
Могилевск. Губернск. Ведом. 1864. № 46.
10. Дубнов, С.
1894.—Белорусский кагальный Сейм („Белорусская синагога").
Восход. 1894. кн. IV.
11. Дубнов, С. М.
1893.—Исторические сообщения. V. „Первые еврейские колонисты из Белоруссии" (1808).
Восход. 1893. кн. VIII (август).
12. Дубнов, С. М.
1899.—Из хроники Мстиславской общины (очерк).
Восход. 1899. Книга 9.
13. Дубнов, С.
1894.—Историч. Сообщения (кагальный устав м. Петровичи).
Восход. 1894. кн. II.
14. [ . . .
1882. — Дело о мещанине Богузо (о „Шкловском" убийстве). Приложение (перепечатано из голоса 1876 № 68).
„Книга Кагала"—Я. Брафмана. Изд. 2-е. Часть I. С.-Петербурга. 1882.
15. [ . . .
1912.—Еврейские библиотеки в Могилевской и Витебской губ. в 1911.
Вестник о-ва распространения просвещения между евреями в России. 1912. № 16 (октябрь) стр. 37—55.
16. Жуковский, Э.
1882.—Евреи („Этнографический очерк"). Опыт описания Могилевской губернии... А. С. Дембовецкого. Книга I. Стр. 694—782.
17. Зеленский, И.
1861.—Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального Штаба. Минская губ. (Еврейская торговля).
Часть II. Стр. 375—383. Спб. 1861.
18. Зеленский, И.
1862.—Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального Штаба. Минская губ. (Евреи земледельцы).
Стр. 613—618. Спб. 1862.
19. [ . . .
1870.—Изуверство евреев в Шклове (корреспонденция).
Могил. губ. Ведом. 1870. № 26.
20. [ . . .
1870.—Из Шклова о кагале (корреспонденция).
Могил. губ. Ведом. 1870. № № 66, 70.
21. [ . . .
1877.—Кагальный страшный суд евреев над евреем: Шкловское убийство.
Киев. 1877. 61 стр.
22. Каган, М.
1910.—К пророчеству о Бонопарте—сообщение („прароцтва", па думцы аўтара, вядзе сваё пахаджэньне з Шклова).
Еврейская Старина. 1910.
23. Каган, Г. В.
1905.—К устройству еврейской школы Керамики (в Могилевской губ.). Доклад Г. В. Кагана.
Материалы по вопросам профессионального образования и поощрения ремесленного труда среди евреев в России. Труды совещания членов комисии при о-ве... (декабрь 1903.—Январь 1904 г.).
Издание Евр. Колониал. о-ва. С.-Петербург. 1905.
24. Кацнельсон, А.
1910.—Рассказ моей бабушки (да гісторыі яўрэяў Бабруйску і Шчэдрына).
Еврейская старина. 1910. Вып. 4.
25. Кацнельсон, А. И.
1912.-(Евреи в войне 1812 года). Жертвы войны в Белоруссии.
Еврейская Старина. 1912 стр. 85.
26. Каценеленбоген, С.
1880.—Евреи Минской губернии.
Русский Еврей. 1880. № 21.
27. Коган, Давид.
1911.—Московский разгром Быхова в 1659 г. (с прибавлениями С. Д.).
Еврейская Старина. 1911. стр. 114.

28. Коробков, Х.
1912.—Перепись еврейского населения Витебской губернии в 1772 г. (по архивным источникам).
Еврейская Старина. 1912. Стр. 164.
29. Кренке, В.
1881.—Свежо предание, да верится с трудом (о роли евреев в истории Шамовского Ссудо-сберегат. Товарищества Мстиславск. уезда, Могил. губ.).
Новое время. 1881. № 1892.
30. Лебедев, Л.
1865.—О казен. еврейск. училищах в Витебской губ.
Журн. Минист. Народн. Просвещ. 1865. ч. CXXII. Стр. 105.
31. Лодзинский, П.
1885.—Корресп. из Витебска (из школьн. статист. Витебск. губ.).
Нед. хроника Восхода. 1885. № 45.
32. Лурье, О.
1889.—Дубровенские евреи-кустари (экономич. заметка).
Восход. 1889. кн. 9 (сентябрь).
33 Лурье, О. Д.
1890.—Дубровенские евреи-кустари.
Отд. изд. Москва. 1890. 27 стр. in 32⁰.
34. Лурье. Евг.
1909.—По поводу кн. Рохлина „м-ко Краснополье“ (рэцэнзія).
Еврейский Мир. 1909. Сентябрь.
35. М. В.
1885.—О кустарной промышленности в Дубровне (артыкул).
Экономический журнал. 1885 г.
36. М. В.
1886.—Еврей-кустарь.
Экономический журнал. 1886. 12.
37. Магидов, А.
1861.—Нечто о Шклове.
Рассвет. орган Русских евреев. 1861. № 44.
38. Марек, П. С.
1910.—Народный вариант одной драмы „Achashuerosch-spiel“ [паходзіць з м. Шклова].
Пережитое. Том II. Спб. 1910.
39. Марек, П.
1903.—Страница из жизни Горецкой еврейской общины.
Восход. 1903. кн. 5.
40. Марек, П.
1903.—Белорусская синагога и ее территория—историческое сообщение.
Восход. 1903. кн. 5.
41. Марек, П. С.
1909.—Постановление Круглянского кагала о медной монете и о лаже.
Еврейск. Старина. 1909, I. 110.
42. [ . . .
1922.—Материалы об антиеврейских погромах. Серия I-ая. Погромы в Белоруссии. Вып. I-й. Погромы, учиненные белополяками (официальные документы, обследования и свидетельские показания).
Москва. 1922.
43. [ . . .
1910.—Матариалы по еврейскому школьному делу (школьное дело в Лепельском уезде Витебской губ.: Лепель-Бешенковичи-Чашники-Кубличи-Ушачи-Бочейково).
Вестник о-ва распространения просвещения между евреями в России. 1910. № 1 (ноябрь).
44. Машкилейсон, А.
1882.—Корр. из Минска (о евреях земледельцах Минской губ.).
Нед. хроника Восхода. 1882. 10, 14.
45. Мстиславский, С.
1886.—Евреи в Могилевской губ. (историч. очерк, преимущественно по сочин. Дембовецкого).
Восход. 1886. 9.
46. Н. В. Г. (Вильно).
1890.—Дубровенская кустарная промышленность (артыкул).
Восход. 1890. Октябрь.
47. Н. К.
1866.—Заметка о Борисове и его уезде.
Минск. Губернск. Ведом. 1866. № 29.
48. [ . . .
1869.—О современном состоянии еврейского образования в Могилевской губ.
Виленский Вестник. 1869. № 47.
49. [ . . .
1874.—О переписи еврейск. населения в Витебской губ.
Виленский Вестник. 1874. № 261.
50. [ . . .
1875.—О переписи еврейского населения в Мозырском уезде.
Виленский Вестник. 1875. № 1.
51. [ . . .
1874.—О переписи еврейского населения в Минской губернии.
Виленский Вестник. 1874. № 267.
52. [ . . .
1884.—Об отбывании воинской повинности евреями по наблюдениям в Минском уезде Минской губ.
Русь. 1884. № № 3, 10, 12.
53. П. В.
1863.—Несколько слов о евреях Могилевской губ.
Киевский телеграф. 1863. № 17.
54. [ . . .
1870.—Падение еврейск. кагала в Шклове.
Могил. Губерн. Ведом. 1870. № 59.
55. Паперно, А.
1910.—Из Николаевской Эпохи. Воспоминания [апісаньне яго роднага мястэчка Капыля на Случчыне ў палове XIX стагодзьдзя].
Пережитое. Том II. С.-Петербург. 1910. Том. III. С.-Петербург. 1911.

56. [ . . .
1874.—Перепись евреев (письмо из Мозыря).
Неделя. 1874. № 51.
57. Розенблюм, А. Г.
1905.—О Дубровенской ткацкой фабрике. Доклад А. Г. Розенблюма.
Материалы по вопросам профессионального образования и поощрения ремесленного труда среди евреев в России.
Труды совещания членов комиссии при о-ве... (декабрь 1903.—Январь 1904 г.).
Издание Еврейск. колонизац. о-ва. С.-Петербург. 1905.
58. Рохлин, Л.
1905.—Очерк санитарного состояния хедеров местечка Краснополья, Могилевской губернии.
Еврейская жизнь. 1905. № 7 (июль).
59. Рохлин, Л. Л.
1909.—Местечко Краснополье Могилевск. губернии.
Опыт статистико-экономического описания типичного местечка, черты еврейской оседлости. С.-Петербург. 1909.
Еврейское колонизационное общество. Статистико-экономические очерки и исследования. Выпуск 4.
60. С. М.
1890.—Рецензия на кн. Лурье, О. Д. „Дубровинские евреи-кустари". Москва. 1890.
Восход. 1890. кн. VIII.
61. Сементовский, А.
1868 — Статистические сведения о продаже питей в у. у. г. г. Витебской губернии и об участии в этом евреев.
Витебск. Губерн. Ведом. 1868. № 67.
62. Сиротинер.
1926.—Из жизни „Воздухотреста". Еврейское население местечка Сиротино.
Еврейское местечко в революции. Очерки под редакцией проф. В. Г. Тана-Богораза. Ленинград. 1926.
63. Сраговіч, М. М.
1927.—Яўрэйскае насельніцтва Горацкага раёну (мінулае і сучаснае). Кароткі гістарычны, соцыяльна-экономічны і культурнабытавы агляд.
Працы навуковага таварыства на вывучэньні Беларусі пры Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі. Том III.
Горкі. БССР. 1927.
Таксама—асобная адбітка.
64. Субботин, А. П.
1888.—В черте еврейской оседлости. Отрывки из Экономич. исследований в Западной и Юго-Западной России за лето 1887 г.
Вып. I-ый. Минск, Вильна, Ковна и их районы.
Спб. 1888. 148 ст.
65. Топоровский, Б.
1916.—Сведения о евреях Могилевского края (1599 и 1697 г. г.).
Еврейская Старина. 1916 г. стр. 320.
66. Тривус, М.
1912. — Ритуальные процессы дореформенного русского суда.
Гл. III. „Ритуальное" дело, происходивш. в Борисове в 1833 г.
Еврейская Старина. 1912.
67. [ . . .
1874.—Убийство, совершен. Шкловским кагалом.
Киевлянин. 1874. № 58.
68. [ . . .
1901.—Учебный план мужского одноклас-ного училища в м. Краснополье, Могил. губ. (Утвержден попечителем Виленск. Учебн. Окр. 8 ноября 1895).
Справочная книга по вопросам образования евреев. Издание Опе. С.-Петербург. 1901. Стр. 164-165.
69. Цинберг, С.
1928. — Шклов и его „просветители" конца XVIII века.
Еврейская Старина. Ленинград. 1928.
70. Э-н, Ш.
1874 —Фельетон (о Койдановском цадике).
Виленск. Вестник. 1874. № 252.
71. Эйзенбет, И. Г.
1905.—По Могилевской губернии (путевые впечатления).
Хроника Восхода. 1905. № № 46, 47-48.

А. Д. Палес.

---

Выдавец--Інстытут Беларускае Культуры.
Рэдактар—З. Бядуля.

Члены Рэдакцыі: М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.

10083